

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

22 МАЯ 1998 Г. № 21/3949 КОШТ 4 000 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на наш тыднёвік на другое паўгоддзе 1998 года. Спадзяёмся, што Вы, нашы прыхільнікі і аднадумцы, не пакінеце сябе без “ЛіМа”...*

*Кошт падпіскі застаўся ранейшым. Для індывідуальных падпісчыкаў кошт на адзін месяц — **15 тысяч рублёў**, на квартал — **45 тысяч** і на паўгоддзе — **90 тысяч**.*

*Наш індэкс — 63856.*



# Ствары сваю малітву...

Усе выбітныя канцэрты заканчваюцца аднолькава: захапленне публікі, хваля авацый, воклічы “брава!”. Затым публіка падзяляецца на дзве няроўныя часткі: прыкметная большасць паварочвае да дзвярэй, астатнія рухаюцца ў бок сцэны — віншаваць. Але гэтым разам традыцыя была парушана.

Скончыўся канцэрт, аціхлі воплескі. А людзі... засталіся на сваіх месцах. Сядзелі моўчкі, нібыта нават баючыся ўздыхнуць.

Што значыла тая Цішыня? Чаканне працягу сустрэчы з Музыкай? Хвілю вяртання ў свет зямны — так “спускаецца з нябёсаў” душа верніка пасля набажэнства? Ці, можа, — падсвядомае маленне ў тым храме, які кожны, следам-разам са стваральнікамі гэтага канцэрта, стварыў у грэшным сваім сэрцы?

*(Працяг на стар. 3)*





**ЛіМ КОЛА ДЗЁН**

***"Долетит ли Лебедь да Кремля?" — пішуць сёння расійскія газеты і канстатуюць: "Партия власти проиграла вчистую". А нашы аналітыкі мяркуюць, што абранне Аляксандра Лебедзя губернатарам не будзе спрыяць стабілізацыі палітычнага становішча ў Расіі, а значыць, у пэўным сэнсе і Беларусі. На жаль, Беларусь не настолькі моцная дзяржава, каб беларусам быць абыякавымі да палітычных падзей за нашай усходняй мяжой. А вельмі хацелася б. Лепей асвятляць культурнае жыццё суседняй краіны, чым яе чарговую "наменклатурную рэвалюцыю".***

### ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ



У сераду, 20 мая, у Палацы мастацтваў адкрылася выстава твораў Аляксандра Міхайлавіча Кішчанкі, народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі. Выстава прысвечана памяці мастака. Творчасць Аляксандра Міхайлавіча — яскравая з'ява ў нашым мастацтве. Ён з тых, хто знайшоў новы шлях пасля таго, як стала відавочна, што "суровы стыль" сябе вычарпаў. У той час, як большасць мастакоў Беларусі зацыкліліся на змрочнай тэме Вялікай Айчыннай, Кішчанка сцвярджаў сваімі палотнамі каштоўнасць звычайных жыццёвых радасцяў.

### ЗАКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У Гомелі амаль адначасова зачыніліся мясцовыя газеты — "Джэм", "Тэлеінфарм", "Тэлеграф". Прычына? Рэзкае павышэнне расцэнак на друкарскія паслугі і кошту паперы. Акрамя таго, ва ўмовах "рынкавага сацыялізму" цяжка знайсці спонсараў і рэкламадаўцаў. "Прэс-экспрэс", фірма, што займаецца розпічным гандлем газетамі, таксама на мяжы банкруцтва.

### ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Свободные новости" працягваюць публікаваць цыкл Анатоля Казловіча "Мы в 1994—2006 гг.". У апошнім нумары — артыкул "Четыре буквы", які мае падзагаловак "Репортаж из страны, впавшей в детство". Сэнс артыкула ў наступных радках: "Калі дарослыя не здольныя мудра вырашыць дзяржаўныя праблемы, дзецям, на жаль, нікуды не схавацца ад патрыятызму, які пранікае паўсюль. Бачыце. Французскі хлопчык Гаўрош імкліва бяжыць на палаючую барыкаду, а рускі Паўлік Марозаў — у воінскі штаб, партызан Марат Казей бярэ ў рукі апошнюю гранату, гітлерюгенд — фаўстпатрон, чачэнскае хлапчаня — "калашнікаў"...

Глядзіце. Маленькі беларус бярэ запалку. Ён стаіць у цэнтры невялікага натоўпу, але яму здаецца, што ён — пуп зямлі. Запаленую запалку трынаццацігадовы радыкал падносіць да дзяржаўнага сцяга. Сцяг ярка ўспыхвае..."

### АБРАННЕ ТЫДНЯ

Архіепіскап Беластоцка-Гданьскі Сава абраны кіраўніком Польскай праваслаўнай царквы, якая мае больш за 300 прыходаў па ўсёй краіне і налічвае прыкладна 700 тысяч вернікаў. Большасць вернікаў — беларусы Беласточчыны.

### СЯБРОЎСТВА ТЫДНЯ

З 20 па 26 мая Амбасада Латвійскай Рэспублікі ў Беларусі сумесна з Латвійскай асацыяцыяй тэкстыльнага мастацтва ладзіць выставу ў Доме дружбы. На выставе творы адзінаццаці мастачак розных пакаленняў. Большая частка твораў — габелены. Выстава дае магчымасць пазнаёміцца не толькі з мастацкімі работамі, але і з новым каталогам асацыяцыі, у якім сабраны амаль усе дасягненні тэкстыльнага мастацтва Латвіі за апошнія пяць гадоў. Нашы суседзі клапоцяцца як пра старыя, так і пра новыя рынкі збыту. А мы?

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

З 19 мая ў галерэі "Шостая лінія" экспануецца канцэптуальны праект Вольгі Варэнікавай "TV не для ўсіх". Аўтар лічыць, што "TV" і тэлевізар — гэта далёка не адно і тое ж і смела супрацьпастаўляе фатаграфію (якую трактуе як жанр выяўленчага мастацтва) сімвалу масавай культуры — тэлебачанню. "Тэлеэкран засмечаны. Ну дык здыміце свой серыял. Тое, што бачыце сваімі вачыма, і ёсць тэлебачанне, і чым багацейшае ваша жыццё, тым яно (TV) цікавейшае". І сапраўды, з самага звычайнага постсавецкага жыцця можна зрабіць "Санта-Барбару" на зайздрасць Галівуду.

### БЕНЕФІС ТЫДНЯ



Барыс Міхайлавіч Пянчук, народны артыст Беларусі, прафесар, — спраўляе юбілей. Здаецца, не так даўно пісалі пра яго ў "ЛіМе" з чарговай святочнай нагоды — віншавалі, распавядалі пра багатае цікавае творчае жыццё. Цяпер віншуем ужо з 80-годдзем. Загартоўка вайсковага дырыжора (колькі гадоў узначальваў ён духавы аркестр колішняй БВА!), досвед у кіраванні вялікімі зводнымі калектывамі (ад гістарычнага парада Перамогі на Краснай плошчы ў Маскве да пазалеташняга свята "Беларускія фанфары" ў Баранавічах), педагагічная праца, удзел у шматлікіх конкурсных журы... Усё гэта дысцыпліну, прымушае "быць у форме", нават зняўшы кіцель з пагонамі. І — дазваляе не зважаць на гады. З хваляваннем і ўпэўненасцю, уласцівымі сапраўдным Артысту, чакае Барыс Міхайлавіч Пянчук сённяшняга вечара: у Доме афіцэраў а 17-й гадзіне пачынаецца ягоны бенефіс. З удзелам галоўнага вайсковага аркестра краіны...

---

ФЕСТЫВАЛІ

# Паставы — у чаканні...

Менш за месяц застаецца да прыезду гасцей на ўжо знакаміты фестываль у Паставах. Добрыя знаёмцы ды новыя сябры сустрэнуцца тут, каб музыкай сваёй падтрымаць-прадоўжыць дух свята. Свайго — і ўжо трэці год, як слушна абвешчанага Міжнародным, — фестываля "Звіняць цымбалы і гармонік".

Нядаўна Міністэрства культуры Беларусі ды Пастаўскі райвыканкам прынялі адпаведны дакумент, у якім зазначылі, што сёлетні фэст мае на мэце далейшае развіццё ды папулярызацыю традыцый народна-інструментальнай творчасці, павышэнне выканаўчага майстэрства калектываў і асобных выканаўцаў, узбагачэнне іхняга рэпертуару, пашырэнне і ўмацаванне культурных сувязяў паміж народамі. Мяркуецца, што сёлета побач з лепшымі аматарскімі народна-інструментальнымі калектывамі ды індывідуальнымі выканаўцамі з Беларусі ў Паставы наведаюцца госці з Летувы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіны.

Запланаваны шэраг канцэртных праграм, у тым ліку й за межамі мястэчка ды нават за межамі Пастаўшчыны; традыцыйны конкурс "Хто каго?" і "Пастаўскі баль". Не менш значна і правядзенне падчас фестываля творчых лабараторый вядомых выканаўцаў на народных інструментах, стажыроўка кіраўнікоў самадзейных калектываў ды спецыялістаў-метадыстаў, прэзентацыя новых рэпертуарных зборнікаў народна-інструментальнай музыкі ды арганізацыя выстаўкі-кірмашу традыцыйных беларускіх рамёстваў.

З гадамі фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" развівае і ўдасканальвае форму свайго арганізацыйна-творчага існавання. Прыемна, што яго высакародная мэта гуртуе шчырых ды таленавітых і дасведчаных людзей. Аргкамітэт свята, у якім — начальнік аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі, намеснік старшыні Пастаўскага райвыканкама Ала Кейзік, загадчык аддзела культуры райвыканкама Наталля Булавінцава, галоўны рэжысёр фэсту Пётр Гуд, дырэктар Пастаўскай ДМШ Анатоль Собаль ды інш., — узначальвае намеснік міністра Валерый Гедройц. У журы — выдатныя дзеячы культуры і мастацтва Міхась Дрынеўскі, Яўген Гладкоў, Уладзімір Гром, Мірон Була ды інш. Старшынюе ў "камандзе суддзяў", як заўжды, Міхал Казінец. А яшчэ — "журыць" ужо не першы год запрошана Вікторыя Херэнчар, вядомая венгерская артыстка, прэзідэнт Сусветнай цымбальнай асацыяцыі.

У рэдакцыйным архіве мы знайшлі вось гэтае фота, зробленае на адным з мінулых фестываляў. Друкуем яго з надзеяй, што сёлета з 12 па 14 чэрвеня ў Паставах будзе гэтак жа сонечна, утульна, весела і людна.

**С. Б.**

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ*




---

ДРУК

# Ёсць такі часопіс —"Наша вера"

Заснавальнікам яго з'яўляюцца Кафедральны касцёл імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску і Дабрачынны грамадскі фонд "Маці Божая Фацімская", галоўным рэдактарам — пісьменніца Хрысціна Лялько. У 1996 годзе, годзе заснавання, выйшлі два нумары, летась — толькі адзін. Тым не менш, выданне заслугоўвае ўвагі. І багаццем матэрыялаў, змест якіх шырока закранае не толькі пытанні веравызнання, а і праблемы нацыянальнага Адраджэння, і сучасным афармленнем, і якасцю друку. Гэта пацвярджае і чарговы — першы ў сёлетнім годзе і чацвёрты з дня заснавання нумар "НВ", які надрукаваны ў друкарні "НЭСІ".

Адкрываецца ён вершам Я. Палыгі "Тыя, што вераць" у перакладзе Х. Лялько. Пад рубрыкай "На кніжнай паліцы" часопіс пачынае друкаваць (таксама ў перакладзе Х. Лялько) кнігу Яна Паўла II "Дар і таямніца", напісаную ім да 50-годдзя свайго святарскага пасвячэння і выпушчаную ў 1996 годзе ў кракаўскім выдавецтве св. Станіслава.

Гісторык Св. Адамовіч падрабязна знаёміць з унікальным помнікам архітэктуры XVIII стагоддзя, якім з'яўляецца Кафедральны касцёл у Мінску. "Цуд Адраджэння" — так называецца гэты матэрыял, што дапаўняе рубрыку "Нашы святыні".

Рубрыку "Постаці" працягвае нарыс студэнта Навапалацкага універсітэта А. Адамковіча "Галоўны крытэрый — сумленнасць" — пра доктара тэалогіі, першага арцыбіскупа і мітрапаліта Беластоцкага Э. Кісяля.

Прапануецца працяг публікацыі Э. Станека "Шэсць праўдаў веры" (рубрыка "Роздум аб веры") у перакладзе І. Жарнасек.

Артыкул А. Ярашэвіча "Абразы Маці Божай XVII—XVIII стст. у мінскіх касцёлах" публікуецца ў рубрыцы "Сведчаць архівы". "Кантэкст" складаюць апавяданне М. Гарэцкага "Рускі" і роздум на падставе яго выкладчыка кафедры гідраўлікі і цеплатэхнікі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага інстытута А. Пятровіча "Чалавек "апошніх дзён".

Шлях да веры А. Тумоўскага, які пайшоў вучыцца ў Львоўскую духоўную семінарыю, прасочваецца ў гутарцы з гэтым маладым чалавекам І. Задарожнай ("Патрабуецца толькі адно — адказаць Яму ўзаемнасцю", рубрыка "Пра самае важнае"). Дарэчы, хоць выкладанне ў семінарыі і ідзе па-украінску, А. Тумоўскі, як ён прызнаецца, "практычна размаўляе толькі пабеларуску, усе разумеюць і ніякіх непаразуменняў не ўзнікае".

Чытач знойдзе ў часопісе і іншыя рубрыкі: "Мастацтва" — артыкул Я. Шунейкі "Талент самаахвярны і светлы" пра знакамітага Напалеона Орду (дарэчы, багата ілюстраваны, увогуле, як і іншыя матэрыялы), "Драматургія" — заканчэнне аднаактоўкі І. Жарнасек "...І знойдзеш суцяшэнне", "Паэзія" — вялікія падборкі вершаў М. Мятліцкага і Л. Багдановіч, "Да юбілею 2000 года" — працяг артыкула А. Жлуткі "Заходняе хрысціянства на Беларусі", "Традыцыя" — артыкул Я. Сахуты "Узоры вясны і сонца".

Наклад "Нашай веры", як на сённяшні дзень, немалы — 2 тысячы асобнікаў.

**Н. ФЯДОТАВА**

---

МЕРКАВАННЕ

# Траянскі варыянт братняга саюза

Для падтрымкі народнага духу неабходны ідэя і мэта. Камуністычная ідэя не можа цяпер аб'яднаць людзей нават фармальна. А іншых кіруючых ідэй не бачна, або яны расплывістыя. Вера ўмацоўвае дух. Нават камунізму і то лягчэй было чакаць, — чакаюць жа людзі другога прышэсця. Гэта — пытанне веры. А абяцанне рынку ўспрымаецца з недаверам. Дух трымаецца альбо праўдай, альбо марай. Але калі няма ні таго, ні другога, то змрочныя сёстры — апатыя і агрэсія — хапаюць чалавека за горла.

У СССР велізарны партапарат забяспечваў прапагандысцкі ўздым. У прапаганды, як у д'ябла, два галоўныя сродкі: спакушэнне і паклёп. Пяцігодкамі спакушалі, светлай будучыняй, паклёпам жа адсякалі незадаволеных і ў глыбокім летаргічным сне трымалі народны дух.

Пакуль не будзе яснага ўяўлення аб тым, што нас чакае, і калі нас гэта чакае, дух народа не ўзнясць. І наадварот: будзе яснасць — людзі выцерпяць цяперашнія няшчасці. Пра гэта цудоўна пісаў Ніцшэ: "У каго ёсць Навошта жыць, можа выцерпець амаль любое Як" (жыцьё. — **Б. Ж.**).

"И какой же русский не любит быстрой езды", — сказаў М. Гогаль. Услед за класікам адзначым: а які ж рускі ці беларус не за саюз двух братніх народаў?! Аказваецца, такіх нямала. Парадокс у тым, што гэта перш за ўсё тыя, хто больш за ўсіх крычаць пра такі саюз, але хаваюць ад нас з вамі, які саюз ім патрэбен. Хто ж яны? Як на Беларусі, так і ў Расіі гэта ў першую чаргу лідэры левых партый і рухаў. Паўтараю, лідэры, але не радавыя члены. Апошнія не заўсёды дасведчаны ў прошуках сваіх "правадыроў".

Рэч у тым, што гэтым лідэрам упоперак горла стаяць дэмакратычныя рэформы, якія праводзяцца ўрадам Расіі пад кіраўніцтвам Прэзідэнта Б. Ельцына. У пасле-

ІМПРЭЗЫ

# А музыка — вечная

Перайначыўшы вядомае выслоўе мудрацоў, можна сказаць: юбілеі — з'ява часовая, музыка — вечная. Сказаць — і звязаць гэтую выснову з падзеяй у жыцці Міхала Казінца. Маэстра, відаць, нездарма святкаваў сваё 60-годдзе гэтак мудра, пакінуўшы на афіцыйную цырымонію некалькі гадзін у дзень свайго нараджэння (поўдзень "цяжкага панядзелка" пачынаўся ў Беларускай акадэміі музыкі з віншаванняў ейнага рэктара), а музыцы прысвяціўшы аж тры "Юбілейныя вечары" (так былі названы філарманічныя афішы 13, 15 і 18 мая). Народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар. А перадусім дырыжор — гэта значыць, і ў будні, і ў святы ён павінен быць з музыкай.



Такім чынам, юбілей свой Міхал Антонавіч адзначыў як дырыжор. Ды яшчэ — з трыма аркестрамі: "Маладая Беларусь" Акадэміі музыкі, які сам, упэўненай рукой мастацкага кіраўніка, вывеў у вялікае канцэртнае жыццё і нават — у еўрапейскі мастацкі свет; Акадэмічным сімфанічным, галоўным аркестрам краіны, за пультам якога адбыўся дэбют Казінца як сімфанічнага дырыжора. І — Акадэмічным народным імя І. Жыновіча, у якім пачынаў, з якім зрадніўся, з якім быў у свой юбілейны дзень.

Музыканты, салісты, публіка. Сябры, калегі, вучні. Родзічы, прыхільнікі. Стваральнікі самай рознай музыкі, што гучала ў тыя вечары і што гучыць вечна... Свята было для ўсіх.

**С. Б.**

*Фота К. ДРОБАВА*

# Стварь сваю малітву...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

"Вечары царкоўнай музыкі", цыкл разнастайных канцэртаў, што ладзіўся ў зале на Залатой Горцы, завяршыўся, — не, увянчаўся выбітна. Гэта была праграма з твораў аднаго аўтара, нашага сучасніка Аляксандра Літвіноўскага, у чыёй шматвектарнай кампазітарскай практыцы вылучаецца выразны кірунак, спасціжэнне і развіццё традыцый хрысціянскай (касцельнай) музыкі. Прычым кампазітар спасцігае ейны ідэйны, вобразны, філасофскі сэнс і жанравыя формы не праз перайманне або стылізацыю вядомых шэдэўраў, а — праз дыялог. Творца на парозе новай эры вядзе дыялог з мастацкім і рэлігійным досведам, што назапасіла чалавецтва за мінулыя стагоддзі.

Гучала ў той вечар, за малым выключэннем, новая музыка А. Літвіноўскага. Паслядоўны прыхільнік тэндэнцый постмадэрнізму, ён віртуозна валодае тым чарадзейна-прывабным "моўным стылем", пра які, паводле заўвагі безыменнага меламана, "не скажаш, што класіка, і не скажаш, што авангард". Сучасна, свежа, нова — і без надакучлівага разбуральнага гукавога эксперыментатарства. Музыка — яна ва ўсе часы Музыка.

Колькі гадоў таму, скончыўшы працу над "Грыгарыянскай імшой" (музыка якое знаёмая слухачам у выкананні "Уніі" пад кіраўніцтвам К. Насаева ды Полацкага камернага хору пад кіраўніцтвам Л. Жукавай), Аляксандр Літвіноўскі прызнаўся: "Адчуванне такое, нібы стварыў уласную малітву". А гэта, пагадзіцеся, ужо не фармальны творчы акт, які можа спыніцца разам з завяршэннем працы. Вось чаму зноў і зноў вяртаецца кампазітар да сакральных матываў, вось чаму, спасцігаючы законы гармоніі далёкіх эпох, ствараючы ўласны закон жыцця мастацкіх сугуччаў, адкрываючы для сябе Боскі закон у творчасці нарэшце асэнсоўваючы хрысціянскія ісціны, ён шукае новае ва ўсё той жа незямной крыніцы натхнення.

І ажываюць кананічныя вобразы ў своеасаблівых рэмінісцэнцыях для аргана, у дуэце аргана ды баса, у інструментальным суладдзі галасоў віяланчэлі ды аргана, выяўляючы прыгожы парадокс "аркестрава-харавога" мыслення Аляксандра Літвіноўскага.

У той вечар "сваю малітву", дзякуючы аўтару, стваралі і выканаўцы (пра публіку ж я ўжо казала). Калі выбітны бас Алег Гардынец спяваў фрагменты з вядомай містэрыі "Francisk" (аўтарская версія для голасу і аргана), гэта было ўжо не камернае і не опернае выкананне. Гэта быў нейкі **сугестыўны** вакал прапаведніка, натхнёны мудрасцю Скарынавых кніг. (Празрыста і далікатна падтрымліваў яго акампанемент арганіста Аляксандра Мільто). Калі саліраваў на аргане малады майстар Расціслаў Выгранёнка, пра мастацкі густ і вынаходлівасць ягонай "расфарбоўкі" думалася ў найвышэйшай ступені захаплення: хто хаця б аднойчы дакранаўся да "пульта кіравання арганам", ведае, што значыць зрабіць рэгістроўку твора.

А як дзівосна гучалі яны ў дуэце — Расціслаў Выгранёнка ды віяланчэліст Аляксей Афанасьеў! І, нарэшце, якім адкрыццём была заключная прэм'ера канцэрта — кантата для меццо-сапрана і аргана "Stabat Mater" (дарэчы, ужо другі, пасля кантаты "Да Маці Божай", твор А. Літвіноўскага, прысвечаны вобразу Марыі). Відома, пра яе гаворка мае быць асобная. Адно скажу: поспех! І поспеху паспрыяла выкананне: у суправаджэнні Р. Выгранёнкі спявала маладая вакалістка Джаміля Амандурдыева, чый магутны глыбокі голас асабліва напоўнена і хваляюча гучаў на ўзыходзячых секвенцыях і ў верхнім рэгістры. Лірыка-драматычная кульмінацыя кантаты — "Inflamatus" зрабіла найбольш моцнае ўражанне.

"Вечары царкоўнай музыкі" завяршыліся? Не, яны будуць мець працяг, бо ёсць творцы, здатныя ствараць сваю малітву і крануць ёю душы тых, хто побач...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: Расціслаў ВЫГРАНЕНКА, Аляксандр ЛІТВІНОЎСКІ, Джаміля АМАНДУРДЫЕВА; Аляксей АФАНАСЬЕЎ; спявае Алег ГАРДЫНЕЦ.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

хах гэтых рэформ яны, не без падстаў, бачаць канец свайму палітычнаму існаванню. Вы толькі ўдумайцеся ў тое, пра што распавёў В. Чыкін у сваім дакладзе на XXXIV з'ездзе КПБ: "Сёння сілы рэакцыі ў Мінску, Маскве і іх гаспадары на Захадзе спрабуюць контратакаваць Саюз. Тут і справа Шарамета і беспрэцэдэнтныя **па нахабстве** (падкрэслена мною. — **Б. Ж.**) крокі пана Ельцына і яго акружэння..."

Растлумачу, што сіламі рэакцыі ён лічыць (у тым ліку і ў гэтым складаецца фальш камуністаў) усіх прагрэсіўных дзеячаў, якія стаяць на іх шляху да ўлады і канчатковай мэты — сусветнай рэвалюцыі.

У вузкім коле некаторыя старанныя паслядоўнікі з левага блоку, выступленні якіх мне даводзілася слухаць, задаваць пытанні і ўступаць у палеміку, дзейнічаюць з адкрытым забралам. Яны, не саромеючыся, не падбіраючы мяккіх выказванняў, кляймяць расійскі ўрад і ў першую чаргу Б. Ельцына ганьбай: называюць крымінагенным, купленым на сродкі ЦРУ і заклікаюць да яго звяржэння. А прынамсі робяць выгляд, што хочуць з ім саюза.

Што казаць пра такія кулуарныя выказванні, калі і ў друку мы чытаем падобнае. Прыкладаў — больш чым дастаткова. Скажам, той жа даклад першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі В. Чыкіна на XXXIV з'ездзе КПБ, дзе ён нават быў сціплым, сказаўшы: "Вырашыць усе гэтыя задачы ў адзіночку практычна немагчыма". Патрэбны саюзнікі. Такіх саюзнікаў у яго няма і не толькі на Беларусі. У Расіі гэта лідэры так званай дэструктыўнай апазіцыі (у асноўным чырвона-карычневай): Г. Зюганаў, Г. Селязнёў, С. Бабурын, М. Рыжкоў, В. Іллюхін, А. Лук'янаў, А. Макашоў, В. Ампілаў, Л. Рохлін і г. д. і да т. п. Імя ім — легіён. Усе яны люта ненавідзяць Б. Ельцына, спрабавалі і спрабуюць звергнуць яго ўсімі дазволенымі і недазволенымі метадамі. Для іх усе сродкі добрыя і пры дасягненні мэты. Дык чаму б не пакарыстацца ў якасці траянскага каня і паслугамі нашых лідэраў? Ну а потым... яны ведаюць, каго і куды пасадзіць.

Да месца прыгадаць выраз Казьмы Пруткова: "Единожды солгавший, да кто тебе поверит". А сама КПСС, яе папярэднікі і прадаўжальнікі хлусілі не раз, не два, а кожны раз. Бо і трымалася яна толькі на **хлусні і страху**. Таму, хто гучней за ўсіх крычыць і шмат абяцае, як гэта заўсёды і ўсюды рабіла КПСС, нельга верыць ні на "цяперашнім", ні на якім-небудзь іншым этапе. Бо колькі іх ужо было пасля перавароту 1917 года, і яшчэ, не дай Бог, можа быць.

**Б. ЖАГРЫН**

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎ...*

## "Фарбы талентаў зямлі Раснянскай"

Пад такой назвай нядаўна прайшла выстава дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, арганізаваная работнікамі Палаца культуры і мясцовай бібліятэкі вёскі Расна, што на Дрыбеншчыне. На выставе былі прадстаўлены прадметы ткацтва, вышыўкі, ганчарныя вырабы і вырабы з саломкі, створаныя ўмелымі рукамі жыхароў гэтай вёскі.

## Адрадзіць храм

Славутая вёска Лясная, што на Слаўгарадчыне, ля якой Пётр І са сваім войскам разбіў шведаў, зараз знаходзіцца ў паўзапушчаным стане. Ужо даўно няма драўлянай Прачысценскай царквы, якую ўзвялі ў 1708 годзе пры непасрэдным удзеле Пятра І. А тая, што на сёння ёсць у вёсцы, — толькі малая частка былога мемарыяльнага комплексу, пабудаванага ў гонар перамогі над шведамі. Царква недагледжаная: унутры ўсё разбіта і абрабавана. Але, нягледзячы на складанасці жыцця, у Лясной па вялікіх святах праходзяць набажэнствы. А напярэдадні 90-годдзя з дня заснавання Свята-Петрапаўлаўскай мемарыяльнай царквы, як паведаміла "Магілёўская праўда", яе святар звярнуўся да жыхароў раёна з заклікам дапамагчы адрадзіць былы храм.

## Юны лаўрэат

На міжнародным конкурсе маладых выканаўцаў "Музыка надзеі", які адбыўся ў Гомелі, выхаванец Круглянскай дзіцячай школы мастацтваў юны трубач Дзіма Чахоўскі (зараз займаецца пры Рэспубліканскай акадэміі музыкі) быў узнагароджаны дыпломам другой ступені. Узнагарода для юнага музыканта высокая. У конкурсе бралі ўдзел больш за 250 выканаўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы, іншых краін СНД. Разам з прэстыжным дыпломам і званнем лаўрэата Дзіма атрымаў таксама грашовую прэмію і падарунак.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДНА...*

## "Скульптар і мадэль"

Так называецца выстава Генадзя Лакобы, якая працуе ў галерэі "У майстра" — скульптура, жывапіс, габелен увасоблены ў ідэі кахання, прагі, пажады. Выстава мае поспех.

## Апошняе папярэджанне

На днях гарадскія ўлады зрабілі Гродзенскаму аддзяленню Саюза беларускіх пісьменнікаў апошняе папярэджанне, каб вызвалялі дом польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі. На "поўных правах" у тых двух пакоях будзе створаны яшчэ адзін польскі цэнтр у нашым горадзе...

## За правы чалавека...

У дадатку да "Пагоні" выйшаў бюлетэнь "Маю права" беларускага хельсінкскага клуба пры падтрымцы Фонду "Еўразія". Бюлетэнь падрыхтавалі і выступілі ў ім Наталля Маліноўская і Фелікс Гавін, другое пакаленне тутэйшых палякаў. Усе яны змагаюцца за правы чалавека, усе яны такія дэмакратычныя, праўдзівыя...

**Алена ГАЙКО**

*ВІЦЕБСК...*

## Адкрыўся літаратурны музей

На мінулым тыдні ў Віцебску адкрыўся Літаратурны музей. Ідэя яго стварэння нарадзілася яшчэ падчас святкавання тысячагоддзя старажытнага горада 25 гадоў таму. І вось у старым асабняку ў цэнтры Віцебска, каля амфітэатра, з'явіўся музейны комплекс. Пад адным дахам з музеем месціцца кафэ "Стары горад".

Аўтар навуковай канцэпцыі Літаратурнага музея Святлана Казлова сказала на адкрыцці, што галоўны экспанат для яе — мастацкае слова. Невыпадкова, што цэнтральнае месца тут адведзена легендам і паданням, якія выдатна перадаў у сваіх фантастычных апавяданнях Ян Баршчэўскі, збіраў этнограф і фалькларыст Мікалай Нікіфароўскі.

Арыгінальных экспанатаў у музеі няшмат, але супрацоўнікі яго знайшлі цікавы археалагічны матэрыял. Сярод старажытных экспанатаў — кнігі канца XVII — пачатку XVIII стагоддзя "Службы и житие Миколы Чудотворца" і "Англійская гісторыя" на польскай мове, камень з падмурка Благавешчанскай царквы XII стагоддзя з малюнкам воя. Аўтар мастацкай канцэпцыі музея — Уладзімір Кандрацьеў.

На адкрыццё музея сабраліся віцебскія паэты і празаікі. І як адзначыў у сваім слове Франц Сіўко, Літаратурны музей павінен спрыяць развіццю нацыянальнай ідэі.

## Пісьменніцкія сустрэчы

Віцебскі паэт, перакладчык, дацэнт мясцовага універсітэта Анатоль Канапелька нядаўна вярнуўся з Полацка, дзе сустрэўся са сваімі землякамі ў педагагічным каледжы. Размова ішла аб стане сучаснай беларускай літаратуры. У Віцебску паэт выступіў перад студэнтамі і выкладчыкамі політэхнічнага тэхнікума і вучнямі першай беларускай гімназіі. Расказваў аб рабоце XII з'езда беларускіх пісьменнікаў, чытаў свае пераклады вершаў Тадэвуша Лады-Заблоцкага, Яна Баршчэўскага, уласныя вершы з будучай кнігі.

**Святлана ГУК**

*ГОМЕЛЬ...*

## Гастролі мінчан

Пасля міжнароднага фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы", у якім прымаў удзел Дзяржаўны рускі драматычны тэатр імя Горкага з Мінска, гэты творчы калектыў пачаў гастролі ў горадзе над Сожам. У мясцовым абласным драматычным тэатры ён пакажа спектаклі "Букееў і кампанія..." М. Горкага, "На Залатым возеры" Э. Томпсана, "Свабодны шлюб" Д. Фо і Ф. Рамэ, "Цяжкія людзі, або Жаніх з Іерусаліма" І. Бара-Іосіфа.

Напярэдадні гасцямі гамяльчан былі артысты Мазырскага драмтэатра імя Мележа, якія паказалі спектакль "Снежная каралева".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## "Свята нацыянальных культур"

**_22—24 мая_ ў Гродне адбудзецца II Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур, у якім прымуць удзел 15 нацыянальных аб'яднанняў: азербайджанцы, армяне, грэкі, карэйцы, латышы, літоўцы, малдаване, немцы, палякі, рускія, татары, украінцы, цыганы, яўрэі.**

**Фестываль быў абвешчаны ў мінулым годзе і ўрачыста адкрыты 21 красавіка на Форуме музычных культур народаў Беларусі вялікім канцэртам нацыянальных мастацкіх калектываў, беларускіх калектываў і прафесійных выканаўцаў.**

**Усе мерапрыемствы мастацкага кірунку праходзілі ў межах II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Найбольш буйнымі з іх былі: III фестываль песні ўкраінцаў Беларусі, у якім прынялі ўдзел хоры ўкраінскай песні з Кобрына, Брэста, Маладзечна, Барысава, госці з Украіны і Літвы. Цікавым атрымалася свята ўкраінскай культуры "Шляхам Кабзара", прысвечанае Т. Шаўчэнку ў гарадах Кобрыне і Маладзечне, фестываль нацыянальных культур Брэсцкай вобласці.**

**У 1997 г. грамадскасць Беларусі адзначала 600-годдзе пасялення татараў на землях Беларусі. Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур арганізаваў і правёў 11—15 ліпеня вандроўнае свята "Караван — Байрам" у Навагрудку, Іўі і Смілавічах. Выніковымі мерапрыемствамі 600-годдзя пасялення татараў на землях Беларусі з'явіліся: закладка каменя пад будаўніцтва новай мячэці, урачысты сход і канцэрт, выстава рарытэтаў і сучасных экспанатаў з жыцця беларускіх татараў.**

**Адбыліся агляды яўрэйскай творчасці ў гарадах Магілёве, Віцебску, Лідзе, Гомелі, Бабруйску, Брэсце, Гродне, Барысаве, Оршы, цыкл яўрэйскіх свят "Сукот", "Ханука", "Пурым", "Песах" прайшоў пры перапоўненых залах. У маі ў Мінску быў праведзены II Рэспубліканскі фестываль яўрэйскай культуры.**

**У межах II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур прайшлі летась у верасні — свята армянскай культуры, а сёлета ў сакавіку — азербайджанскае свята "Наўруз — Байрам", малдаўскае свята "Марцішор", свята рускай культуры "Масленіца".**

**Вельмі яскравым і цікавым адбыўся Рэспубліканскі конкурс польскамоўных калядных гуртоў. У гарадах Мінску, Брэсце, Гродне прайшоў IV фестываль польскай песні.**

**У вёсках Гервяты і Пэляса, дзе кампактна пражываюць літоўцы прайшло свята творчасці літоўцаў Беларусі.**

**Аднадушна было адзначана, што I Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур даў вялікі штуршок для развіцця культур розных нацыянальнасцей Беларусі. Падчас яго правядзення ўзнікла мноства самадзейных нацыянальных калектываў. Больш блізкімі ў часе падрыхтоўкі да фестывалю сталі звязкі нацыянальных аб'яднанняў з гістарычнымі радзімамі. Праграма сёлетняга II фестывалю самая разнастайная — гэта і гала-канцэрт на вольным паветры "Гродна сустракае гасцей", і "Гродзенскі баль" у Новым замку", і маладзёжная танцавальна-забаўляльная праграма "За рукі возьмемся, сябры!", і тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў фестывалю па вуліцах Гродна, і выстава мастакоў на вольным паветры "Гарадзенскія ўзоры" па вуліцы Замкавай, і конкурс выканаўцаў нацыянальнага анекдота, і "Баль сяброў" на Савецкай плошчы.**

**Асаблівую цікавасць будуць мець нацыянальныя падворкі, на якіх будуць арганізаваны выставы-продажы страў нацыянальных кухняў народаў Беларусі — гэта рускі тракцір, украінскі шынок, беларуская бульбяная, літоўская карчма, нямецкая піўная, польская кавярня, малдаўскі вінны склеп, карэйскія прысмакі, армянскі шашлык, азербайджанская чайхана, яўрэйскае кафэ, татарская юрта.**

**Завершыцца фестываль выступленнем творчых калектываў замежжа "Прымі наш падарунак, Гродна!" і феерверкам!**

**Н. ФЯДОТАВА**

ВАРУНКІ

# Гэта мы, Госпадзе...

МАЙ — КАНЮ СЕНА дай, а сам на печ уцякай... Бывае, вядома, і такі май, продкі нашы не памыляліся, ды й самі мы сёетое памятаем. Але ж сёлетні май цалкам перакрэслівае згаданую народную мудрасць! Бушуе май! Асабліва гэта відаць, усімі фібрамі душы адчуваецца — у вёсцы. Цнатліва-чыстая зеляніна лістоты і травы, белая квецень вішань і ружовае полымя яблыневага цвету, мядова-хмельная духмянасць квітнеючай грушы і здалёк угадваемы водар чаромхі, вясёлы клёкат буслоў на старой ліпе і нястомнае кукаванне зязюлі дзесьці на ўзлеску, і паўсюль — на аселіцы, у альховых і лазовых зарасніках паўз рэчкі, нават у садах — цягам усяе начы бесперапыннае цёхканне-выспеўванне салаўёў... Божа, як ірванулася на зямлі ўсё жывое насустрач цяплу, дажджу і сонцу! Стрэлкі-пёры маладой цыбулі мкнуць угору відочна — схіліся прасачы й навочна ўбачыш гэты імклівы рост! А дзьмухаўцы? Учора раніцай іх, здаецца, не было зусім, а сёння з усходам сонца ўся лугавіна стала жоўтым дыванам, на які і ступіць боязна — такая чыстая і яркая жаўцізна гэтай вясновай кветкі, над якімі дзумкаюць пчолы і цяжкія бухматыя чмялі... У прагрэтую зямлю кладуцца зярняты. Цёплая духмяная хваля раллі накрывае шарочкі бульбы. А як жа інакш? Вясновы дзень — год корміць! Пышна-зялёны май з чыстай просінню неба неўпрыкмет пяройдзе ў спякотна-навальнічны чэрвень — пакоціцца па зямлі жаданае лета, дзіцячы рай, і ўсім нам, дарослым, сталым і старым, захочацца гэтаксама спяваць і смяяцца, як спяваюць і смяюцца дзеці...

Толькі ж гэтак — мы не ўмеем! Жыццё вяртае нас да рэалій сваіх. А яны і ў маі, на жаль, не становяцца іншымі, чым былі на пачатку вясны ці на згоне зімы, ці яшчэ раней: і паўгода, і год, два назад.

... Метро, гадзіна пік. Абганяючы і бесцырымонна адпіхваючы ўсіх, малады чалавек штурхае ўваходныя шкляныя дзверы і, нават не азірнуўшыся, шыбуе далей, да вакенца касы. Мне якраз собіла ступіць да тых дзвярэй за ім. Дзверы, спружыніўшы, моцна ўдарылі мяне па плячы і руцэ. Удар быў такі балючы, што на вочы міжволі нагарнуліся слёзы. І падумалася: не дай Божа, каб на маім месцы аказалася дзіця...

...Жанчына вайшла з аўтобуса. Сметніца — побач, ажно тры на прыпынку. Але жанчына й не падумала, каб зрабіць крок да адной з іх — расціснула пальцы, і вецер панёс талончык-паперку да кучы смецця: акуркаў, абгортак ад марожанага, пустых пачак з-пад цыгарэт, пакецікаў з-пад соку і г.д.

...Публіка ў тэатры з асалодаю глядзіць спектакль, сочыць за ігрой акцёраў, разважае над пошукамі і знаходкамі рэжысуры, над думкамі драматурга, што агучваюцца зараз са сцэны. Але варта апусціцца заслоне, як большасць прыхільнікаў і прыхільніц Мельпамены імкліва зрываецца з месца і ляціць у буфет, быццам прыйшлі сюды з галоднага краю. Урэшце падымаюся й я. Дакладней, спрабую падняцца з месца — і не магу. Прыліпла да крэсла. І прыліпла ў самым што ні ёсць літаральным сэнсе. Нейкі "тэатрал" выплюнуў на крэсла жавальную гумку. І мне якраз собіла сесці на гэтае самае крэсла. Новую чорную спадніцу больш апрануць я не змагла...

...Штосьці палка абмяркоўваюць падлеткі ў двары. Кожнае другое слова — непрыстойнае! Брыдкі, шматпавярховы, як кажуць, мат! А побач гуляюць дзеці, праходзяць жанчыны...

...У двары нашага дома — гвалт. Праезд — вузкі й без таго, а наставяць жыхары машын — іншым даводзіцца ехаць па тратуары. Ды каб жа толькі свае, а то ўсе, каму ахвота. Жыхары пачалі званіць у ДАІ, дамагаліся пастаноўкі забараняльнага знака. Аднак нічога не дапамагала — па тратуары паранейшаму ездзілі. Дамагліся ўрэшце таго, што з блаславення домакіраўніцтва двор перагарадзіла жалезабетонная пліта. Нейкі час пенсіянеры на лавачках радасна паціралі рукі — яны перамаглі. Ды аднойчы ў адным з пад'ездаў здарыўся пажар, і з-за тае пліты пажарныя машыны не змаглі пад'ехаць да месца здарэння. Назаўтра пліты не стала. Аднак жыхары-пенсіянеры на гэтым не спыніліся. Яшчэ праз колькі дзён мы ўбачылі ўбітыя ў зямлю ўздоўж тратуара жалезныя слупкі. Навошта вы гэта робіце? — дакаралі ініцыятараў некаторыя. — Увечары слупкоў не відаць, нехта будзе ехаць і машыну паб'е, і пешаход любы можа скалечыцца, знячэўку на іх натыкнуўшыся. "І дзякаваць Богу, — адказвае сусед-адстаўнік, — праб'е днішча ў сваім "мерсе", дык больш не паедзе!"

...На ўваходных дзвярах у доме паставілі дамафоны. Добрая справа: усе ж пад кватэрным злодзеем ходзім! Толькі ж дзяжурнай нянькі да кожных дзвярэй не прыставіш, і дамафоны пачалі "псавацца". Кожную раніцу ў 6 гадзін да суседа на пятым паверсе, які працуе на Камароўцы ў кіёску, прыязджае ягоны сябрук. Набірае код патрэбнай яму кватэры, але ва ўсіх дваццаці кватэрах чуецца званок і ўслед словы: "Жэнька, блін, што спіш, казёл, я ўжо прыехаў, спускайся ўніз!.."

Што ж лучыць гэтыя розныя, здавалася б, зусім непадобныя між сабою, але штодзённыя і паўсюдныя праявы, малюнкі нашага побыту? Якая з'ява ляжыць у аснове іх?

Думаецца, маральная пустэча, хамства, бескультур'е, нявыхаванасць. Учынкі, норавы такіх людзей абапіраюцца на такую прымітыўную псіхалагічную ўстаноўку, пры якой ён жыве, працуе, паводзіць сябе гэтак, як яму ўздумаецца. На астатніх яму начхаць, як кажуць. Нас усё больш проста-такі захліствае паводка хамства і бескультур'я. "Новыя", ды й старыя таксама, быццам не ведаюць слоў "дзякуй", "калі ласка", "прабачце". Ці бачыў хто з вас не знявечаны, не спахаблены ліфт? У якім пад'ездзе якога дома чыстыя сцены, не запляваныя падлогі і не спаласаваныя чорнымі пісягамі столі? А дзе ў нас не стаптаныя газоны? Хіба толькі паблізу, ці вакол прэзідэнцкай рэзідэнцыі!

Мне могуць запярэчыць: "Хіба гэта праблемы?" Сапраўды, гэтых самых праблем у нас сёння хапае, у тым ліку невырашальных, неадкладных. Але калі задумацца, прыгледзецца пільней да таго, пра што гаварылася вышэй, то міжволі становіцца больш зразумелай павышаная сацыяльная небяспека маральнай пустэчы, маральнага выраджэння. Без забеспячэння маральнасцю ніякія іншыя праблемы невырашальныя! Ад пустаты душэўнай — крок да хуліганства, да злачынства. З другога боку, не трэба думаць, што бескультурны чалавек — заўсёды грубіян, дзікун. Бескультур'е мае самыя розныя, у тым ліку і, дайце веры, вытанчаныя формы.

За гады працы ў рэдакцыі, як гэта ні парадаксальна, даводзілася сутыкацца з асабліва адмысловай, сапраўды вытанчанай хлуслівасцю і беспрынцыпнасцю. Скажам, дамаўляюся на інтэрв'ю з дзяржаўным чыноўнікам. Ягоны памочнік вельмі ветліва — сама выхаванасць! — прабачліва кажа: "Зараз я вам не магу пэўна сказаць, пакіньце тэлефон, я вам пазваню". Чакаю тыдзеньдругі — званка няма. Набіраюся рашучасці, званю зноў, нагадваю пра сябе. Адказ — той самы: "Я вам пазваню..." І за трэцім разам — тое ж самае абяцанне, хоць я ўжо ўпэўнена: не пазвоніць...



Фота А. Клешчука

Хамамі не нараджаюцца, імі становяцца. Кепскі прыклад і беспакаранасць — вось складнікі і карані гэтай нясмачнай, ажно да агіднасці, з'явы. І кепскія прыклады зыходзяць неабавязкова з замежных баевікоў і рэкламныхролікаў, відэакасет. І брыдкаслоўю вучаць нашых дзяцей не героі замежных фільмаў,і не іншапланетныя прышэльцы. Усё гэта ўзгадоўваецца на нашай глебе, на роднай зямлі, да якой не прывіта з маленства любоў і пашана. Адсюль і пагарда да роднай мовы, і зняважлівыя адносіны да бацькоў, наогул да старых людзей. Чулі ж неаднойчы на ўласныя вушы ў розных чэргах: "Мать, тебе спешить некуда, туда всегда успеешь!.."

У якім, так бы мовіць, грамадска-сацыяльным інтэр'еры спазнаюць свет і сябе ў гэтым свеце нашы дзеці і ўнукі? Яны змалку бачаць запаскуджаныя пад'езды, паламаныя лаўкі ў дварах і скверах, здратаваныя газоны і знявечаныя дрэвы, змалку чуюць на кожным кроку брудную лаянку. І ўспрымаюць усё гэта як натуральнае, прыроднае, абавязковае, належнае.

Школа ж дарослых — на жаль, часта тая знаная школа зласлоўя. Дзеці вучацца ў дарослых фальшыўству — душэўнаму і маральнаму, калі чуюць з іх вуснаў адно, а бачаць, што робяць яны самі нешта зусім іншае. І малы чалавек тут жа "ўсякае": ага, значыць можна і трэба гэтак — сказаць адно, а зрабіць другое.

Бацылы амаральнасці моцныя, стойкія і заразныя. Толькі пры падазрэнні на іх з'яўленне трэба ўжо біць у званы, бо пасля будзе позна. Побач з алкагалізмам, наркаманіяй, прастытуцыяй крочаць і бездухоўнасць, амаральнасць, хамства. На пачатку славутай перабудовы гаварылі, што яе трэба пачынаць з сябе. Можа быць, то было наіўнае, чыста бальшавіцкае пажаданне. Аднак жа супрацьстаянне з хамствам і бездухоўнасцю трэба пачынаць усё ж менавіта з самога сябе. Прыгледзімся да сябе, хіба не знойдзем у сабе крупінак таго самага бескультур'я, нястрыманасці, злосці? Вось і трэба вучыцца стварыць вакол сябе атмасферу нецярпімасці да хамства. Зрабіць гэтак, каб хамула адчуў да сябе грамадскую нецярпімасць. Тады ён не будзе адчуваць сябе гэтакім суперменам, якому ўсё дазволена, якому ўсё сыдзе з рук.

Дзіця, выхаванае добрапрыстойнымі, культурнымі бацькамі, і ў лесе не кіне паперу-абгортку ці агрызак ад яблыка. І галёкаць там не будзе, як дзікун, хоць і кажуць на крыкуноў ці свістуноў: "Ты ж не ў лесе!.." Багаты ўнутраны свет, высокі інтэлектуальны ўзровень не можа быць у чалавека, які не мае навыкаў культурных паводзін. Залежнасць між імі выключна поўная і ўзаемна выключальная...

"Опять весна на белом свете", а рэфлексіі мае невясёлыя. Бо — такое вось жыццё наша і такія вось мы самі. І начальства сабе мы выбіраем такое ж. Адпаведнае. Па сваім разуменні і падабенстве. І яго мы любім, і яму падпарадкоўваемся, і яго пераймаем. А й пераймаць асабліва няма чаго, бо — яно такое ж самае, як і мы, цюцелька ў цюцельку. З такім самым інтэлектуальным, маральным, душэўным багажом. Не народ для ўрада, а ўрад для народа. А мо наадварот? Адно спадзяванне — на Бога. Уратуй мя, Госпадзе!

І ўсіх нас!

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Да юбілею Міцкевіча




**Добры падарунак філатэлістам падрыхтаваў выдавецкі цэнтр "Марка" аб'яднання "Белпошта" да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Ім выпушчана марка з партрэтам паэта, спецыяльны канверт і паштовая картка для картмаксімуму. А спецыяльнае гашэнне праведзена 20 мая ў Мінску, а таксама адбудзецца 12 верасня на радзіме паэта ў Навагрудку.**

*На здымку: паштовая марка, прысвечаная А. Міцкевічу.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## І "Трыба" — трэба...

**Крыху нязвыклае слова "трыба"? Аказваецца, так у старажытным Рыме называлі племя, род. "Трыба" мела і больш шырокае паняцце — тэрытарыяльная і выбарчая акруга, а ў дзеяслоўным выражэнні азначала дзяліць, падзяляць. Іншае найменне "трыба" ў сучасных беларускіх гаворках. У некаторых мясцовасцях гэтым словам называюць лясную прасеку, прамую лясную дарогу. Сустракаецца "трыба" і як шасцярня, ці зубчатая перадача, для прыкладу, у малатарні. Іван жа Чыгрын вырашыў выкарыстаць яго ў больш шырокім найменні — "рух чалавечай грамады, людзей, асобнага чалавека праз жыццё да жыцця" і гэтак — "Трыба", назваў сваю чарговую паэтычную кнігу.**

**Трэба сказаць, што ў паэта Іван Пятровіч "перАтварыўся" ў сталым узросце. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта тры гады настаўнічаў, а скончыўшы аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, перайшоў у Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы і працаваў у ім да выхаду на пенсію. Кандыдат філалагічных навук І. Чыгрын зарэкамендаваў сябе ўдумлівым даследчыкам, стаў аўтарам пяці манаграфій ("Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд", "Проза "Маладняка", "Дарогамі сцвярджэння", "Крокі. Проза "Узвышша", "Рэальнае і магчымае. Проза Якуба Коласа", "Паміж былым і будучым. Проза Максіма Гарэцкага", не кажучы пра шматлікія публікацыі ў перыёдыцы.**

**І ў ролі паэта І. Чыгрын адчувае сябе ўпэўнена. Хоць зорак з неба, як кажуць, не хапае, але піша шчыра, па-свойму. Застаецца і прыхільнікам традыцыйнага верша, але і смела эксперыментуе. Галоўнае ў вершах І. Чыгрына — актыўнасць душы нашага сучасніка, які многа пабачыў у жыцці, ды захаваў нязменнае ўменне (і жаданне!) здзіўляцца хараству яго. Разам з тым ён да многага ставіцца крытычна, бо мае ўласную думку, і насуперак сумленню не ідзе.**

**Зборнік "Трыба" выпусціў Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор", а выдадзены ён на сродкі самога аўтара, яго сястры Марыі, сябра Фадзея Руткоўскага і спонсараў — Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі і Слонімскага віназавода.**

## Спроба крылаў

**За сродкі Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Рэспублікі Беларусь і дзякуючы аддзелу па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама ў гэтым горадзе Берасцейшчыны пабачыла свет кніжка твораў аб'яднання юных літаратараў "Узлёт". Змешчаны вершы дваццаці пяці аўтараў, якія пішуць на беларускай і рускай мовах.**

ВІНШУЕМ!

# Ад песні да песні

## Уладзіміру КАРЫЗНУ — 60

Бадай, цяжка знайсці ў нашай краіне чалавека, які не ведаў бы песні "Люблю цябе, Белая Русь". Песня пра тое, што дорага сэрцу беларуса, што акружае яго з маленства, лучыць з зямлёй і называецца простым і важкім словам Радзіма:

***Жытнёвае поле, лясы і азёры,***
***Крынічанька ў лузе, і ў небе жаўрук, —***
***Услухайцеся толькі — усё тут гаворыць:***
***Люблю цябе, Белая, Белая Русь!***

Але далёка не ўсе ведаюць, што аўтарам гэтай песні з'яўляецца паэт Уладзімір Карызна і кампазітар Юрый Семяняка. Што да Семянякі, дык ён увагай ніколі не быў абыдзены і абдзелены. Так ужо заведзена, што калі гаворка заходзіць пра песню, найперш маюць на ўвазе кампазітара, паэт жа нібы застаецца ў цяню. Несправядліва гэта. А ў дачыненні да У. Карызны — тым больш, бо песень на ягоныя вершы ўжо амаль дзве сотні...

Праўда, апошнім часам, нарэшце, належным чынам ацанілі У. Карызну-паэта. За кнігу вершаў для дзяцей "Мір і сонейка — для ўсіх" ён у 1991 годзе стаў лаўрэатам прэміі прафсаюзаў Беларусі. А ў 1996 годзе разам з Уладзімірам Анісковічам і Валянцінам Лукшам удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Хоць сам У. Карызна, як відаць з прызнання, што некалі прагучала ў адным з яго вершаў, не тое што не аддзяляе паэзію ад музыкі, а і ў нечым музыцы аддае перавагу: "Я памёр бы без музыкі, як паміраюць без хлеба, без вады, без паветра пад полагам неба".

А на пачатку ўсіх пачаткаў была матчына песня. Не толькі ў тым сэнсе, што — родная, беларуская, а праспяваная дарагім сэрцу чалавекам. На ўсё жыццё застаўся ва Уладзіміра Іванавіча пра гэта ўспамін. Тужлівы і журботны, бо тычыцца гадоў вайны, але і светлы, бо ўсё ж удалося выжыць у ваенным ліхалецці сям'і Карызнаў з невялікай вёскі Закружка, што непадалёк ад Мінска. А небяспека падсцерагала на кожным кроку, асабліва, калі бацька падаўся ў партызаны: "Немцы ішлі, каб нас забраць, але суседзі папярэдзілі. Мы ўцяклі — трое дзяцей і мама. Я старэйшы з іх... І з партызанамі былі ўжо да канца вайны. У час блакады замярзалі ў балоце. Гэта ж таксама не забываецца з гадамі. І гэта зноў-такі давала нейкі душэўны імпульс". А ішоў "душэўны імпульс" ад маці, якая дзяцей "па-свойму ратавала". І словам добрым, а яшчэ — песняй. Спявала "А ў полі вярба..." Ціхенька-ціхенька спявала, схіліўшыся над намі. Гэта было тое, што па-свойму саграбала ваенную рэчаіснасць — халодную, балотную, галодную. Вярнуліся пасля вызвалення, а вёска спаленая. Цяжка, а песня дапамагала. І выжыць, і выстаяць. Мы жылі ў хляве, разгароджаным папалам: у адной частцы жывёла стаяла, а ў другой — мы... Хораша вечарам спяваў мой бацька. На балалайцы граў... Так і пачынаўся своеасаблівы ручаёк ад песні да песні. Маці яму падпявала. Матчына і бацькава душа была багатая, і гэта святло ішло да мяне. Не святло далёкай зоркі, а светло бацькавай душы".



А ўвогуле, не толькі ад маці, не толькі ад бацькі ў У. Карызны любоў да песні. "Вінаваты" ў гэтым яшчэ і патэфон. Пра гэта Уладзімір Іванавіч згадвае так: "Акрамя яго (патэфона. — **А. М.**) было каля сотні пласцінак. На іх народныя песні, і арыі з опер, і песні Дунаеўскага, Блантэра... Памятаю, што да вайны, я яшчэ зусім маленькі быў, але, калі бацькоў дома не было, падпаўзаў да стала, на якім стаяў патэфон. Улазіў на табурэтку і з цяжкасцю, абедзвюма рукамі, хоць напалову, заводзіў спружыну і ставіў пласцінку. Тую, якую хацеў. Чытаць не ўмеў, але адрозніваў патрэбную мне па малюнку на дыску. Нават арыю індыйскага госця любіў у гэтым узросце".

Песні ж спяваць пачаў з класа восьмага — падбіраў мелодыю да вершаў Аляксандра Жарава, творчасць якога на той час яму вельмі падабалася. Бліжэй з музыкай пазнаёміўся, калі стаў студэнтам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля першага курса, папрацаваўшы ўлетку на цаліне, зарабіў грошай і прыдбаў акардэон. А навучыўшыся граць на ім, пачаў хадзіць на рэпетыцыі універсітэцкага хору, якім кіраваў Ілья Кліёнскі. А далей...

Слова самому Уладзіміру Іванавічу: "Пачаў пісаць песні на ўласныя вершы. Спачатку пакласці іх на ноты мне дапамагаў Кліёнскі. А неўзабаве асмеліўся паказаць некалькі песень Уладзіміру Алоўнікаву. Адна з іх была на верш Юрася Свіркі. Алоўнікаў пахваліў". Праз некаторы час ён жа паставіў пытанне аб адкрыцці ў Саюзе кампазітараў БССР спецыяльнага семінара для самадзейных кампазітараў: "На заняткі хадзіла шэсцьсем чалавек. Вёў іх Рыгор Канстанцінавіч Пукст, выдатны кампазітар, лічу класік. Калі Пукста не стала, заняткі з намі праводзіў Генрых Матусавіч Вагнер, чалавек вельмі цікавы, надзвычай арыгінальны творца. Тады я напісаў песню "Беларусь мая сінявокая" і

КРЫТЫКА

# Бум? Бам? Ці Літаратура?..

Ужо месяц ляжыць перада мной на стале "Тазік беларускі" — альманах творчай суполкі "Бум-Бам-Літ"... Я чытаў яго спачатку і з канца, з сярэдзіны і па дыяганалі, зверху ўніз і наадварот — усяк не сумна, пазнаму цікава... І чытаць, і сузіраць...

А вось напісаць пра свае ўражанні ад прачытанага і ўбачанага — хоч плач, хоч смейся — на адпаведным узроўні аніяк не атрымлівалася. Здавалася б, і хлопцаў усіх збольшага ведаю, і з творчасцю іх няблага знаёмы...

У літаратуры мне заўжды імпанавала новае, свежае, неардынарнае... "Ну і — "тазік" табе ў рукі", — кажуць. Сапраўды, у гэтым "беларускім тазіку" не менш грому, чым у Сысу, а — рэха няма, людзі не збягаюцца...

Нешта падобнае адбылося на нядаўнім пісьменніцкім з'ездзе... Я хачу сказаць, што страсці перадз'ездаўскія былі спапялёныя яшчэ да таго часу, калі яны й павінны былі выявіцца. На самім з'ездзе ўжо панавалі спакой, памяркоўнасць, ды, абгавораныя канстытуцыяй, дэмакратыя і галоснасць...

Карацей кажучы, пісьменнікі завершылі свой XII з'езд нераўнючы, як IX...

Уцяміўшы ўрэшце змест "тазіка", я яшчэ ўпэўніўся ў прарочых словах Эклезіяста, што "нічога новага пад небам няма". На зямлі, маецца на ўвазе, а не ў паднябессі...

Вось чаму "бацька" і "ідэалагічны шэф" бумбамлітаўцаў у сваім уступным артыкуле ўсё зводзіць да іроніі ды прыхаванага сарказму да сваіх "падшэфных выхаванцаў"... Аднак, выхаванцы аказаліся яшчэ тыя, — замест таго, каб вылучыць "слова бацькі", як уступнае, яны ўключылі В. Акудовіча ў свае творчыя шэрагі, і толькі дзякуючы дысцыпліне і "партыйнаму дэмакратычнаму цэнтралізму", "далі" яму слова першым... Не дурні — чаго ім "папярод бацькі ў пекла"?!

Па вялікім рахунку, у "мудрым бацькоўскім слове" і ёсць азначэнне і эскізны маніфест, прад'яўленне і крытычны завуаліраваны аналіз гэтага літаратурнага альманаха і ўвогуле ўсёй згаданай творчай суполкі.

Акінуўшы памяццю нашу літаратуру, што ўзгадаецца, як папярэдняе "бум-бам-літу"? "Узвышша", "Маладняк", "Тутэйшыя", тэвээлаўцы...

"Тутэйшыя" блізкія — па амбіцыях, накірунках, талентах і асобах — да "Узвышша", "Бум-Бам-Літ" — хай не крыўдуюць не тыя й не гэтыя — да "Маладняка"... Я хачу сказаць, што ў пераважнай большасці сваёй яны такія ж *хаатычныя* і шукаюць сабе пэўнай *заангажаванасці*... Іншая справа — калі, дзе і кім...

Зрэшты, маральнае права "грукаць у тазік", а значыць, быць паўнамоцнымі "бумбам-літаўцамі", на мой вузкі погляд, маюць усяго шэсць аўтараў "тазіка беларускага": Зміцер Вішнёў, Алесь Туровіч, Альгерд Бахарэвіч, Віктар Жыбуль, Ілля Сін ды Серж Мінскевіч... Тры з іх — Туровіч, Жыбуль ды Мінскевіч, па маіх прадчуваннях, ужо "выседзеліся", каб "вылупіцца" адтуль вонкі...

Акудовіч жа, Барысевіч ды Гарачка — людзі там увогуле выпадковыя, скажам груба, — група падтрымкі. Тэксты спадара Барысевіча я чытаў з такім нязмушаным эстэтычным задавальненнем і разумовым асляпленнем, што нават яшчэ раз адгарнуў вокладку кніжкі, каб упэўніцца: што гэта — "Тазік беларускі" ці саліднае культуралагічнае выданне кшталту "Фрагментаў"?

Пра Валянціна Васільевіча Акудовіча я ўжо казаў больш, чым трэба — ён і так вялікі галавой, а ў цёмных акулярах і пры барадзе — рыхтык наш літаратурны "Чэ Гевара"... Што пра яго скажаш лепш за яго?.. Разумней — змаўчаць дзеля канспірацыі...

Трошкі мітуслівы Гарачка, як бы апраўдваючы сваё прозвішча, трапіў у гэты "кантынгент" у запале, злоўлены за руку ў непатрэбным месцы.

Пэўна, многія з вас чыталі яго падборку вершаў у "Крыніцы" за мінулы год, а неўзабаве прачытаюць у тым жа часопісе і новую... Адораны талентам бачыць свет праз сябе, Усевалад не падыходзіць да ніякай супольнасці, пакуль... да яго не падыдуць самі...

Асобна я выдзеліў бы Віктара Жыбуля. Ёсць адна цікавая і ўпадабаная мной дэталь з яго альманахаўскага "дасье": *"Любіць забаўляцца з першымі кветкамі"*. Ужо ў гэтым — цнатлівая прыкмета неардынарнага таленту...

У альманаху выдрукавана паліндромная паэма Жыбуля "Рогі гор". Класная рэч, я вам скажу! Ну, калі ўжо скупы на пахвалу Алесь Разанаў, пачытаўшы, паказаў вялікі палец!..

Што мы ведаем пра паліндром? Што гэта скампанаваны набор слоў у вершаваных радках, якія чытаюцца спачатку ў канец і з канца ў пачатак. Помнае яшчэ з дзяцінства: *"Кабан упал и лапу набок"*...

Беларусы рэдка пісалі паліндромы і найперш для забавы. Жыбуль напісаў цэлую аб'ёмную паэму. І не толькі дзеля забавы і свайго аўтарскага самалюбства. У паэме ёсць змест, сюжэт, вобразы, сімвалы, метафары — усё тое, чаго і вымагае мастацкі твор.

"Цёплая ночка". Выконваў іх хор Беларускага радыё і тэлебачання".

У першай аказаўся шчаслівы лёс. У 60 — 70-ыя гады яна гучала па ўсёй Беларусі. Выконвалі яе і Дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча, і квартэт "Купалінка". Паўсюдна чулася:

***Неба чыстае і глыбокае***
***І бярозавы ціхі гай —***
***Беларусь мая сінявокая,***
***Беларусь мая, родны край.***

Сталася так, што У. Карызна ў 1961 годзе паехаў па размеркаванні працаваць настаўнікам на Браслаўшчыну. Настаўнічаў у Опсаўскай сярэдняй школе да 1967 года. Выкладаў і беларускую мову і літаратуру, і рускую — каб неяк звесці канцы з канцамі. А тут сям'я, сын нарадзіўся. Дзе ўжо да паэзіі?! "Амаль нічога не пісаў. Ні вершаў, ні песень. Хоць займаўся ў гуртку з дзецьмі, для іх ствараў музыку. Яны нават выходзілі пераможцамі, ездзілі ў "Артэк".

Лёс У. Карызны перайначыўся (правільней сказаць вызначыўся) дзякуючы Г. Цітовічу. Перад гэтым Генадзь Іванавіч узяў яго песню "Беларусь мая сінявокая" для квартэта "Купалінка" і для свайго хору. Даведаўся, што аўтар шукае работу. Пры дапамозе Г. Цітовіча і трапіў У. Карызна на рэспубліканскае радыё, ды не ў якую-небудзь рэдакцыю, а ў музычную. Працаваў рэдактарам, старшым рэдактарам, а потым і сам узначаліў гэтую рэдакцыю. "Тут і пачалося, — прызнаецца Уладзімір Іванавіч, — маё сапраўднае супрацоўніцтва з кампазітарамі. Знаёмства і са спевакамі — Тамарай Раеўскай, Наталляй Гайдай, Ірынай Шыкуновай, Валянцінай Прыдачынай, Юрыем Смірновым, Яраславам Еўдакімавым. З папулярнымі ансамблямі — "Песняры", "Сябры", "Верасы", Дзяржаўным народным хорам імя Г. Цітовіча".

Падчас працы на радыё звёў лёс У. Карызну з Ю. Семянякам. Плёнам іх паспяховага творчага супрацоўніцтва стала не толькі песня "Люблю цябе, Белая Русь" — яшчэ каля трыццаці твораў сумесна напісалі. Але першая для Уладзіміра Іванавіча стала назаўсёды памятнай, бо адначасова гэта была і першая песня яго, напісаная сумесна з прафесійным кампазітарам.

Уладзімір Іванавіч з радасцю вяртаецца ў тую часіну: "Як цяпер памятаю, было гэта напрыканцы лета. Здавалася б, мінула яно, а тут раптам такая навальніца! Маланкі бліскалі, пранізваючы неба, грымеў гром... Захацелася адразу сесці за пісьмовы стол. Што я і зрабіў. На паперы кладзіся радок за радком:

***Ну, як не любіць тыя хаты ля гаю,***
***Ля сініх азёр і палёў залатых,***
***Дзе хлебам і соллю сяброў сустракаюць***
***І з песняй праводзяць, як родных сваіх".***

Ю. Семяняка пісаў з размахам, што гэтую песню будзе выконваць менавіта Тамара Раеўская. Так і сталася, і песня "Люблю цябе, Белая Русь" — гэта песня не толькі У. Карызны і Ю. Семянякі, а і яе, Т. Раеўскай, песня.

На сённяшні дзень У. Карызна супрацоўнічае з многімі кампазітарамі. І адразу ведае, катораму з іх яго чарговы верш можа спадабацца: "...Семяняка быў лірыкам, найбольш блізкім мне і сам я — лірык. Лірык і Леанід Захлеўны. Мы напісалі шмат песень з ім — "Азёры дабрыні", "Зорачка мая", "Міг салаўіны"... Для Эдуарда ж Ханка патрэбны верш з жартам, сюжэтны. Звычайна бачу перад сабой і выканаўцу..."

Уладзімір Карызна таму і стаў паэтам-песеннікам, што і сапраўды, ён — тонкі, душэўны лірык, а якая лірыка без песні, без чароўнага слова, што так і просіцца ў мелодыю! А яшчэ паэзія яго традыцыйная ў сваёй сутнасці, яна ад зямлі, ад народных вытокаў, і фальклорны пачатак у ёй моцны, што асабліва адчуваецца, калі паэт ужывае памяншальна-ласкальныя словы, падбірае знешне простыя і разам з тым гэткія запамінальныя эпітэты, параўнанні.

У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі перачытаць кнігі У. Карызны, а іх у яго шмат — "Край мой сінявокі", "Жураўліны досвітак", "Свята ліўня", "Цеплыня", "Цішыня баразны", "Шумяць вербы". У некаторыя з іх увайшлі і песні. Выдаваліся і асобныя зборнікі іх — "Клубныя вечары", "Люблю цябе, Белая Русь", "Салавей спявае"... Усяго, напісанага паэтам за доўгія гады працы (а дэбютаваў ён у 1956 годзе на старонках газеты "Чырвоная змена"), і не пералічыш! А сюды ж трэба дадаць яшчэ кніжкі для дзяцей. Акрамя той, "Мір і сонейка — для ўсіх", выйшлі "На сяле ў бабулі", "Кьюнг і яго сябры", "Зямля — два паўшар'і", "Малююць дзеці" (разам з Артурам Вольскім) і іншыя.

Шчаслівы паэт, чые вершы становяцца песнямі. Уладзімір Карызна спазнаў такое шчасце. І хацелася, каб яго творчы ручаёк ад песні да песні не толькі не засыхаў, а і пастаянна напаўняўся новымі, свежымі, жыватворнымі сокамі паэзіі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# З тых, хто марыў аб свабодзе

Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор" парадаваў чытачоў чарговай, шостай па ліку кнігай. Услед за аднатомнікамі выбраных твораў Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, за зборнікам "Беларускія летапісы і хронікі" пабачыў свет яшчэ адзін — "Філаматы і філарэты". Відавочная цікавасць да гэтай унікальнай бібліятэкі, распрацаванай у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі Беларусі і заснаванай у 1996 годзе. Калі кнігі Я. Чачота і М. Багдановіча мелі наклад усяго чатыры тысячы экземпляраў, дык наступныя — ужо шэсць. Зборнік жа "Філаматы і філарэты" і таго больш — 10100 асобнікаў.

З'явілася ж гэтая кніга дзякуючы Кастусю Цвірку, які ў дадзеным выпадку выступае адразу ў некалькіх іпастасях (акрамя таго, што ён, як вядома, узначальвае Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор" (укладальнік кнігі, перакладчык польскамоўных твораў, аўтар прадмовы, каментарыяў і нарысаў пра кожнага, хто прадстаўлены ў гэтым даволі аб'ёмным томе. А пашанцавала дзесяці найбольш таленавітым сябрам віленскіх згуртаванняў беларускай моладзі першай паловы XIX стагоддзя — Адаму Міцкевічу, Яну Чачоту, Тамашу Зану, Ануфрыю Петрашкевічу, Францішку Малеўскаму, Міхалу Рукевічу, Ігнату Дамейку, Юзафу Кавалеўскаму, Аляксандру Ходзьку, Антонію Эдварду Адыніцу. Як кажуць, самым-самым...

У прадмове "Паданне пра філаматаў, або Доля аднаго пакалення" падрабязна прасочваецца дзейнасць гэтых барацьбітоў за свабоду Бацькаўшчыны: "Філаматы, якія амаль усе паходзілі з беларускай, хоць і апалячанай, шляхты, будучыню сваёй Беларусі бачылі ў аднаўленні былой Рэчы Паспалітай. Толькі ў яе рамках магла быць, на іх думку, вернута самастойнасць былой магутнай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Адсюль іх усвядомленае змаганне за "Польшчу", як стала называцца агульная для палякаў, беларусаў, літоўцаў і часткова украінцаў Рэч Паспалітая. У сапраўднасці філаматы ні на хвіліну не забываліся, што яны — "ліцвіны", дзеці "Літвы", г. зн. Беларусі, якраз дзеля яе асветы, дзеля яе вызвалення з-пад царскага прыгнечання і стварылі свае згуртаванні, якраз яе называлі сваёй Радзімай, яе апявалі ў вершах, песнях, баладах, паэмах (успомнім хаця б Міцкевічава "Літва, айчына мая!.."

Дарэчы, "Беларускі кнігазбор" мае намер яшчэ трох са згаданых вышэй аўтараў (А. Міцкевіч, І. Дамейка, А.-Э. Адынец) прадставіць у далейшым асобнымі кнігамі, як гэта было зроблена ў дачыненні да Я. Чачота. Значыць, напярэдзе больш шырокае і глыбокае знаёмства з іхняй творчасцю. Што да іншых у гэтым спісе, дык і іх творчасць вартая таго, каб пра яе ведалі нашчадкі, бо, як даўно заўважылі гісторыкі літаратуры і на чым акцэнтуе ўвагу К. Цвірка, "незвычайнай асаблівасцю іх творчасці быў яе ў многім калектыўны характар". К. Цвірка ўдакладняе: "Калі добра прыгледзецца, у творчасці ўсіх філаматаў і філарэтаў можна знайсці нямала прыкладаў такога творчага ўзаемадзеяння, шчодрай "пазыкі" адзін аднаму тэм, вобразаў, матываў сваёй паэзіі, фактаў творчай узаемадапамогі".

І ўсё ж кожны з аўтараў, як гэта і бывае з сапраўднымі талентамі, глыбока самабытны. І ў гэтым упэўніваешся, калі знаёмішся з вершамі, урыўкамі з іх вялікіх твораў, перапіскай, дзённікавымі і падарожнымі нарысамі. Ды і лёсы філаматаў і філарэтаў незвычайныя. Не кажучы пра тых, чые імёны на слыху — А. Міцкевіча, Я. Чачота, Т. Зана — для прыкладу. На жаль, куды менш вядома пра жыццё М. Рукевіча, а ён жа яшчэ быў і дзекабрыстам і адбываў пакаранне разам з удзельнікамі снежаньскага выступлення супраць царызму, і пра яго, дарэчы, цёплыя згадкі можна знайсці нават у "Запісках" так добра вядомай Марыі Валконскай.

Застаецца дадаць, што і гэтая кніга, і папярэднія выходзяць дзякуючы таму, што знаходзяцца ахвотнікі дапамагчы ў ажыццяўленні праекта "Беларускі кнігазбор". Гэтым разам Міжнародны фонд выказвае шчырую падзяку Гандлёваму дому "Амкадор" (генеральны дырэктар Я. Куляшоў) і супрацоўнікам выдавецтва "Современное слово", паведамляе, што зборнік надрукаваны на паперы, пастаўленай ЗАТ "Аскадпэйнер".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

Паліндромная паэма Жыбуля дасць, як кажуць, фору многім "барзописным" паэмам нашых сучасных паэтаў...

У гэтым арыгінальным творы выяўлена наша сённяшняя Беларусь спераду і ззаду, звонку і знутры... Пастаўленая намі з ног на галаву, яна перакульваецца талентам Жыбуля з галавы на ногі...

Калі ласка — цытаты:

***Лёсы сёл...***
***Ліха — нахіл.***
***і гора дарогі***
***А лава — навала.***
***І лугі гулі.***
***Жах аж!***

Альбо вось гэтае, хіба не высокі твор мастацтва, тое, што ў нас і традыцыйным вершам нямногія напішуць:

***Я — асоба босая.***
***А карта батрака —***
***гром і гора, дарогі, морг...***
***А духу худа.***
***А гора падала да парога!***
***А ламачча мала.***
***А во — дуба дала дабудова!***
***А дома — камода***
***і лава. Нашы нуварышы-равуны шанавалі***
***хама замах,***
***хапугу, пах***
***моды, дом***
***катаў, атак.***
***А дар — дзіда, гад і здрада.***
***І кажу — вужакі.***
***А нам — масам — мана,***
***нам — зман,***
***напад, а пан —***
***кат! О, баразна — хобі!***
***І бохан — заработак!***

Я мог бы цытаваць ці не ўсю паэму, але кажу — прачытайце самі, займейце насалоду Паэзіяй, ацаніце паэта па вартасці стваранага...

Мы ўсё захапляемся нейкімі дзіцяча-старэчымі показкамі з "Лысай гары", а я чамусьці не сумняваюся — ау! літаратуразнаўцы і крытыкі нашы аглухла-ціхія — што і гэты твор Віктара Жыбуля ўвойдзе і застанецца ў аналах беларускай літаратуры. Так што не спазніцеся займець рарытэт, шаноўныя.

Зрэшты, менавіта гэтая паэма і тэксты Юрася Барысевіча напоўніцу апраўдваюць усе затраты (і страты) ды матэрыяльныя выдаткі, што вымагаліся з суполкі на стварэнне і выданне гэтага альманаха.

Безумоўна, нельга абысці ў гаворцы і арыгінальныя тэксты іншых аўтараў, менавіта тых, якіх я лічу сапраўднымі "бум-бам-літаўцамі".

У іх тэкстах дастаткова гульні, флёру, абсурду... І — няхай, бо і сярод гэтага прабіваецца нешта сваё — уласнае, неардынарнае, хоць і кволае, і неданошанае...

Шкада, што шмат пару і часу патрачана на ўсё тое, што ўжо было, калі не ў нас, то ў іншых літаратурах... Але такое заўжды выяўлялася ў творцаў самім часам хаосу, рэзруху, рэвалюцый...

Футурыст Кручоных пісаў так: "У писателей до нас инструментовка была совсем иная, напр. —

***По небу полуночи ангел летел***
***и тихую песню он пел...***

Здесь окраску дает бескровное пе... пе... Как картины, писанные киселем и молоком, нас не удовлетворяют и стихи, построенные на

***па-па-па***
***пи-пи-пи***
***ти-ти-ти***
***и т. п.***

Здоровый человек такой пищей лишь расстроит желудок.

Мы дали образец иного звуко и словосочетания:

***дыр, бул, щыл,***
***убещур***
***скум***
***вы со бу***
***р л эз***

(кстати, в этом пятистишии больше русского, чем во всей поэзии Пушкина)".

*Адымае мову* — ці не так?! А цяпер — цытата з тэксту Зміцера Вішнёва:

***фтырус***
***фтыкурыс***
***ф-ф-ф-ф-ф***
***фтырус***
***футкурус***
***аф-аф-аф***

Ці вось — верш Альгерда Бахарэвіча:

***Я ХАЧУ***
***ПІЦЬ***
***ТВОЙ***
***ПОТ***

Альбо гэтае — з Мінскевіча:

***Гарыць лухтар***
***лятаюць шмухі***
***Ходу спыніў мулнар***
***У штаны засунуў крукі.***

Але яшчэ больш *арыгінальна-паскудна* атрымалася ў тэксце Іллі Сіна "Мой сын і я" (цытую цалкам):

***я — кавалачак нечага***
***якое знаходзіцца дзесьці ў кутку***
***мой сын устаў каб пайсці за мной***
***буль-буль ён ужо тоне не пасьпеўшы нарадзіцца***
***у яго скрыўлены зыгзагам рот і тры вухі***

Вядома, усё гэта наўмыснае блазнаванне на публіку (дарэчы, на гэта разлічаныя многія тэксты "бум-бам-літаўцаў", паколькі яны любяць ладзіць перфомэнсы — відочна-тэатралізаваныя выступленні, дзе міміка і жэст гарманічна пераплятаюцца з гукасловамі).

Таму, я мяркую, найбольш таленавітыя з іх (пра кніжку Алеся Туровіча я ўжо пісаў у папярэднім артыкуле, а тым часам, як я даведаўся, але яшчэ не бачыў і не чытаў, выйшла кніжка Зміцера Вішнёва ў "Мастацкай літаратуры", што, па праўдзе кажучы, мяне падобраму і па-ўсякаму здзівіла) неўзабаве, нацешыўшыся і пацешыўшы, неўпрыкмет адыдуць ад "Бум-Бам-Літа", як тое калісь сталася з адорана-амбітнымі "Тутэйшымі" — ды зоймуцца сур'ёзнай мастацкай творчасцю... Дай Бог.

Маладых талентаў у нас шмат — разваліцца "Бум-Бам-Літ" (а ён, вядома ж, з часам развапіцца, выканаўшы адпаведную яму місію ў нашай літаратурнай і культуралагічнай прасторы), на яго месцы абавязкова з'явіцца якія-небудзь новы *першацвет*... Будзем рады і будучай з'яве...

А хацеў я, колькі дзён таму назад, пачаць гэты артыкул са слоў Уладзіміра Арлова (ён яшчэ ў застойныя часы меў дачыненне да падпольнага выдання наваполацкага "Блакітнага ліхтара"), з яго "Краявіда з ментолавым пахам":

"Перад сном заманулася пачытаць, і я зняў з паліцы лімонавы том Акутагавы Рунаскэ. Паміж старонак "Жыцця ідыёта" знайшоўся лісток з вучнёўскага сшытка ў клетку. Дзіцячая рука фламастэрам намалявала на ім пяціпавярховік з жаночым тварам у вакне трэцяга паверха. Малюнак не меў у сабе нічога незвычайнага, а вось надпіс мяне збянтэжыў і нават трохі занепакоіў.

***ГЭТА НЕ МОЖА***
***БОЛЬШ ПРАЦЯГВАЦЦА***
***НЕ МОЖА***

Словы, дзе захавалася трывога, а мо і роспач, належалі, відавочна, не дзіцёнку, хоць і былі напісаны буйнымі друкаванымі літарамі, што тоўпіліся і, як сляпыя, натыкаліся адна на адну. Так мог пісаць чалавек на моцным падпітку альбо ў крайняй расхваляванасці.

Тут, безумоўна, таілася нейкая загадка, і яе бударажлівае адчуванне абяцала пераўтварыцца ў сюжэт, а потым у навелу".

Як дарэчы прыйшоўся мне гэты тэкст шаноўнага Уладзіміра Аляксеевіча, бо выспявала ўжо панічнае адчуванне, што не змагу дасказаць тое, што найбольш свярбела знутры, а вонкі не прабівалася...

Асацыяцыя, што й казаць, — навідавоку...

І ўжо напрыканцы — тое, што й задумваў зазначыць менавіта ў якасці заключэння — хачу працытаваць вытрымкі з верша выдатнай прызабытай рускай паэткі Ксені Някрасавай:

***И всякая тварь начинает***
***слагать в звуки***
***восхищение души своей.***

**(Тут "тварь" — у добрым, боскім сэнсе. — Л. Г.)**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***А еще бродят между трав и осок***
***и болотных лягушек***
***человеческие мальчишки.***
***И, как всякая поросль людская,***
***отличны они от зверей***
***и птиц воображеньем сердца.***

Во як, браты мае зямныя, інфармацыйна-кампутарныя заложнікі часу!

Як бачыце, у артыкуле ўласна майго амаль нічога й няма — адны цытаты...

Што ж, творчае жыццё чалавека траціцца менавіта на пошук лепшых імгненняў іншага жыцця...

У тым ліку — і "бум-бам-літаўскага"...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**P. S.** Напісаў гэты артыкул 9 траўня, у дзень святкавання Перамогі... Хлопцы — біце ў тазік! — няйначай гэта нейкі добры знак...

**Л. Г.**

## Які сакавік — без жанчын

Старонкі трэцяга нумара часопіса "Беларусь" шчодра прадастаўлены матэрыяламі жанчын, матэрыяламі пра жанчын і ўвогуле публікацыямі, у якіх гаворыцца пра самыя светлыя і ўзвышаныя пачуцці і паняцці. Па-сапраўднаму святочнай і вясновай атрымалася паэтычная падборка, у якой з вершамі выступаюць А. Ігнацюк, В. Гіруць-Русакевіч, Л. Рублеўская, З. Дудзюк, С. Явар, Г. Каржанеўская, Т. Мушынская. А знаўца жаночых душ Г. Далідовіч, у чым, прынамсі, пераканала яго кніга апавяданняў "Жар кахання", прапанаваў новае апавяданне "Вера". Не меншы знаўца прыгожай паловы чалавецтва і Л. Дранько-Майсюк, але ён у час гутаркі з В. Шымановіч, закрануў самыя розныя пытанні, даўшы зразумець, што ўсё адно — хочаш ці — а гаворка звядзецца да гэтага самага... З. Хадакоў расказвае пра неверагодныя прыгоды Італьянкі Боны Сфорцы ў краіне блакітных азёр і васількоў ("Усё могуць каралевы?..") М. Багадзяж запрашае ў Няўрыду — дзіўную краіну. І. Каранкевіч дазваляе зразумець стан душы акварэліста У. Рынкевіча. А. Гібок-Гібкоўскі вядзе рэпартаж са сваёй "малой Радзімы". Я. Сіпакоў з задавальненнем прачытаў нацыянальную справаздачу "Жанчыны Беларусі ў люстэрку эпохі" і вельмі хоча, каб гэта зрабілі іншыя. А. Хатэнка спрабуе разабрацца, чаму мы ўсе не можам стаць багатымі і шчаслівымі. Ёсць і іншыя, не менш цікавыя матэрыялы, у якіх, выкарыстоўваючы назву развагі І. Ждановіча, прысутнічае "жаночы пачатак".

## Ад Алексіевіч да Сакуна

Менавіта матэрыялы гэтых двух аўтараў як бы "абрамляюць" чацвёрты нумар часопіса "Полымя". Пачынаецца ён "хронікай прышласці" С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва", а завяршаецца "Споведдзю пра бяду" А. Сакуна. Тэма адна — чарнобыльская і боль адзін — боль усяго народа. А яшчэ ў нумары — вершы А. Пісьмянкова, В. Макарэвіча, В. Шымука, В. Рагаўцова, аповесць Л. Калодзежнага "Пад халодным небам", дыялогі, аповеды, казка А. Масарэнкі, аб'яднаныя назвай "Між зямлёю і зоркамі". Дзякуючы дачцэ А. Моркаўкі Л. Пронінай вернуты з небыцця дзве яго паэмы "Пачатак вайны" і "Разважанні пра зоры, сумленне і іншыя цьмяныя рэчы, непатрэбныя ў жыцці". "Язэп Драздовіч — аўтар "Трызны мінуўшчыны" — артыкул Ю. Малаша. А. Хоціна ("Язычніцкія ўяўленні беларусаў") разважае пра веру нашых продкаў. З. Драздова ("На ніве людскасці") напісала творчы партрэт П. Макаля. В. Ярац рэцэнзуе першы том "Слоўніка мовы Янкі Купалы" ("Акіян роднага слова"), А. Марціновіч дзеліцца ўражаннямі ад кнігі аповесцяў Ф. Сіўко "Апошняе падарожжа ў краіну ліваў" ("Кавальчук у ролі... Шэрлака Холмса"). П. Саковіч напісаў эпіграмы на У. Някляева, М. Гіля, Б. Пятровіча, В. Шніпа і пародыю на К. Камейшу.

## "Мастацтва", N 4

Серыя фотаздымкаў А. Клешчука "Чарнобылевы боль крыжа" вяртае да самай страшнай трагедыі ў гісторыі чалавецтва. Змешчаны пачатак "Варшаўскага дзённіка" Т. Мушынскай і яе гутарка з дырэктарам балета варшаўскага Тэатра Нарадовага харэографам Э. Весялоўскім "Мастацкія ідэалы — Баланчын і Кіліян...", артыкулы М. Загідулінай "Духоўны свет Казіміра Альхімовіча", Н. Антончык "Затрыманыя на мытні", размова В. Трыгубовіч з беларускай мастачкай з ЗША Т. Стагановіч "Мая — Амерыка, мая — Беларусь". Пра полацкія каштоўнасці разважае М. Яніцкая ("Самые дорогие и интересные предметы..."). В. Дадзіёмава ("Час працуе на нашае самаўсведамленне") рэцэнзуе "Вакальныя творы" А.-Г. Радзівіла. Прапануецца трэці артыкул з цыкла В. Лабачэўскай "Польскія адкрыцці". "Пра што задумаўся б антычны скульптар, калі б быў інагледачом" — роздум Н. Фральцовай паводле апошніх кінафестываляў, што прайшлі ў Брэсце і Мінску. У полі зроку Г. Фатыхавай творчасць Г. Александровіч ("Касцюмы "ад Гайшы"). Л. Страццеў запрашае яшчэ раз прайсціся "Коласаўскім шляхам" па Стаўбцоўшчыне ("Дарога ў вечнасць"). Сярод іншых матэрыялаў "Жыццёвы шлях" адной ганчарнай формы" Я. Ленсу, "Разважанні на аскепках часу, разбітага ўшчэнт..." Г. Нагаевай, працяг артыкула М. Крукоўскага "Чалавек не можа не тварыць", "У роздуме пра шчасце" Г. Грыневіча, "Маладыя на галерэі" В. Буйвала, "Чулага сэрца магніт" Б. Бур'яна, "Акцёры вачамі натураліста" І. Рачкоўскай і іншыя.

ПАЭЗІЯ

Віктар ШНІП



# "І быў напачатку сон..."

## Сон

1

і быў напачатку сон
і мы ў гэтым сне былі
як матыль у кокане

2

сон гэта райскае возера
у якім мы плаваем
не разумеючы
што патанулі

3

сон гэта туман
праз які мы праходзім
зажмурыўшыся

4

сон гэта нара
у якую хаваецца маё я
ад мяне самога

5

сон гэта павуцінка
за якую трымаецца душа
у час сваіх начных вандровак

6

сон гэта зацьменне
майго сонца

7

сон гэта пацалунак смерці
за тое што мы ёсць

8

і мне сніцца сон
і я люблю гэты сон
бо ён не паўтараецца

●

А мы з табой распалім
вогнішча на ўзлессі сонным
І белым дымам, як вадой са снегам,
луг затопім.
І несусветны наш патоп
не пераедзе конна
Стары ляснік, якога мы з табой,
як сон, не помнім.

І мы з лісця жаўцюткага
змайструем човен лёгкі
І паплывем па свеце,
быццам выгнаныя з раю,
І будзе шлях наш над зямлёй,
як Млечны шлях, далёкі
І пройдзе ноч, і прыйдзе дзень,
якога я чакаю...

І ўміг вятры развеюць дым,
вуголле пачарнее
І луг наш усплыве на свет
і заблішчыць расою,
Як нечаканаю слязой, якой не разумееш,
Бо на вачах яна з'яўляецца сама сабою.

Мы вернемся дамоў,
дзе нас ніхто шчэ не чакае,
Дзе час цячэ, нібы вада
на кухні нашай з крана...

●

Выхадныя праляцелі, як і не было.
Занавешу вокны шчыльна
і ўключу святло,
Бо навокал ціха, цёмна, халадна зусім
І над намі неба,
як над стылым прыскам дым.
Заўтра зноў на працу,
дзе штодзённы звыклы тлум,
Дзе мы ў кубках кавы топім
свой атрутны сум
І глядзім праз вокны
на вар'яцкі шэры свет,
Дзе не мае славы ні празаік, ні паэт...
Выхадныя праляцелі, як і не было.
Вып'ю дэмідролу, выключу святло.

●

А на праспекце кветкі і плакаты,
І даўгалыгія ля крам дзяўчаты
Шукаюць шчасця, а яно, як дым.

Пра сум, што з сэрца не знікае,
Ля ГУМа гітарыст спявае,
Паблісківаючы зубам залатым.

Усе клянуць бязбожную спякоту
І целамі вільготнымі ад поту
Кідаюцца пад цені і вятры.

А я з царквы вяртаюся дахаты,
Шчаслівы і на грошы не багаты,
І без дажджу мне жыць яшчэ дні тры.

●

Дажджамі размыта нябёсаў святло,
Мне з вуліцы змроку ў пакой нацякло
І холадна стала, нібыта зімой.

Я сябру ў Расію свой ліст напішу,
Аб дрэнным надвор'і яму раскажу
І ён зразумее, які тут настрой.

А дождж не сціхае, шуміць, як вар'ят,
І хутка прачнецца ў садах лістапад
І дрэвы счарнеюць, нібыта згараць.

Ды некалі ж скончыцца дождж
і святлом
Нябёсы напоўняцца, нібы віном...
Ды нам пад крыжамі, напэўна, ляжаць.

●

Ізноў правінцыяльная самота
Засмоктвае ў сябе, нібы ў балота,
І нашы душы ды і нас даўно.

І ад самоты болей не ратуе
Ні Бог, які даўно ўжо нас не чуе,
Ні крамнае атрутнае віно.

І ты, відаць, савецкі, горка б плакаў,
Калі б не побач быў шляхетны Ракаў,
Дзе нас шчэ добра помняць шляхцюкі.

Яны разгоняць, як сабак, самоту
І пасмяюцца з нас у асалоду,
Бо гэта гэткі Край, бо час такі.

●

А жыць тут можна,
Хоць і асцярожна,
Нібы па бітым шкле хадзіць.
Тут шыбы біць, як морды біць,
І трэба біць, не толькі можна,
Бо ў гэтым ёсць не толькі штось,
А крык у свет, які жыве,
Нібы слімак жыве ў траве,
Калі трава густая ёсць.
І жыць тут можна,
І жыць тут трэба,
Ты намалюй мне толькі неба
На гэтым дыме, што над намі...

## Самагубства

Ты ведаеш, што гэты дзень
Не апошні дзень свету,
Але ты ведаеш, што ён будзе
Тваім апошнім днём...
І скончыцца гэты дзень,
Як вада ў калодзежы,
І патухне гэтае святло,
Як свечка перад абразамі...
І ты, ідучы па вуліцы,
Ідзеш праз гэты дзень,
У якім ужо амаль няма цябе,
Але ты ведаеш, што гэты дзень
Не апошні дзень свету...
І ты знікаеш, як пыл над дарогай,
Па якой ты ўчора ішоў.
І ты знікаеш,
Каб з'явіцца там.
Але ці ёсць яно тое там,
На якое ты спадзяешся,
Як на саломінку тапелец...
І скончыцца гэты дзень,
Як сцежка дадому,
У якім цябе ніхто не чакае.

### З ЦЫКЛА "БАГЕМА"

●

Як ліхтар чырвоны, ты каля гатэля
У чырвонай міні, сумная, стаіш.
Не спакусіш дзядзьку, юная марцэля,
І дарэмна шчыра на яго глядзіш.

Ён даўно нявольны, ён даўно жанаты
І ў яго дарога ўжо цяпер адна,
Нібы ў пекла грэшніку, ісці дахаты,
Дзе чакае ў ложку верная жана.

Быў і ён калісьці да дзяўчат ахвочы
І любіў не толькі на спакус глядзець,
А цяпер жаны баіцца — выб'е вочы
І прымусіць ноччу на двары калець.

Ты ж стаіш хіповая, як сэкс-рэклама,
Хочацца і страшна, хочацца гульнуць,
Хочацца нясцерпна, як пасля ста грамаў
Хочацца і пляшку цэлую кульнуць.

Холадна стаяць у міні, вецер шкодзіць.
На мужчын глядзіш ты,
як крычыш "вазьмі".
А яны праходзяць, як жыццё праходзіць,
На цябе глядзяць кітайскімі вачмі.

●

Малады і прыгожы, нібыта даляры,
Ён табе абяцаў несусветны балдзёж.
Пад табою цяпер, нібы Афрыка, нары,
Ты ляжыш пад фуфайкай,
як чорная вош.
Гэта ён жа цябе здаў
амаль што за пляшку
Маладую, як персік, ссівелым мянтам.
І цяпер яму жыць, прайдзісвету,
нацяжка,
Бо не трэба цябе валачы ў Амстэрдам.
Ды як толькі сваё адваляеш на нарах,
І як выйдзеш за чорныя сцены турмы,
Ты яго адшукаеш, як сэнс у даларах,
І ён будзе стаяць прад табой, як нямы.
І ты скажаш яму: "А цябе я кахала..."
І заглянеш у вочы зялёныя ты.
І, нібыта ваўчыца, ты б яго разарвала,
Ды не зможаш —
даўно праляцелі гады,
Калі злосць у табе, як віно бушавала...

Малады і прыгожы, нібыта даляры,
Ён табе абяцаў несусветны балдзёж.
Пад табою цяпер, нібы Афрыка, нары,
Ты ляжыш пад ватоўкай,
як чорная вош.

●

Ты была ў Афінах і Парыжы,
З лордамі шампанскае піла,
Носіш ты з Ерусаліма крыжык,
Быццам прастытуткай не была,
Быццам не лячылася ад пранцаў.
Сёння ты шчаслівая жана
Маладога, быццам бык, іспанца,
У якога ты, як смерць, адна.
Сёння ты прыехала да маці,
Ды матуля ўжо даўно ў зямлі,
А браты твае, што мелі ў хаце,
З гора разам з хатай прапілі.
Да мяне не зойдзешся ты ў госці,
Ды і я цябе не пазаву.
Я цябе кахаў па маладосці
І дурыў сцішкамі галаву.
Заўтра зноў ты з'едзеш да іспанца
У далёкі для мяне Мадрыд.
Ну а я ізноў аддамся п'янцы,
Нібы рэчцы аддаецца плыт.
А пакуль што на цябе другую
Я гляджу праз бруднае вакно...
Толькі ў снах адну цябе цалую,
Толькі ў снах я п'ю з табой віно.

## Балада першага кахання

З кучаравым сытым афрыканцам
Ты жывеш у цесным інтэрнаце.
На мяне глядзіш, як на паганца,
Для якога тут
не ў джынсах шчасце.
Хутка завязе цябе ў Анголу
Твой адзіны, нібы ноч, мужчына
І ты пройдзеш там кахання школу,
Белая савецкая жанчына.
Мо і ўспомніш ты маё каханне
Сумнае, як ружы на магіле,
І на ўсю Анголу плакаць станеш
Ты па мне, а я цябе ў "чарніле"
Буду бачыць, ходзячы па барах,
Малады і страшна адзінокі...
Ты цяпер над Афрыкай у марах
Лётаеш, як лётаюць сарокі
Над балотам, што ў цябе ля вёскі.
Што ж, табе перашкаджаць не буду,
У мяне характар не ангольскі
І тым болей — не люблю я блуду...
З кучаравым сытым
прайдзісветам
Ты прайшла каля мяне ізноў.
О, як цяжка жыць без пісталета
У семнаццаць, як дурман, гадоў...

ПРОЗА

Алег ЖДАН

# ПАЖАР

АПАВЯДАННЕ



ДАЎНО ВЯДОМА: рэальнасць здарэння — не апраўданне.

Цяпер чуваць: чым далей ад жыцця — тым лепш.

Але жрэальнасць захоўвае прывабнасць для празаіка. Вось і гэты выпадак. Я пасаромеўся б прыдумваць такое, калі б...

Так, аднак тое-сёе ўсё ж прыдумаў. Тлумачэнні, прынамсі. Дакладней — расшыфроўку. Ну, а здарэнне — як яно і было...

Ні бацькі, ні маці, ці якой іншай радні Мікіта Татарчонак не ведаў. Жыццё ягонае пачалося ў інтэрнаце — там і прозвішча далі, пабачыўшы раскосыя вочы і абрэзаны па мусульманскай завядзёнцы стручок.

Гэтаксама і Наста Кітайка: залапатала няўцямнае, як прывезлі ў дзіцячы прыёмнік, а пачаставалі кашаю — лыжку трымала не тым канцом.

Наста была маладзейшай гады на два, неймаверна худая, маслатая, але ўжо ў восьмым класе Мікіта ведаў, што менавіта яна наканавана яму. Вучыцца нікуды не паехаў, уладкаваўся на цагельню, а як забралі ў войска, ліставаўся з ёй кожны тыдзень, і пасля службы яны ажаніліся. Праўда, выявілася, што пагуляла з кімсьці Наста за гэты час, аднак ні паўслова ёй не сказаў.

Нанялі пакойчык на ўскраіне горада і так узяліся грэбці пад сябе, што хутка здолелі пабудавацца, займець сапраўдны прытулак. Ён да любой гаспадарчай працы аказаўся майстар, яна шыла і дзень, і ноч. Прывезлі лесу з-пад Чэрыкава — пачалі і скончылі ў адзін год хату. Потым "калацілі" на мэблю, дыван, тэлевізар, на матацыкл з каляскаю, халадзільнік... І раптам зразумелі, што ўсяго дамагліся, больш нічога не трэба, усё ёсць. Дачка, што за гэты час вырасла вышэйшаю за бацькоў, паляцела замуж ў нейкі Кобрын, у Заходнюю Беларусь.

Засталіся ўдваіх.

Вось тады і западозрыў Мікіта, што Наста яму здраджвае. Па нейкіх усмешках — быццам сама сабе — западозрыў, па новых сукенках ды шаліках, па крыўлянні сяброў — пры спатканні адзін твар, а як азірнешся — іншы. Пачаў сачыць за ёю і паступова ўпэўніўся — так і ёсць.

Але ж — з кім? Сярод дня заглядваў у швейнае атэлье, дзе яна працавала, прыглядаўся да легкавых і грузавых машын: хто там едзе, каго вязе? А як выдавалася на цагельні другая змена, нечакана з'яўляўся то ў сем, то ў дзесяць: ці няма ў хаце гасцей?

І аднойчы злавіў. Прыйшоў раней на гадзіну — Насты няма. Кінуўся па адной вуліцы, па другой — і ўбачыў: набліжаецца ў новай сваёй сукенцы, павольна, стомлена. Рассцелая, сакавітая, воблачка парфумы клубіцца над галавою.

Узрадавалася, прыціснулася бокам. "Гэта я ў парк забрыла, Мікіта. Паназірала, як моладзь танцуе. Зусім іншыя танцы цяпер... — Гэта яна дакладна сказала, амаль прызналася: іншыя танцы. — Ой, неахвота старэць..." Рассмяялася з нейкай вінаватасцю ў голасе, а можа, раскаяннем. І то зразумела: ці ж ахвота, калі а х в о т а? "Што ты ўсё маўчыш, Мікіта? Пагаварыў бы са мною..." Значыць, не нагаварылася, некалі было. Трэба было п а с п е ц ь.

З гэтага дня ўсё адно да аднаго: і гаворка яе, і маўчанне. І павольная сляза перад тэлевізарам, і вясёлы смех.

Углядаўся ў твары мужчын — суседзяў, знаёмых:хто?

Кожны падыходзіў на такую ролю.

Тут і прыйшла ідэя стварыць ёй умовы, пайсці — па сумяшчальніцтве — начным ахоўнікам на аўтабазу, а што з гэтага рая атрымаецца — паглядзець.

"Навошта, Мікітка? Усё ў нас з табою ёсць. Будзем жыць".

"Трэба, — адказаў. — Проста неабходна". Надта прыдатны час — ноч, каб...

Каб сёе-тое праясніць. Сярод начы зыходзіў з аўтабазы і, затаіўшыся ў малінніку, чакаў.

Хутка, вельмі хутка яму пашанцавала: спыніўся ля хаты легкавічок, выключыў фары. Вадзіцель выйшаў, азірнуўся, прыслухаўся. Аднак нешта яго насцярожыла — мо цень заўважыў у малінніку, а мо яна падала ўмоўны знак. Абышоў вакол машыны, стукнуў ботам у колы, завёў рухавік, паімчаў.

"Як табе "Масквіч" 20-90?" — спытаў раніцаю.

"Масквіч"? — здзівілася. — Навошта ён нам? Куды ездзіць? Хопіць з нас матацыкла".

Відаць, зусім дурнем лічыла яго. Што ж, так і ёсць. Ці не дурань, як нічога не заўважаў да гэтае пары? Можна ўявіць, што яна вычварала тады, як ён служыў, і што — цяпер, калі ездзіць у Кобрын.

"Што з табою, Мікітка? Не захварэў?"

А як аднойчы прыйшла весёлая ды пахнула ад яе віном ("Дзень нараджэння быў у Соні Войтавай. Ведаеш, што мы пілі? Каньяк!"), ён зразумеў, што час ужо і адпомсціць за сваё зганьбаванае жыццё.

Тут яшчэ і госць аб'явіўся: брат дваюрадны ці траюрадны. Шукаў яе трыццаць гадоў і — знайшоў. Ці не з Кобрына ён? А мо той, што... Ох, як бессаромна глядзелі адно на аднаго, як абдымаліся, хадзілі след у след. Можа, і насамрэч доўга не бачыліся — з той самай начы, як... Ого, колькі часу! Вось толькі чаму вочы ў "брата" не кітайскія, а хутчэй, цыганскія? Таму што — дваюрадны? Ха-ха. Нават спаць лягалі ў адным пакойчыку. "Каб не турбаваць цябе, Мікітка. Нам трэба пагаварыць".

Ён, вядома, ні на хвіліну не заплюшчыў вачэй — слухаў іх прыглушаныя размовы. А як сцішыліся, зразумеў — пара!

Трэба было пакараць яе. Рэч не ў тым, што абдымалася з гэтым мужчынам, а ў тым, што здрадзіла ягонай душы. Ён тут адзін, яму больш няма на каго разлічваць, спадзявацца, некаму даверыцца. Ён — вузкавокі, скуласты, смуглявы, быццам правэнджаны — чужы тут, выпадковы чалавек, нікога ў яго, акрамя яе, і — здрадзіла. Пакідаць здраду без пакарання нельга. Нічога страшнейшага за здраду няма.

Узяў на кухні запалкі, у хляўку каністру бензіну, абліў усе чатыры вуглы, чыркнуў ля аднаго і падбег да другога, трэцяга — каб вогнішча ўскінулася адразу з усіх бакоў.

Першым з вогнішча вымахнуў "брат", за ім Наста.

Мікіта не хаваўся: так і стаяў з каністраю, калі збегся народ.

У час следства і суда Мікіта ні ад чаго не адракаўся і ні ў чым не прызнаваўся — маўчаў. І з Настаю маўчаў, калі яна прыходзіла на турэмнае спатканне.

Свой тэрмін — пяць гадоў — адбываў у Оршы. Паводзіў сябе паслухмяна, ціха і праз тры гады быў умоўна-датэрмінова вызвалены. Ніводнага ліста не паслаў Насце за гэты час, не адказаў і на тыя два ці тры, што прыслала.

Не надта і змяніўся за тры гады. Адно — згубіў верхнія зубы ўперадзе: высадзіў локцем сусед па нарах, разлзаваўшыся, што — маўчыць.

Некаторыя зняволеныя лічылі дні ў прамым парадку, іншыя — у зваротным, а Мікіта ніяк не лічыў. І нават калі начальнік турмы аб'явіў аб вызваленні, не праявіў радасці, быццам яму аднолькава, што тут, што там.

Але ж, вядома, быў рады. Вясна ў разгары, сады цвітуць. Тут вольны чалавек жыве і радуецца, што гаварыць пра і х?

Цягнік на станцыю прыбыў раніцаю. Аўтобус ішоў па вуліцы, на якой калісьці жыў.

Усё мог чакаць Мікіта, нават тое, што пажар яшчэ дыміцца, курэ, адно не гэта: на месцы былога папялішча стаяў хваёвы, толькі з-пад сякеры, бервяно да бервяна, пад высокім цынкавым дахам — дом.

І Наста стаяла ў агародзе з рыдлёўкаю.

І вішні, што пасадзіў пяць гадоў таму, дружна цвілі...

Я ведаў яго лепш за многіх. Па-першае, аднагодак. Не мог я не зважаць на ягоную адзінокую постаць — там, тут. Звычайна ізгоі ды адзінцы імкнуцца заслужыць адабрэнне, чакаюць ухвалення, — ён не імкнуўся, не чакаў. Часам з цікавасцю спыняўся, пазіраючы на нашы гульні, але ж як запрашалі — адмоўна хітаў галавою і весела, падскакам адыходзіў, быццам яму найлепш заставацца аднаму.

Па-другое, даводзілася — зразумела, пазней, у сталыя гады — звяртацца па дапамогу пабудаваць хляўчук, выкапаць пограб, скласці печ. Працаваў ён хутка, спрытна, даволі якасна, плату браў сціплую — шмат хто запрашаў яго.

На замкнёнага чалавека Мікіта не выдаваў. Наадварот, напяваў нейкія песенькі, усміхаўся, на слова адразу адказваў словам, аднак па сваёй ахвоце гаворкі не пачынаў. І яшчэ: можна было заспець яго быццам зніякавеўшага — з паднятай сякераю, рыдлёўкаю ці малатком.

Не, не разумею, чаму гэтак, а не інакш склаўся ягоны характар і лёс. Што гэта — колішняя вайна, што адабрала бацькоўскую хату, радзіму, прытулак? Затоеная крыўда на Насту? Няўцямнае па цяперашнім часе каханне?.. Але ж мільёны хлопчыкаў засталіся без бацькоў, мільёны мужчын ціхамірна жывуць са сваімі патаемнымі крыўдамі, мільёны ўвогуле не любяць сваіх жанок...

Няўжо нельга аніяк апраўдаць?

Ведаю адно: схільнасці да злачынства ў яго не было. Дый ці злачынства тое, што ён зрабіў, калі дапусціць, што закон не ўсё ведае і не ўсё ўлічвае ў чалавеку?

І ці не бывае ў нас, законнікаў і паслухмянцаў, хвілін, калі хочацца разлічыцца з лёсам, каб патушыць пажар у душы, а там — хаця б і ў самы скрушны шлях?

Нейкая ненармальная весялосць найшла на Мікіту, як вярнуўся. Наняў пакойчык, пачаў працаваць. Бы нешта ўкалолі яму там, у Оршы, у пярэдадзень вызвалення, нібыта падпаілі і падагрэлі.

Абавязковай стала ягоная постаць у мужчынскіх тусоўках. Не, многа не піў — глыне кілішак-другі дый сядзіць з блакітным агеньчыкам уваччу.

Касцюм прыдбаў з гальштукам, зубы паставіў. А аднойчы сказаў: хачу ажаніцца і абавязкова на маладой. Што ж, маладых, хаця і не першацветак, у горадзе нямала. Вось, напрыклад, Машка-баптыстка. Як яна табе? Нішто.

Іншы раз нейкая брыдкая балбатлівасць находзіла на Мікіту — усім, хто жадаў паслухаць, расказваў, што ён з ёй, Машкаю, вычварае па начах і што яна з ім. Жыў ён у яе, за рэчкаю, хату — старую, занядбаную — ашаляваў, пафарбаваў, ліштвы на вокны выразаў, бусла з фанеры на вільчак падняў — ясна, з такім дзядзькам будзеш вычвараць.

Праўда, чаго раней не было, пачаў уваходзіць у зацяжныя запоі. І касцюм з гальштукам прап'е за адзін тыдзень, і боты. Адап'е сваё — пайшоў калаціць. У баптыстаў у малітоўным доме пачаў з'яўляцца. Зрэшты, не часта — не хацеў прылюдна хрысціцца ў рацэ.

Ля гэтага малітоўнага дома яшчэ раз перамяніўся ягоны лёс: ішоў са сваёй новаю жонкай і сустрэў Насту. Зірнула на сямейную пару Наста спакойна, паважліва, адно — пачырванела ярчэй звычайнага ды вочы долу. І ніхто гэтага не заўважыў, акрамя Мікіткі.

У той жа вечар забухаўся ён на ўвесь тыдзень, зноў спусціў з рук і касцюм, і гальштук, а потым пачаў выносіць з хаты талеркі-лыжкі. Вось тады баптыстка і выперла яго прэч.

Прыйшоў пасля запою да Насты. "Не магу без цябе", — сказаў. "Не, Мікітка, — адказала яна. Я ўжо прывыкла адна".

І яшчэ прыходзіў, яшчэ. Цвярозы і п'яны, у касцюме і ватніку, у туфлях і кірзачах. Аднойчы нават адлупцаваў Насту, як родную жонку, аднойчы згвалтаваў, тры дні чакаў міліцыю — не дачакаўся.

Аднак, калі заявіўся зноў, Наста не адчыніла яму.

Вось тады і ўбачылі людзі новы выраз на шыракаскулым татарскім твары — бы глыбока прыхаванае шаленства.

Тады, відаць, і рашыўся.

Ноччу зноў спыхнуў і запалаў яе дом.

Ачуняў Мікіта толькі пасля суда. І не тады, як зачытвалі прыгавор — гэта яго, здавалася, не цікавіла, і не тады, як павялі ў наручніках, і не тады, як саджалі ў машыну з кратамі, і не... А вось як паехалі па адной вуліцы, па другой, трэцяй, як крута павярнулі на выезд з горада — тады і кінуўся да акна, учапіўся ў краты. Пэўна, хацеў пабачыць калі не Насту, то хаця б папялішча.

Аднак памыліўся. Машына ехала па другой дарозе, у другі бок.



Малюнак Ул. Лукшы.

## "Славянскія тэатральныя сустрэчы"



**Міжнародны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы" праводзіцца ў Гомелі пяты раз. Сярод яго ўдзельнікаў — тэатральныя калектывы Масквы, Бранска, Кіева, Мінска, Чарнігава. Гамяльчане, як заўсёды, рыхтуюць да яго праграму.**

**Цяпер у яе ўвойдзе спектакль паводле п'есы У. Шэкспіра "Дванаццатая ноч, ці як пажадаеце" ў пастаноўцы чарнігаўскага рэжысёра Андрэя Бакірава. У спектаклі заняты маладыя гомельскія акцёры, сярод іх і выпускніца Днепрапятроўскага тэатральнага інстытута Наталля Дзяберына.**

*На здымку: Наталля Дзяберына ў ролі Алівіі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Свая "Акадэмічная вясна"

**Вясна, як правіла, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі характарызуецца не толькі напружанымі заняткамі на факультэтах, але і гарачымі баталіямі на спартыўных пляцоўках і выступленнямі аматараў мастацкай самадзейнасці. Дарэчы, удзельнікаў мастацкай самадзейнасці з БСГА ведаюць далёка за межамі Магілёўскай вобласці. Пры Палацы культуры БСГА працуюць чатыры народныя калектывы, шмат іншых ансамбляў розных жанравых напрамкаў.**

**Адной з галоўных сёлетніх падзей культурнага жыцця акадэміі была прэм'ера трагедыі Жана Ануя "Антыгона" ў пастаноўцы народнага тэатра "Парадокс". Зала з задавальненнем успрымала ігру акцёраў-студэнтаў: Алёны Грузінскай, Косці Семянені, Віталя Коваля ды інш. Рэжысёр А. Крывянкова многае зрабіла, каб вывіць у студэнтах эканамічнага, заатэхнічнага ды іншых факультэтаў здольных акцёраў. Ужо сталася традыцыяй, што гэты калектыў кожны год выносіць на суд гледачоў новы спектакль. І прэм'еры ўдаюцца.**

**Паспяхова выступае і каманда КВЗ БСГА, якая трапіла ў чвэрцьфіналу рэспубліканскага конкурсу "вясёлых і знаходлівых". Справаздачны канцэрт падрыхтаваў народны ансамбль песні і танца "Радасць", удзельнікі якога годна выступаюць з канцэртамі ў розных месцах. А кульмінацыйнай імпрэзай стаўся традыцыйны агляд мастацкай самадзейнасці факультэтаў "Акадэмічная вясна", які праходзіць кожны год.**

**А. ПУГАЧ,**
**старшы выкладчык БСГА**

## Дзятвой любімы

**"Канёк-гарбунок" П. Яршова выйшаў на беларускай мове. Казку, якой захаплялася не адно пакаленне хлопчыкаў і дзяўчынак, пераклала Зінаіда Дудзюк, а выпусціла яе асобнай кнігай брэсцкая фірма "Форт".**

# Чалавек, пакінуты анёламі

**"ТАМУ ШТО ЛЮБЛЮ" (ПАВОДЛЕ П'ЕСЫ АЛЕНЫ ПАПОВАЙ "ДЗЕНЬ КАРАБЛЯ") НА КОЛАСАЎСКАЙ СЦЭНЕ Ў ПАСТАНОЎЦЫ РЭЖЫСЁРА ВІТАЛЯ БАРКОЎСКАГА І МАСТАКА УЛАДЗІМІРА МАТРОСАВА.**

### ЗАМЕСТ ПРАЛОГА

Маё пакаленне. Пакаленне тых, каму сёння паміж сарака і пяцідзесяццю. Яшчэ зусім нядаўна мы лічылі сябе вальнадумцамі, людзьмі прагрэсіўнымі, людзьмі авангардны-мі. Яшчэ зусім нядаўна мы вінавацілі ў сваіх жыццёвых канфліктах соцыум. І раптам адчулі сваю непатрэбнасць... Нікому. Мы, тыя, хто так настойваў на сваім неафіцыйным лідэрстве, пачуліся дзіўна ў становішчы, якое міжволі стала ўспрымацца як экзістэнцыя наогул. Алена Папова і Віталь Баркоўскі праз вобраз Аляксандра Фінскага вывелі на сцэну драму майго пакалення.

Заўсёдная духоўная беспрытульнасць... Імкненне ў свет... Вандраванне... Вогнішчы й світанкі... Песні... Заробкі на поўначы... Вяртанні... Зноў дарогі... Людзі, якія хадзілі ў горы і ў тайгу, былі героямі 70-х. Беспрытульныя ў партыйным соцыуме, яны шукалі месца т а м. Усё так помніцца яшчэ, нават водар таго часу...

Віталь Баркоўскі трызніць тэмай чалавека 70-х, які не можа прыстасавацца і да соцыуму 90-х. Не можа ўзбіцца на іншы ўзровень: струны душы апынаюцца ў асяроддзі касмічным, халадневатым, расхінутым і абыякавым да любых тагачасных і сённяшніх нашых перажыванняў. Рэжысёр робіць спектакль не столькі сацыяльны, колькі вобразна-паэтычна-экзістэнцыяльны, у якім пытанні пра сэнс жыцця абыходзяць побыт і хваравіта кранаюць душу, што заблукала ў бясконцасці сусвету.

### СТРУКТУРА ПАРТЫТУР

Сцэнаграфія Уладзіміра Матросава ўяўляе сабой... расхінутасць прасторы. Коласаўская сцэна на планшэце не загрувашчана дэталямі: каля левай кулісы доўгі стол з крэсламі, ля правай на самай авансцэне — вялізны фатэль і таршэр. Іншых бытавых абазначэнняў няма; амаль няма рэквізіту. Сцэна здаецца адначасова расхінутай і сканцэнтраванай, прысунутай бліжэй да авансцэны: на франтальной плоскасці і на двух плоскасцях па кулісах да самых каласнікоў уздымаюцца роспісы — па блакітным фоне цені ўзлятаючых анёлаў ці душаў, якія пакідаюць зямлю і нас. І гэта дае адчуванне бясконцасці і бязмежнасці прасторы вакол герояў спектакля, а ў той самы час пляцоўку іх дзеяння замыкаюць ніці-струны: на палове сцэны яны нацягнуты па вертыкалі, па іншай палове — па гарызанталі. Яны нагадваюць пра нашу сувязь з сусветам і нотапіс нашага духу. Матросаў працінае імі прастору дзеяння: іх трэба закранаць, праз іх неабходна праходзіць. Такое мастацкае вырашэнне візуальнага шэрагу пастаноўкі адсякае любыя асацыяцыі з побытам. Яно вымагае ад акцёраў існавання ў гранічна ўмоўных абставінах. І становішча акцёраў на сцэне робіцца адразу дваістым: што б ні вымаўлялі яны, як бы ні рухаліся, з залы ўсё разглядаецца ў суладдзі і ў паралель з адлятаючымі анёламі і з напятымі струнамі чалавечай душы.

Як судны гук труб раз-пораз гучыць драматычная музыка лёсу (музычнае афармленне Аляксандра Крыштафовіча), а роспісы ўспыхваюць навальнічным святлом (мастак па святле — Р. Ісэрман). Хоць нічога звыштрагічнага па сюжэце не здараецца. Акцэнтуюцца падзеі ў душы, а значыць, у прасторы сусвету.

Сцэнаграфічная зададзенасць існавання персанажаў ускладняецца рухавай партытурай гэтага існавання (пастаноўшчык руху — з. а. Б. Сяўко, харэограф — А. Кастрыцкі). Пластыка персанажаў характарная, гратэскавая, метафарычная. Тэкставае і пластычнае "несумяшчэнне" дае моцны кантрапункт, высякаючы драматычны сэнс эпізоду, альбо ўздымаючы яго да трагічнай ноты, альбо абвастраючы камедыйнасць...

Спектакль падобны на нізку метафараўсцэн, кожная з якіх можа разглядацца і самастойна. Пастановачны сэнс знаходзіцца менавіта ў асацыятыўным успрыманні, у належнэнні эпізодаў, — менавіта асацыяцыя мусіць з'яднаць і зкампанаваць гука-колерава-пластычныя, амаль акварэльныя штрыхі ў агульнае цэласнае.

### АКЦЁРСКІЯ НАСТРОІ

Коласаўскія акцёры апынуліся ў празрыстай атмасферы. Нібыта на вялікай гары, дзе паветра разрэжанае і зусім іншае на смак і водар. І, здаецца, крыху кружыцца галава...

Кантрапунктная пастаноўка прымусіла іх выяўляць глыбіні невядомыя, нязвыклыя, непатрэбныя ў мінулыя гады і ў мінулых сцэнічных работах. Коласаўскія акцёры зайгралі так, як іграюць Чэхава... мякка, надзвычай далікатна, акуратна, культурна.

Рытм спектакля не адрозніваецца ад жыццепадобнага: проста эпізоды нібыта вырываюцца з памяці галоўнага персанажа Фінскага (В. Грушоў) у першай дзеі, і наслойваюцца адзін на адзін — у другой. Памяць дваццацігадовай даўніны і абсурд жыцця быццам накладваюць адзін успамін на другі, быццам расхінаючы думкі і пачуцці героя. Калі ў першым акце Фінскі фрагментарна ўспамінае юнацтва, маладосць, першую жаніцьбу (цікавая работа Г. Букацінай у ролі Галы, жонкі Фінскага), малодшую сястру і дом — і гэта зразумела па часе і рэальнасці адчуванняў, то ў другой дзеі, дзе Фінскі ўжо стаў чалавек і вяртаецца дадому пасля чарговага бадзяжніцтва па зямлі, пастановачны прыём фрагментарнасці выводзіць спектакль на разуменне фрагментарнасці жыцця наогул, яго агульнай бессэнсоўнасці і нашай немагчымасці хоць за што-небудзь

МУЗЫКА

# Конкурс на хвалях авацый

***У насычанае падзеямі музычнае жыццё Мінска арганічна ўпісаўся адкрыты конкурс выканаўцаў на духавых інструментах "Я граю джаз".***

Дырыжора эстраднага аркестра Мінскага Палаца дзяцей і моладзі Васіля Коназа ідэя правядзення такога конкурсу наведала даўно. Паскарэннем яе ўвасаблення стаўся конкурс духавікоў 1996 г., калі некаторыя маладыя выканаўцы ў свае праграмы ўключалі, побач з класічнымі і сучаснымі творамі, таксама эстрадныя і джазавыя п'есы. Ідэю В. Коназа падтрымаў дырэктар палаца — Віктар Кананові, які і ўзначаліў аргкамітэт. Ні арганізатары, ні самі ўдзельнікі не чакалі, што такое мерапрыемства збярэ шырокае кола цікаўных, поўную залу гледачоў...

Мінула ўжо нямала часу, як адбыўся той першы конкурс. Але мне ён помніцца добра.

Тады, у першы ж дзень, падчас "Параду прэтэндэнтаў" слухачы настроіліся на дзівосныя сустрэчы з цудоўным светам джазавай музыкі. Праўда, калі пачаліся конкурсныя праслухоўванні І тура, нельга было не заўважыць нейкі скептыцызм і сарказм прадстаўнікоў Мінскага джаз-клуба, іронію дарослых "джазменаў" — бо ў час правядзення жараб'ёўкі на сцэну ў групе да 13 гадоў выходзілі дзевяцігадовыя малечы ростам амаль са свае трубы, саксафоны...

Выступленні дзяцей рассеялі ўсе сумненні, і юныя прыхільнікі джазавага мастацтва былі ганараваны бурнымі авацыямі ўдзячнай публікі і шчырымі апладысментамі журы. Першым дастойна справіўся з праграмай дзевяцігадовы Аляксей Надзяненка з СШ N 4. Ягоная труба пераканаўча данесла да слухачоў характар духоўнага негрыцянскага гімна — спірычуэла "Спусціся з нябёсаў, Майсей". Нялёгка было пазбавіцца спакусы нагадаць сабе вядомую інтэрпрэтацыю гэтай традыцыйнай джазавай мелодыі легендарным "каралём джаза" Луі Армстрангам, калі пасля інструментальнага сола ён пяе сваім чарадзейна-хрыплаватым нізкім голасам. Але юны мінскі музыкант лёгка "адышоў" ад славутага стэрэатыпа — ва ўдалай свінгавай манеры ён на высокім эмацыянальным уздыме выканаў імправізацыю, завяршыўшы кампазіцыю ў верхнім рэгістры на гуку "фа" другой актавы, што, як разумеюць спецыялісты, цяжкадаступна для юных трубачоў. Між іншым, і на ІІ туры, і на гала-канцэрце пераможцаў, выканаўшы папулярную тэму Б. Кемпферта "Падарожнікі ў ночы", Аляксей застаўся несумненным лідэрам у сваёй намінацыі, завяваўшы званне лаўрэата.

Урэшце, і ягоныя аднакашнікі з СШ N 4 даволі паспяхова падрыхтаваліся да сур'ёзнага і незвычайнага для сябе выпрабавання. "У нашай школе заняткі музыкай дапамагаюць вучням фарміраваць свой мастацкі густ, развіваць эмоцыі, пашыраць кругагляд, павышаць інтэлектуальны ўзровень, — адзначыла намеснік дырэктара Людміла Вінаградава. — Так ужо склаўся навучальны працэс у плане эстэтычнага выхавання, што вучні школы асвойваюць практыкаванні, гамы, эцюды, каб спасцігнуць характар класічных твораў. І ўсе мы вельмі рады, што нашы настаўнікі з трубачамі, саксафаністамі, флейтыстамі, кларнетыстамі пачалі спасцігаць сакрэты эстраднай і джазавай музыкі. А такія ж заняткі ўжо вымагаюць зусім асаблівага ўзроўню мыслення, успрымання і ўзнаўлення музычнага матэрыялу".





зачапіцца думкай ці пачуццём, каб усвядоміць сябе ў жыцці і сярод іншых людзей...

Трагедыя Фінскага ў спектаклі Баркоўскага — у прынцыповай немагчымасці адшукаць месца на зямлі. Месца, дзе б ён б ы ў. Вячаслаў Грушоў стварае вобраз чалавека, які так і не знайшоў ні жыцця, ні ягонага сэнсу. Фізічна, фізіялагічна, маральна, генетычна, па-чалавечы Фінскі Грушова, гэты інтэлігентны і далікатны персанаж, не ў стане набыць душэўнай і духоўнай існасці. Тут са сцэны глядзіць на нас немагчымасць самаідэнтыфікацыі майго пакалення.

Бацька (Фёдар Шмакаў) і маці (Людміла Пісарава) штурхалі сына ў партыю, радаваліся новай кватэры і з'яўленню ўнука... Яны любілі Фінскага, яны разумелі, як яго нудзіць ад жыцця. Пісарава і Шмакаў утвараюць на сцэне нават не характары, а скульптуры (знаёмыя да неверагоднасці архетыпы савецкага ўяўлення, і ў той жа час вартыя шчырага жалю). Як і вобразы суседзяў Івановых у акцёраў Т. Скварцовай і Б. Крупскага — работы вытанчаныя (суседу Іванову дадзена апошняя сцэна ў спектаклі, калі сыход Фінскага падобны і на вяртанне блуднага сына, і на развітанне назаўжды: Іваноў абдымае галоўнага героя, выпраўляючы таго ў дарогу, бласлаўляючы і разумеючы беспрытульнасць ягонай душы).

Роля Машкі, сястры Фінскага — адточаная, выдатная праца Таццяны Ліхачовай, дзе актрыса стварае вобраз двайніка Фінскага, яго адлюстравання ў той жа меры драматычнасці. Праз Машку мы бачым, што робіцца з пакаленнем, як страчваюцца не набытыя каштоўнасці ды ідэалы. Вобраз актрыса стварае рэзкімі дакладнымі штрыхамі.

У спектаклі не аказалася роляў вялікіх і малых, галоўных і другасных: метафарычная пабудова дала магчымасць выявіцца кожнаму і даць яму на час усю сцэну. Так, дыяментамі ўспыхваюць вобразы дысідэнта дзядзькі Шуры (Баляслаў Сяўко) і апошняй жонкі Фінскага, трагічна-вытанчанай Верачкі (Наталля Аладко), шчырага і непрыкаянага Жарына (Аляксандр Фралоў).

Дзіўная рэч, — нібыта святло спектакля, трапляючы на тую ці іншую акцёрскую постаць, як у крышталі, пачынае ззяць чыстымі слязьмі чалавечых патаемных драм, а лёсы герояў, бачныя наскрозь, праходзяць перад вачыма за некалькі хвілінаў, як быццам за шмат гадоў... Акварэльная тканіна пастаноўкі В. Баркоўскага прасвечвае глыбіннымі вірамі алейнага жывапісу.

Коласаўскі тэатр абазначыў тэму канца стагоддзя, тэму вынікаў... Тыя пытанні, што калісьці паставіў Антон Чэхаў, сёння займелі несуцяшальныя адказы... Неба ў дыяментах мы не прымроілі нават і ў сваіх душах.

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Любы спектакль пачынаецца са светапогляду мастака. Светапогляд Віталя Баркоўскага знаходзіцца ў аснове спектакля "Таму што люблю", ягонае адчуванне чалавека ў сучасным свеце. Далей — мастацкае мысленне рэжысёра, яго адпаведнасць сённяшнім сцэнічным утварэнням, культура яго сцэнічных увасабленняў. Баркоўскі — рэжысёр авангарднай думкі, і менавіта яна дазваляе яму адчуваць псіхалагічны матэрыял як прасторава-пластычную структуру. Больш за тое, Баркоўскі спавядае не той тэатр, які прынята лічыць люстэркам жыцця, ён добра разумее, што тэатр — гэта с в е т  п р ы ч ы н а ў, іншая рэальнасць, рэальнасць гульні ды экзістэнцыі. У ягоным пастановачным арсенале дастаткова выразных сродкаў для ажыццяўлення сваіх мастакоўскіх памкненняў і разуменняў.

В. Баркоўскі асэнсоўвае спектакль як гульню, надае яму ўмоўную форму, усведамляючы, што сёння сур'ёзная размова ў мастацтве можа адбыцца хіба з дапамогай карнавальна-містэрыяльнай танальнасці тэатральнай мовы.

Спектакль "Таму што люблю" — структура. Слаістая, крышталька-графічная, са скульптурнымі вобразамі ўсярэдзіне. Структура, падобная да глытка свежага паветра... Гэтая холаднасць бясконцага сусвету Уладзіміра Матросава, абсалютная абыякавасць сусвету да жывога трапяткога чалавека, сутыкаецца ў структуры Віталя Баркоўскага з далікатнасцю чалавечых пачуццяў. Яны нібыта рухаюцца насустрач — холад космасу і цеплыня пакутлівай душы, і ў гэтай сцэнічнай рэальнасці пакінуты анёламі чалавек сваім існаваннем ставіць апошнія, галоўныя пытанні перад карцінай свету: хто мы? куды ідзем? у чым сэнс нашых пакутаў? і што ж такое жыццё?

**Таццяна КАТОВІЧ**
*г. Віцебск*

---

Трубачы гэтай школы ў малодшай групе занялі ўсе прызавыя месцы. Сярод лаўрэатаў — дзевяцігадовы Сяргей Багданаў (ІІ месца), які актыўна імправізаваў у спірычуэле "Джошуа выйграў бітву пры Ерыхоне" і дамогся рэльефна-кантраснага ўвасаблення ўсім вядомай тэмы "Чай удваіх" з мюзікла "Не, не, Нанета" В. Юманса. На трэцяе месца выйшаў Уладзімір Бруеў, упэўнена выканаўшы лірычную баладу С. Фостэра "Лебядзіная рака" з элементамі імправізацыйнага развіцця і захавата ўзнавіўшы тэму Л. Прымы "Співай, спявай, спявай".

Поспехаў дамагліся і альт-саксафаністы гэтай жа школы, заваяваўшы прызавыя месцы. Пасля стабільных выступленняў на ўсіх турах на ІІІ месца выйшаў Аляксандр Блахін. Дзевяцігадовы Дзіма Буры, лагічна супаставіўшы ў сваім выступленні задуменна-летуценную тэму Ж. Космы "Апалае лісце" з напорыстасцю і тэмпераментам п'есы "Індыяна" Г. Уорэна, падзяліў ІІ месца з дванаццацігадовым кларнетыстам з ДМШ N 1 Аляксеем Алешкам, выступленні якога вызначаліся ўраўнаважанай манерай і строгім захаваннем інтанацыі.

А сапраўдны фурор зрабілі выступленні дзесяцігадовага Мікалая Засценскага (СШ N 4) і адзінаццацігадовага Максіма Цурко (ДМШ N 14), якія ўпэўнена заваявалі першыя месцы. Журы нават апынулася ў даволі цяжкім становішчы — каму ж аддаць перавагу: максімальна падцягнутаму, сцэнічна арганізаванаму маленькаму Колю, які не адчуваў цяжкасцей у найскладанейшай п'есе П. Дэзмонда "Паспрабуем на пяць", літаральна ашаломіў публіку віртуозным выкананнем агністай п'есы З. Абрэу "Ціка-ціка", або Максіму, які, не па-дзіцячы імпазантны, упэўнены, асэнсавана дэманстраваў джазавую манеру з разгорнутымі імправізацыямі ў п'есах "Дажджлівы верасень" Г. Уорэна і "Танцы ў "Савоі" Б. Гудмена.

Здавалася б, дзеці другой узроставай групы (да 15 гадоў) таксама парадуюць сваімі поспехамі, але тут можна казаць толькі пра дзве сур'ёзныя перамогі, пра два адкрыцці конкурсу. Усіх пакарыла артыстычнасць, напорыстасць выканання п'есы Дж. Германа "Прывітанне, Долі!" і свінгавая манера са спецыфічнымі джазавымі эфектамі ў блюзе М. Смега, прадэманстраваныя трынаццацігадовым трубачом Пятром Марцінкевічам з ДМШ N 14. Па вартасці публіка ацаніла і другога лаўрэата-лідэра ў гэтай групе — трынаццацігадовага віртуоза на альт-саксафоне з ДМШ N 1 Яўгена Докшыцкага.

А вось у сярэдняй групе (да 18 гадоў) лідэрства захапілі... прадстаўніцы прыгожага полу. Першыя месцы падзялілі Маша Навасёлава з Мінскага музычнага вучылішча, Алена Няронская з ДМШ N 14 (альт-саксафоны), а таксама Вольга Селівонік з музвучылішча (тэнар-саксафон). І ў старэйшай групе (да 23 гадоў) імідж цудоўных "джазістак" падтрымала Ганна Тумеля з Беларускага універсітэта культуры (ІІ месца), якая прадэманстравала ўменне і летуценна весці мелодыю, і віртуозна-напорыста яе развіць у імправізацыі. Яркае ўражанне зрабіў альт-саксафаніст з музвучылішча Сяргей Канавалаў (І месца), а таксама бясспрэчны лідэр усяго конкурсу — прадстаўнік музвучылішча Максім Ласкутоў (І месца), які не толькі прадэманстраваў выдатнае валоданне трамбонам у джазе, але і зачараваў цудоўнай ігрой на фартэпіяна, дапамагаючы сваім сябрам на ўсіх турах як удзельнік рытм-групы.

Удзел у конкурсе паспрыяў навучэнцам знайсці сябе ў свеце джаза. Ужо ад пачатку праслухоўванняў яны вучыліся адно ў аднаго манерам, стылю, нават перавучвалі да наступнага тура праграму, каб дамагчыся поспеху. І поспех перамožцаў — вынік не толькі іхніх выступленняў, але і вынік майстэрства педагогаў — В. Міхновіча, У. Фельгіна, А. Яйчука, Т. Бурунавай, Б. Малярэнкі ды многіх іншых.

"Я рады, што наш конкурс удаўся, — з задавальненнем падкрэсліў на цырымоніі закрыцця свята В. Коназ. — Упэўнены, што наступным разам мы і ўбачым творчы рост нашых канкурсантаў, і пазнаёмімся з новымі выканаўцамі".

Галоўнае, каб джазу сур'ёзна пачалі навучаць тых, хто гэта ўмее, і ў школах, і ў вучылішчах, і ў вышэйшых навучальных установах. Пажадаем нашай моладзі сур'ёзных творчых пошукаў і знаходак у джазавай стыхіі.

**Аляксандр КАРАЦЕЕЎ,**
**старшыня журы конкурсу,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**дацэнт БУК**

*На здымках: у атмасферы конкурсу...*

---

ГАСЦЁЎНЯ

***Аднойчы Віктор Гюго заўважыў: "Смех — гэта здароўе, ён праганяе зіму з чалавечага твару". Часцей за іншых дораць нам гэты смех (а значыць, і здароўе) гумарысты. І чым іх больш — тым лепш. Наша краіна можа пахваліцца сваім сапраўдным каралём гумару і смеху — Уладзімірам Радзівілавым. Зусім нядаўна ён ганараваны званнем заслужанага артыста Беларусі — прыемная нагода для інтэрв'ю з таленавітым майстрам размоўнага жанру...***

**— Перш за ўсё віншую цябе, Уладзімір, з наданнем ганаровага звання. А вось цікава: ці атрымліваў хто-небудзь з беларускіх артыстаў-"размоўнікаў" званне заслужанага?**

# "Гумар падаўжае нам жыццё"

— Калі гаварыць пра парадыйны жанр, то як парадыст я адзіны атрымаў званне заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь. А сярод "размоўнікаў", як вядома, была такая цудоўная артыстка Ганна Паўлаўна Рыжкова... Я, карыстаючыся выпадкам, хачу падзякаваць Міністэрству культуры, Белканцэрту, Адміністрацыі Прэзідэнта і нашаму паважанаму Прэзідэнту Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку за давер, які мне аказалі, надаўшы ганаровае званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь". І дзе б я ні быў, у якой краіне ні выступаў бы, я заўсёды з годнасцю буду несці гэта званне, заўсёды буду ўслаўляць нашу беларускую культуру, нашу дзяржаву. І, канешне, заўсёды буду памятаць, што я перш за ўсё беларускі артыст.

**— Уладзімір, а ці лёгка быць парадыстам? Парадыстамі нараджаюцца ці робяцца?**

— Цяжка быць парадыстам. Бо гэта вельмі складаны жанр, а ў нашай рэспубліцы жанр рэдкі. Ды і ў Маскве ён таксама рэдкі, таму, што на эстрадзе пастаянна з'яўляюцца новыя артысты і парадысту трэба заўсёды быць "на хвалі", падрыхтаваць новых выканаўцаў. А наконт таго, як зрабіцца парадыстам... Я з самага дзяцінства любіў слухаць савецкіх майстроў гэтага жанру, і маімі першымі спробамі на прафесійнай сцэне былі пароды на Клаўдзію Шульжэнку ды Івана Казлоўскага. Гэта былі цудоўныя людзі, цудоўныя артысты, вялікія майстры...

А далей — я, як кажуць, прайшоў агонь, ваду і медныя трубы. Скончыў школу, пайшоў працаваць слесарам на аўтабазу, там скончыў курсы вадзіцеляў, працаваў вадзіцелем, потым пайшоў у армію, два гады праслужыў у Бабруйску. Потым паступіў у Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі і з другога курса вучылішча працаваў ужо на прафесійнай сцэне ў філармоніі. А размеркавалі мяне ў Беларускую дзяржаўную філармонію як артыста размоўнага жанру. Тут я працаваў з цудоўнымі артыстамі: Нэлі Багуслаўскай, рок-групай "Сузор'е", калектывамі песні і моды Святланы Кульпы ды іншымі. А потым ужо я паступіў ва Усерасійскую творчую майстэрню артыстаў эстрады ў Маскве, скончыў яе як артыст-парадыст і канферансье.

Дзеля чаго я заканчваў музычнае вучылішча? Дзеля таго, каб ведаць азы спеваў, бо калі парадыст вакалам не валодае, гэта ўжо не парадыст. Трэба ведаць, як правільна праспяваць, як дыхае оперная спявачка, як яна бярэ верхнюю ноту. Ну, а ўсяму гэтаму мяне вучылі цудоўныя педагогі: Анатоль Іванавіч Баравікоў, Адам Асманавіч Мурзіч і іншыя...

**— Ты парадзіруеш многіх славутых артыстаў, як расійскіх, так і беларускіх. Як складваюцца адносіны з імі, як яны рэагуюць на твае пароды?**

— Мой кіраўнік, народны артыст Беларусі Анатоль Іванавіч Ярмоленка, да прыкладу, ставіцца станоўча, таму што я ніколі не раблю адмоўных пародый, бо ўсіх артыстаў люблю і паважаю. Каб атрымалася пародыя, трэба палюбіць артыста, зразумець, хто ён такі. Таму ўсе пароды ў мяне як бы станоўчыя. Ну, а па-другое, гэта ж папулярызацыя артыста. Вось зараз, напрыклад, рыхтую пароды на Валерыя Дайнеку, Леаніда Барткевіча, Ярыслава Еўдакімава...

**— Уладзімір, ідзе працэс адраджэння беларускай культуры, артысты пачалі больш беражліва ставіцца да сваёй мовы. Прыемна адзначыць, што ў тваім рэпертуары таксама з'явілася шмат гумарэсак, пародый, вершаў на беларускай мове.**

— Я вельмі люблю нашу родную, беларускую мову. Я сам беларус, не магу не любіць, бо на ёй размаўлялі мае прадзеды, дзяды, у ёй ёсць прыгожы каларыт, смачны, свае іскрынкі. Сёння я рыхтую 30-хвілінную праграму на беларускай мове, якую піша для мяне таленавіты гумарыст з Віцебска Леанід Ганчароў.

**— Ты часта бываеш на гастролях у Расіі. Як там успрымаюць беларускія пароды і беларускую мову?**

— Дзе б я ні быў, за межамі нашай Беларусі, у маёй праграме ёсць нумары на беларускай мове, у кіраўніка нашай студыі "Сябры" Анатоля Іванавіча Ярмоленкі таксама шмат песень на беларускай мове. Мы нават размаўляем па-беларуску, калі я вяду гастрольныя канцэрты. Мы заўсёды будзем паказваць Беларусь з лепшага боку. Гняхай не ўсе ў зале ведаюць нашую мову, усё ж большасць людзей яе разумеюць. Ну, а нашая задача — паказаць гледачам, якая яна прыгожая.

**— У газеце "Во славу Родины" ёсць анекдоты ад Уладзіміра Радзівілава. Для чытачоў "ЛіМа" некалькі анекдотаў, калі ласка.**

— Я не збіраю палітычныя анекдоты, непрыстойныя, а толькі дасціпныя, на бытавыя тэмы, вясёлыя. Вось, напрыклад, такія.

"Дарагая, ты купіла мне кашулю не таго памеру! — Ведаю, але я не хацела, каб прадаўшчыца ведала, за якога шыбздзіка я выйшла замуж".

"Пацыент скардзіцца: "Дапамажыце! Тут баліць, тут баліць, пячонка баліць". "Адзклон п'яце?" — пытае ўрач". "Эх, піў, не дапамагае!"

"Сын просіць бацьку: "Тата, дай грошы, хачу пайсці ў заапарк на ўдава паглядзець! — Яшчэ чаго! Вазьмі лупу, пайдзі ў сад і паглядзі на чарвяка!"

**— Напэўна, ты ў жыцці кагосьці разыгрываў? Гэта ж натуральна, зважаючы на тваю прафесію. А ці разыгрывалі калі-небудзь цябе?**

— Такі выпадак быў са мной некалькі гадоў таму першага красавіка, калі я вучыўся ў Маскве. З нагоды дня гумару мяне запрасілі на выязны канцэрт разам з папулярнымі расійскімі артыстамі. А мае сябры, даведаўшыся пра гэта, перавялі ўсе гадзіннікі ў кватэры на дзве гадзіны наперад. Калі я дабраўся да месца збору, я не ўбачыў аніводнага артыста і вельмі здзівіўся. Але больш здзівіўся мой дырэктар, народны артыст Расіі Леанід Маслюкоў, калі ўбачыў, што артыст Радзівілаў прыехаў на дзве гадзіны раней. І калі ўрэшце ўсе артысты сабраліся ў аўтобусе, ён сказаў: "У нас, сябры, сёння ёсць сапраўдная ахвяра першакрасавіцкага гумару. Гэта артыст з Беларусі — Уладзімір Радзівілаў!" Я не пакрыўдзіўся...

**— А вось цікава, артыст Уладзімір Радзівілаў у жыцці вясёлы чалавек?**

— Так, я вясёлы чалавек, жыццярадасны. Гэта дапамагае мне. Дзякуючы гэтаму я і са сцэны імкнуся дарыць публіцы добры настрой, весялосць, часцінку сваёй шырокай душы.

**— А што можа ўзняць настрой табе?**

— Я вельмі люблю хатнюю ўтульнасць, як гаворыцца: "Мой дом — мая крэпасць". Люблю спакой, разам з жонкай мы любім прыроду. Дарэчы, у мяне цудоўная жонка Таццяна Аляксандраўна, якую я вельмі люблю, як чалавека, як першага памочніка. Яна ўсё аналізуе. Вось, напрыклад, калі быў мой вечар, на ейныя плечы лягло шмат мерапрыемстваў, супольных арганізацыйных спраў з фондам "Мы — дзецям" (кіраўнік Уладзімір Паўлавіч Грыдзюшка), фірмай "Канэкс".

**— Што б ты хацеў пажадаць нашым чытачам?**

— Мне б хацелася пажадаць, каб усе яны ніколі не сумавалі. Гумар падаўжае наша жыццё. А яшчэ, шануйныя, любіце гумарыстаў!

**— Яшчэ раз віншую цябе з ганаровым званнем, вялікіх табе творчых поспехаў!**

— Дзякую!

**Гутарыла Яна ХАДОСКА**

# Як я быў за мяжою

## ЗАКАРДОННЫЯ ПРЫГОДЫ ВОЛЬНАГА МАСТАКА

РАНІЦАЙ у цэнтры нямецкага горада Трыер, што на рацэ Мозэль, турботаў ніякіх не прадбачылася. А таму ў маленькім утульным пакойчыку ў дзіўным доміку-слупку на пятым паверсе-паддашку са скошанай столлю спакойна спалі два мастакі — я і мой сябар Раман. Прыехалі мы сюды з вялікім жаданнем далучыцца да нямецкай культуры. Ну, а калі гаварыць шчыра, то проста падзарабіць. Культура — яна ад нас усё роўна нікуды не дзенецца. У іх ёсць цудоўная архітэктура, музеі, галерэі, а ў нас — вочы і вушы... Карацей, раніца непрыемнасцямі не пагражала.

Але раптам — стук у дзверы. На парозе — дзіўнаваты чалавек. Маленькага расточку, сухаваты, з незразумелай усмешачкай на губах, з бегаючымі вочкамі, якімі ён хітра пазіраў паўзверх вялікіх акуляраў (не вельмі тыпова для немцаў, бо носяць яны зараз акуляры з тонкаю аправай). І быў гэты чалавек неяк дзіўна радасны. І радасць тая пераконвала, што добрых вестак чакаць тут не варта. Так і ёсць — падатковая паліцыя! Адразу стала неяк сумна. І пасыпаліся на нас пытанні. Хто вы? Адкуль? Хто здаў жыллё? На каго, дзе і як працуеце, калі, безумоўна, працуеце? А калі не, дык адкуль бераце грошы? Адмахваўся ад пытанняў, як кіраўнік "экспедыцыі", Раман. А я ўсім выглядам сваім спрабаваў паказаць сябе чалавекам больш чым сталым. Але, падавалася, спроба не мела поспеху, бо ў руках суразмоўцы быў мой бясконца дарагі сэрцу пашпарт грамадзяніна РБ, які прывёў немца ў стан ледзьве не каматозны. Я б, напэўна, глядзеў так на кракадзіла, які б вальяжна заўважыў мне па-руску, што ён белы мядзведзь.

А Раман раптам аслупянеў, вочы зрабіліся са сподак, а сам заенчыў-загаласіў: "Дзе мой пашпарт?" На ўсякі выпадак я таксама вылузаў вочы, супакойваючы сябе ў думках тым, што сябар — чалавек бывалы і ведае, што робіць. Нічога сабе, думаю, акцёр! Хто б ведаў! Адкуль што і ўзялося. Не, праўда, залюбаваўся. Колькі ў вачах было і адчаю з-за гэтай страты. Ды і не страта гэта! Крах усім жыццёвым спадзяванням! А гляньце, якія натуральныя рухі! Сябар сутаргава мацае кішэні, са стогнам заглядвае пад мэблю. Я ганаруўся ім... А гэты чортаў фінінспектар рассеўся і сакоча, быццам тут не трагедыяй пахне, а анекдотамі частуюць. І акулярыкамі сваімі гэтак паблісквае. І мне, значыць, па-змоўніцку падміргвае і пытаецца пра штосьці. З гонарам і годнасцю чалавека, якому нямецкая мова не ў навіну, адказваю, як дровы сяку: "Ніхт ферштэйн".

Роля невялікая, але выконваю яе, памойму, бліскуча. Інспектар скісае, кідае на мяне пагардлівы позірк, і я перастаю для яго існаваць. І дзякуй Богу, а то мы з Раманам са сну і без дамоўленасці ўсё б пераблыталі. А пераблытаць было што. Бо чалавек з РБ быццам як і не чалавек зусім. А ў Германіі ўсе працуюць, дзе і як могуць. Размаўлялі мы з палякамі, туркамі, югаславамі, прыбалтамі. У кожнага свой інтарэс. Хто едзе па маркі, хто па ўражанні. Але і за ўражанні трэба плаціць. Суткі пражывання ў пансіёне каштуюць 80 марак. Ды і есці штосьці трэба. І ўвогуле вельмі шмат усялякіх спакус праклятага капіталізму звальваецца на галовы прыезджых. Асабліва з нашых краёў. Вось і атрымліваецца, што зарабляць у Германіі гэтаксама натуральна, як і дыхаць. Але нам чамусьці нельга. Немцы спачуваюць, але толькі рукамі разводзяць. Закон ёсць закон.

Вось такія невясёлыя думкі лезлі ў галаву пакуль разыгрываўся Раманаў бенефіс. Але ўрэшце наш бесталковы глядач падняўся, аддаў мне пашпарт, папрасіў прабачэння, усміхнуўся і пайшоў. Усё? Фінал? Не, не фінал і нават не антракт. Раман вельмі сур'ёзна кажа:

— Ты думаеш, я прыкідваюся? Сапраўды не магу адшукаць ні пашпарта, ні грошай, ні страхоўкі...

І твар у яго такі бледны-бледны. І мяне як абухом па галаве. Сумна неяк стала. Аж да слёз. Страчаны дакумент — канец вандроўкі. А ўсяго якіх дзесяць кіламетраў і Люксембург. А Францыя? Парыж — рукой дацягнуцца, толькі 250 кіламетраў. Няўжо ўсё?!

Не, паважаныя, не ўсё. Зноў неназойлівы стук у дзверы. Заходзяць двое ў цывільным. Прадстаўляюцца. Разумею, што гэта крымінальная паліцыя. Браточкі мае, што ж гэта за насланнё! Раней у галаве штосьці самотнае трызнілася-свістала, а зараз барабанны пошчак дабавіўся. І зноў, як бы між іншым, тыя ж самыя пытанні пачаліся. Ды яшчэ плюс да таго: "Дзе спіце? Дзе ежу гатуеце? Ці ёсць ванна, прыбіральня?" Як аказалася, гэта таксама для нас надта важна. На кожнага пражываючага павінна прыпадаць пэўная колькасць метраў памяшкання і, напэўна, нават колькі-небудзь кубічных метраў паветра. А дзе мы гатуем, праверылі, відаць, каб упэўніцца, што не варым кіпяцільнікам макароны ў ванне ці начным гаршку. І наяўнасць прыбіральні абавязковая, каб не псавалі паветра ў пад'ездзе... Перад вачыма карцінка: трапляе ў сядзібу з вуліцы сабачанё (маленькі барчук так захацеў), а ад старэйшага загад без прамаруджвання: праверыць на наяўнасць шкодных насякомых. Успомніў я і свой родны мінскі пад'езд, і ўсё дараваў паліцэйскім. Успомніце, паважаныя, свае пад'езды, і даруйце мне мае алегорыі...

А бедны Рома шчыраваў за двух. І пашпарт, каб яго, адразу знайшоўся. Сябар раіў мне не развітвацца з дакументамі ні пры якіх абставінах, уключаючы і наведванне лазні. Схаваў пашпарт у кішэню сарочкі і ўклаўся ў ёй спаць. А той вазьмі і выскачы з кішэні за ложак. Вось такія жартачкі, ад якіх валасы сівеюць.

А тут яшчэ нечаканасць. Раптам з жахам даходзіць, што я разумею нямецкую мову. І што яшчэ больш страшней ці то для мяне, ці то для паліцэйскіх — пачынаю гаварыць. Узнаўляю амаль даклада, бо гэта як першыя словы дзіцяці: ці ж забудзешся на іх. Па-руску ўсё гучала прыблізна так: "Я не русский мафия. Я Белоруссия. Я искусство. Я живопись. Я рисунок. Эскиз. Скульптура. Картина. Мой коллега архитектор. Фотография. Карманные деньги. Как дела. Частный визит. Триер красиво город. Краска. Карандаш. Музей. Фонтан".

Рома здзіўлена глядзеў на мяне, але я не змог спытаць, якое ўражанне на яго зрабіла мая прамова. Да паліцэйскага, натуральна, дайшло, што перад ім — культурны і адукаваны чалавек. Ён развярнуўся, адкрыў маю шафу, дзелавіта і рашуча стаў выціскаць з цюбікаў гарчыцу, таматную і зубную пасты. Ох ужо мне гэты нямецкі педантызм! Дайшоў да алейных фарбаў, запэцкаўся і супакоіўся. Стаў праглядаць блакнот.

Другі гэтым часам размаўляў з Ромам. Гутарка была больш прадуктыўнай, калі не ўлічваць невялікіх паўз на перагляд кніг, рэчаў, нататнікаў. І ўсё зноў з нязменным "даруйце" і "дазвольце". Убачыў запісы ў нашых блакнотах і пытаецца: "Што гэта?" А мы, дзеля інтарэсу і каб звесці дэбет з крэдытам, занатоўвалі, хто колькі зарабіў за дзень7 Выглядала гэта так: 3-га — 10 м., 4-га — 100 м., 5-га — ж..а і г.д. Рома з непарушным выглядам тлумачыць: "Гэта руская гульня". — "Якая?" — "Загадайце лік... Колькі ў вас?" — "Дзесяць". — "А ў мяне дваццаць. Я выйграў". Але тут зноў пытанне: "А што гэта за "ж..а"?" — "Не вельмі добрае рускае слова". Удакладняць не сталі. Смяяцца таксама. Не білі — і слава Богу. Сабралі нашы (а дакладней — ужо іх) эскізы, дакументы, грошы ў празрыстыя пакецікі і ветліва прапанавалі праехацца з імі ва ўчастак.

Я ўспомніў фільм Спілберга "Паўночны экспрэс" пра турэцкую турму, зірнуў у апошні раз у акенца. Там бліскучалі чарапічныя дахоўкі і ўдалечыні з-за ранішняга туману паказаліся блакітныя горы, пакрытыя лесам. Выпаў першы снег. Пакуль спускаліся па старой лесвіцы, якая пагрозліва парыпвала пад нагамі, успомніў расповеды відавочцаў пра нямецкую турму і крыху супакоіўся. Нават паспрабаваў знайсці (такія ўжо мы — беларусы!) штосьці станоўчае пры такім сумным зыходзе. За час турэмнага заключэння, напрыклад, можна падвучыць нямецкую мову, паправіць здароўе, паесці чаго-небудзь здаровага і смачнага. З гэтым у іх ніякіх праблем. Хіба што можна знайсці праблему самому сабе, мэтанакіравана прыдбаўшы загадзя няякасны прадукт. Ды ці напалохаеш гэтым чалавека, які прайшоў піянерскія лагеры, інтэрнаты, студэнцкую галадуху, бясконцыя гасцёўні ва ўсіх гарадах, казармы савецкай арміі? А чаго вартая майстэрня ў бамбасховішчы ля вакзала! Слабая вентыляцыя, пастаянныя патопы з мыйкі наверсе ў катлетнай, фантаны нечыстотаў з унітаза. І пацукі, пацукі... А тут нейкая нямецкая турма! Перажывем і гэта. Думаю, знойдуцца і фарбы, і палатно для карцін, і заказы. І вось тут ужо мяне ніхто не схопіць за валютныя аперацыі, якімі я, маўляў, займаюся, прадаючы ўласныя творы.

Ці разгорнешся ў нас з такой камерцыяй? Уявім сітуацыю. Жыве сабе мастак, працуе. Грошай — няма. Жонка трывае, але часцяком, зрываючыся, бурчыць. Дзеці просяць грошы на жвачкі і цыгарэты. Кватэрна паўгода не аплачваецца, тэлефон перыядычна адключаюць за даўгі. А трэба купляць новыя фарбы, палотны, заказваць падрамнікі. Так праходзіць год. І раптам... Хаця гэтае "раптам" можа ніколі не наступіць, калі сядзець бязвылазна ў майстэрні. Але дапусцім... З'яўляецца нейкі галерэйшчык замежнага паходжання і гаворыць: "Я хотеть купить у вас много картины. Сколько их цена?" Пры гэтым лезе ў кішэню і дастае ўсялякія долары, маркі і іншыя паперкі. Мастак глядзіць з непаразуменнем. Потым твар яго камянее, ён высакародна абураецца і пагрозліва запытвае: "Што гэта?" — "Деньги", — бянтэжыцца наведвальнік. "Якія грошы, гэта ж замежная валюта?! А ты, заморскі паразіт, ты хочаш сказаць, што я валютная прастытутка і вазьму ў цябе гэтыя "грошы"? Я беларускі мастак і бяру аплату за працу толькі ў беларускіх "зайчыках". — "Я не иметь белорусских зайчиках..." — "А не — дык вымятайся адсюль!" І наш мастак з ганарліва ўзнятай галавой выпраўджвае госця, не кранаючыся з месца. І становіцца да палатна. І піша найцудоўнейшую карціну аб светлай будучыні нашага краю, калі ўвогуле не будзе ніякіх грошай...

Мы выйшлі на вуліцу. Я стаў шукаць штонебудзь падобнае на "варанок". Сябры мае, як я памыляўся! На жаль, не разбіраюся ў легкавіках, але гэта было штосьці суперсучаснае і проста вельмі прыгожае. Адзін з паліцэйскіх расчыніў дзверцы і далікатна запрасіў у салон: "Битте шён". Я ў адказ (ведай нашых!): "Данке шён". Закончыўшы свецкі абмен ветлівасцямі, лёгка кранаемся з месца. Аглядавая экскурсія па горадзе пад паліцэйскім прымусам пачынаецца. Любуемся пейзажамі. У Германіі практычна ўсе першыя паверхі аддадзены пад магазінчыкі, пачынаючы з супер-маркетаў і заканчваючы маленькімі кавярнямі і закусачнымі, ад якіх зрывае нос водарамі ўсялякай харчовай прынады. І так апетытна пазірае яна на цябе з вітрын, што хочацца працаваць, працаваць і працаваць, каб потым паспець пачаставацца хоць сотай часткай гэтага сытага дастатку. Толькі сотую не таму, што гэта вельмі дорага. Не. Цэны амаль такія ж, як і ў нас. Проста на ўсё часу не хопіць. Трэба там доўга жыць і жаваць, жаваць... Чым, зрэшты, і займаецца мясцовае насельніцтва. І вельмі глыбокая філасофская думка прыходзіць у галаву (як стымул для натхнёнай працы): чым больш заробіш — тым болей з'ясі.

Пакуль аглядалі гэтую раскошу, не заўважылі, як аказаліся за горадам, побач з двухпавярховым будынкам, увешаным сцягамі. Вакол — па-майстэрску "пагаленыя" газоны і дрэвы. Чысціня, парадак і акуратнасць. Нямеччына, словам...

Ну, думаю, зараз кінуць у камеру з кратамі на ўсю сценку і бывай, воля! Будзем тырчаць тут да вечара, покуль аб нас не ўспомняць. Быў у жыцці і такі ўжо вопыт. Як зараз памятаю... Мітусня. Шум. П'яныя кліенты з сіняком на ўвесь твар. Хрыпаты голас рацыі: "Кхр-р... Перший, перший. Я сёмы. Кхр-р... Тут возля магазина дарака. Кх... Можа, ёсць хто свабодный? Няхай падъеде. Прыём. Кхх-х-х..." Зразумела, спадзяюся, дзе ўсё адбывалася.

Але нас завялі ў прасторны пакой, які нагадваў хутчэй дызайнерскае бюро. Некалькі сталоў. Камп'ютэры і безліч адмысловых канцылярскіх прыстасаванняў. На белых сценах — рэпрадукцыі з карцін сучасных мастакоў, каляндар з відамі горада, некалькі кніжных паліц. Кветкі. Асобна — столік з машынай для варкі кавы, цыгарэтамі і шакаладкамі. Нас запрасілі прысесці, пакуль нашы дадзеныя не апрацуе камп'ютэр. Прапанавалі кавы, цыгарэты. Адзін з паліцэйскіх завёў амаль сяброўскую гаворку, з якой нам стала зразумела, што новыя знаёмыя моцна сумняваюцца ў нашых мастацкіх здольнасцях. Маўляў, мала што ў нас фарбы і эцюднікі! Можа, гэта для адводу вачэй, а на самай справе мы па начах рабуем крамы і ўганяем аўтамабілі? Сумненні зразумелыя. Што такое руская мафія, у Германіі ведаюць добра. А Раман, як вялікі аматар архітэктуры, купіў сабе прафілен (канцылярскі інструмент) і нарабіў на ім шмат замалёвак, з любоўю выпісваючы ўсе гэтыя архітэктурныя выкрунтасы і прыбамбасы. Вось паліцэйскія і не паверылі, што гэта ручная работа. Вельмі ўсё было падобна на друкаваную прадукцыю. Прыйшлося Раману дастаць інструмент (балазе, той аказаўся ў кішэні) і паказаць, як усё робіцца. Паверылі. А хітры Раман вырашыў зусім схіліць іх на наш бок. Гаворыць: "Дазвольце, мы вас намалюем". Паліцэйскі адрэагаваў хутка, ахвотна згадзіўся. Ну, думаю, цяпер мой выхад. Апартрэтызацыя мясцовага насельніцтва — мой профіль. Праз некалькі хвілін паліцэйскі прывёў дзяўчыну, пасадзіў яе насупраць Рамана: "Можаце маляваць". Мяне зноў праігнаравалі! Пакрыўдзіўся і вырашыў адпомсціць. Горда і незалежна ўзяўся курыць іх цыгарэты, назіраючы за ўсім збоку.

Хтосьці сцвярджае, што ў нашым жыцці ўжо няма месца подзвігу. Ёсць. Раман да гэтага разбіў акуляры, а без іх, як сам прызнаўся, ён — сляпое кацянё. Тым не менш сябар мужна прыняўся за справу. Праз дзесяць хвілін пачуліся словы адабрэння, а праз пятнаццаць усе задаволена ўсміхаліся, і больш за ўсіх — шчаслівая ўладальніца партрэта. А яшчэ праз хвіліну здзіўляцца прыйшлося і нам — паліцэйскія спыталі, колькі каштуе работа. Раман адмахваўся і пераконваў, што гэта падарунак. Яны, у сваю чаргу, таксама здзівіліся, але доўга не спрачаліся. А тут і камп'ютэр даклаў, што з намі ўсё ў парадку — "не прыцягваліся", "не ўдзельнічалі", "не заўважаліся" — хоць і беларусы мы, але людзі для грамадства бяспечныя. Падараваўшы знаёмым яшчэ адзін малюнак, выйшлі на паветра. Сцягі на будынку паліцэйскага ўчастка памахвалі ўжо больш ветліва. Закурылі і завялі гаворку пра жыццё з нашымі новымі сябрамі. Перш за ўсё яны папрасілі дараваць за дастаўленыя клопаты. Маўляў, што зробіш — служба! Мы (таксама не абы-якія ў абыходжанні!) запэўнілі, што ўсё разумеем і паважаем іхнія законы. На гэта яны з усмешкай адкрыліся, што з дакладных крыніц ведаюць аб нашай незаконнай рабоце ў галерэі, але памятаюць, адкуль мы прыехалі, а таму дазваляюць працягваць справу. Толькі з умовай, што як толькі закончыцца тэрмін візы, мы неадкладна рушым дадому, а не будзем шукаць шляхоў, каб застацца ў Германіі.

Нас чакала ўсё тая ж машына. Сонейка ўжо было ў зеніце і пяшчотна свяціла ў левае вока. Нас падвезлі да пад'езда, яшчэ раз папрасілі прабачэння, пажадалі ўсяго добрага і развіталіся. А з акенцам за намі сачылі жыхары дома (напэўна, яны і тэлефанавалі ў паліцыю). Трывогі на тварах не назіралася. Спакойнае жыццё працягвалася, мернаму рытму яго ўжо нічога не пагражала. Пасля такой дасканалай праверкі грэшнік дахаты б не вярнуўся. Так што ўсё нармалёва! Гутэн таг, таварышы немцы! Гутэн таг, спадары! Вялікі вам за гэта данке. Алес гут...

Вось такі з намі здарыўся ніхт ферштэйн. А вам, чытачы, раю, як бывалы: калі жадаеце вывучыць замежную мову, адкрывайце візу і — за кардон. І калі трапіце ў крымінальную паліцыю, то загаворыце на любой мове. Але лепш, вядома, не трапляць...

**Міхась ЗАМЕЖНЫ**

## З першых пісьменнікаў-гумарыстаў

**Фелікс Тапчэўскі паходзіў са збяднелай шляхецкай сям'і. Нарадзіўся каля 1838 года ў фальварку Будзішча (Лёсава), цяпер тэрыторыя Ушацкага раёна. Яго гумарыстычныя творы распаўсюджваліся ў рукапісах. Ды і аўтар большасць з іх пісаў не для друку. Падпісваючы псеўданімам Хвэлька з Рукшэніц, ён звяртаўся да простага народа, з якім імкнуўся гаварыць нароўні. На жаль, аўтографы іх не зберагліся. Дайшлі толькі тэксты тых, што трапілі ў рукапісную "Хрэстаматыю" Браніслава Эпімах-Шыпілы — "Саўсім не тое, што было", "Грошы і праца", "Ён і яна", "Вечарынка", "Панскае ігрышча..." Памёр Ф. Тапчэўскі ў 1892 годзе ў Рукшэнічах. Пахаваны ў Глыбачцы, з якой гэтая вёска злілася. Надмагільны помнік Ф. Тапчэўскага ў свой час адшукалі настаўнік Іван Законнікаў (бацька вядомага паэта Сяргея Законнікава) і Генадзь Каха볼ўскі.**

## Быў рабочы тэатр

**Узнік гэты тэатр у 1928 годзе ў Мінску з драматычнага гуртка бухгалтарскіх курсаў як Беларускі рабочы тэатр ("Наш тэатр"). У 1930 годзе быў перайменаваны ў Беларускі рабочы тэатр імя Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі. Працаваў да 1933 года. Праводзіў вялікую культурна-асветную (у духу часу) работу, часта выступаў перад рабочымі і сялянамі, выязджаў у вайсковыя часці. Асабліва пачынаючы з мая 1930 года, калі стаў вандроўным. Пераважна выбіраліся аддаленыя раёны. З 1930 года рэжысёрам тэатра з'яўляўся В. Галаўчынер. Спектаклі ставілі Ф. Ждановіч, П. Малчанаў, К. Саннікаў і іншыя. Сярод лепшых спектакляў такія, як "Босыя на вогнішчы" паводле М. Чарота, "На стыку" Ц. Гартнага, "Суд" У. Галубка, "Пашыліся ў дурні" М. Крапіўніцкага і іншыя.**

## Цуд з гліны



**У Крычаве здаўна жылі ганчары. І невыпадкова гэтае рамяство асвоіў Вячаслаў Якавенка. Ягоныя рукі робяць з гліны цуды. А цяпер у гарадскім цэнтры культуры Вячаслаў адкрыў сваю студыю, дзе будзе вучыць рабоце з глінай дзяцей.**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

## Янка з-пад Зембіна

**Такім быў адзін з псеўданімаў паэта, публіцыста Івана Гаеўскага. Але больш вядомы ён, як Янка Светлячок. Нарадзіўся 110 гадоў назад у вёсцы Замужанне Барысаўскага павета (цяпер Барысаўскі раён). У 1912 годзе скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут, пачаў настаўнічаць у вёсцы Чмялевічы на Лагойшчыне. Пасля кастрычніцкіх падзей добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, прымаў удзел у грамадзянскай вайне, а перад гэтым служыў у царскім войску. У 1930 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут, быў дырэктарам Каменскай школы на Лагойшчыне, а пасля вайны выкладаў матэматыку ў Плешчаніцах, працаваў у районе. Памёр 28 лістапада 1957 года і пахаваны ў Плешчаніцах.**

**Янка Светлячок належаў да аўтараў, якія групаваліся вакол рэдакцыі газеты "Наша Ніва". З 1909 па 1915 год ён з'яўляўся актыўным карэспандэнтам гэтага адраджэнскага выдання. Выступаў з допісамі, карэспандэнцыямі краязнаўчага характару. Расказваў пра падзеі і здарэнні, што адбываліся ў навакольных вёсках, побыт вясковага насельніцтва, мясцовыя звычаі і традыцыі. Запісваў Янка Светлячок і мясцовы фальклор, абыходзячы вёскі Барысаўшчыны і Лагойшчыны. Пісаў таксама вершы. Некаторыя з іх былі надрукаваны ў "Нашай Ніве" і "Беларускім календары на 1914 год".**

ПАМЯЦЬ

# У маім Слуцку нарадзілася кніга

"МІХАЛ ЛІЧЫЎ Нясвіж Парыжам". Маім "Парыжам" — з маленства — быў Слуцак...

...І вось трымаю ў руках сціплую шэра-блакітную кніжачку. Усяго на 110 старонак. Накладам усяго на адну тысячу асобнікаў. Але якое залатое вагі яна мне здаецца!

"Помнікі архітэктуры Слуцка"...

Перагортваю і перачытваю старонкі, дзіўлюся — разглядваю ілюстрацыі, праглядаю змест.

Помнікі? Дзе яны ў Слуцку? Што я пра іх ведаю?

...Вялікая (Замкавая) горка. Царква св. Міхаіла Архангела. Царква Нараджэння Хрыстовага. Ансамбль св. Троіцкага (Трайчанскага) манастыра. Царква Уваскрасення Хрыстовага. Ансамбль св. Ільінскага манастыра. св. Георгіеўская (Юр'еўская царква). Варварынская. Царква Праабражэння Гасподняга і Спаса-Праабражэнскі манастыр. Царква св. Мікалая. Царква Сімяона-Стоўпніка...

(Дык ён жа і ў самой Маскве і сёння стаіць, такі сціпла-прыстойны Сімяон-Стоўпнік на Новым Арбаце. Я ж сама заходзіла да яго на цуда-выстаўку фларыстыкі...).

А змест "Помнікаў архітэктуры Слуцка" вядзе далей.

...Царквы Касьмы і Даміяна. Царква Узвіжання Крыжа. Царква св. Іаана Прадцечы. Благавешчанская (Дабравешчанская) царква. Царква Нараджэння Багародзіцы. Царква св. Архангела Гаўрыіла...

Спыняюся. Падобна на тое, што і ў нашым Слуцку "сорак саракоў" цэркваў было, як у белакаменнай?.. Не, вядома, не "сорак саракоў", але ж, як пісаў яшчэ ў 1909 годзе даследчык А. Снітка: "Слуцк са сваімі драўлянымі цэрквамі — гэта сапраўдны музей".

"Помнікі архітэктуры Слуцка" забудаваны на грунтоўным навукова-даследчым матэрыяле. Імёны і працы аўтараў, як і ў кожнай значнай, сур'ёзнай па змесце і сваім прызначэнні кнізе, пададзеныя ў канцы кожнага раздзела.

М. Гаўсман, А. Грыцкевіч, М. Ткачоў. І. Глебаў, Л. Калядзінскі, Ю. Якімовіч, В. Шматаў, Т. Габрусь, У. Канановіч, Р. Родчанка... (Наўрад ці ёсць патрэба рабіць пералік імёнаў поўнасцю, хоць ён, безумоўна, цікавы).

...Аўтар кнігі "Помнікі архітэктуры Слуцка" Ігар Ціткоўскі — захоплены краязнаўца, неабыякавы чалавек, адданы гістарычнай спадчыне горада і зямлі, на якой ён жыве. Я не знаёмая з аўтарам "Помнікаў". Мне прыслаў іх другі нястомны летапісец Случчыны, ваяр за яе самабытнасць і непаўторную — родную — мову — журналіст Міхась Тычына (Слуцкі).

...Без біяграфіі аўтара не можа быць Кнігі. Гэта закон. Біяграфія Ігара Ціткоўскага як лепш не трэба супадае з яе галоўным творчым накірункам... Беларус, родам з Асіповіч. У 1967 г. скончыў Віцебскі педінстытут з правам выкладання выяўленчага мастацтва. З 1978 г. працуе ў Слуцкай дзіцячай мастацкай школе. Спачатку выкладчыкам, а затым і дырэктарам гэтай школы. Цяпер зноў настаўнічае. У 1995 годзе сумесна з мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеем і Беларускім інстытутам праблем культуры выдаў для дзіцячых мастацкіх школ і музеяў метадычную распрацоўку "Мастакі-ўмельцы". Крыху пазней разам са святаром Міхаілам Важда выдаў буклет "Слуцкі Свята-Міхайлаўскі сабор". Ён жа і пазаштатны член рэдкалегіі газеты "Преображение", якая ўжо 4 гады выдаецца пры гэтым храме з накладам 6 тысяч асобнікаў. Ігар Ціткоўскі з'яўляецца аўтарам змястоўных артыкулаў пра архітэктурныя помнікі праваслаўнай царквы на Случчыне. І, як піша пра яго Міхась Тычына, ён "адзін з нямногіх інтэлігентаў горада, хто размаўляе па-беларуску"...

Бачыце, да чаго мы дажыліся: родная мова ў гутарцы — гэта ўжо наша адметнасць!

Дык няма ніякага дзіва, што і "Помнікі архітэктуры Слуцка" напісаў Ігар Ціткоўскі — аўтар з такой біяграфіяй.

Чаму я так даволі падрабязна спыняюся на ёй? Ды каб зацікавіць, каб проста ўзняць творчы настрой і, калі хочаце, паказаць прыклад і іншым мясцовым Герадотам! Бо хіба ж адзін толькі наш Слуцак спрадвечна адметны і знакаміты? Хіба па іншых нашых гарадах і весях не знойдзецца летапісцаў з незабыўлівым неабыякавым сцілом?

...Не агледзішся, як нашаму Слуцку стукне 900 гадоў — не так ужо намнога маладзейшы ён за свайго стольнага брата Менска...

"Да сярэдзіны мінулага стагоддзя тэрыторыю горада амаль поўнасцю займала драўляная будова... Ад багатай драўлянай архітэктурнай спадчыны горада сёння практычна не засталося нічога. Напрыклад, з узятых у 1926 годзе пад ахову дзяржавы слуцкіх драўляных сямі цэркваў і званніц да цяперашняга часу захавалася толькі адна Міхайлаўская царква на Востраве..."

Паслужлівае ўяўленне імкнецца намаляваць той прадаўні драўляны горад, тых нязломных прашчураў прадаўніх, што найпершай будаўнічай тэхнікай у руках мелі сякеру ды рыдлёўку... Але ж будаваліся! Забудоўвалі горад. І ўсю яго красу. І гарадское жыццё таксама.

...Уяўляецца, як будзіў нядзельную раніцу разам з першым касым промнем сонца і першы воз. Як тарахцеў ён па бруку з такім громам, нібыта хацеў абвясціць канец не толькі цёпламу гарадскому сну ў гусіных пярынах, а і самому гораду і ўсяму свету... Прачыналіся царкоўныя званы: "Бом-бом-бом!.. Не праспіце, вернікі, царства нябеснае!"

Неўзабаве за першым возам грукаціць другі воз, трэці, чацвёрты... І не паспяваюць гараджанкі адбіць першых паклонаў перад абразамі, як вуліцы і ўвесь горад да краёў патанаюць у калёсным грукаце, людскок гамане і парасячым віску...

Акружныя сёлы едуць на кірмаш. Нельга праспаць кірмаш і мешчаніну.

А на кірмашы: і вазы з задранымі аглоблямі, і выпражаныя коні, прывязаная да задка воза цялушка, пад калёсамі жывы мех парасят, на возе кормнік, што ледзьве дыхае, кашы яек, змяіныя шыі гусей, чырвоны, як жар, грабянец пеўня, залатыя галоўкі масла ў капусным лісце, сыры ў палатняных клінках, кашы сліў, вазы антонавак і слуцкіх бэраў... А на водшыбе — каб не патаўчы на чарапы — цэлая гара гліняных місак, збанкоў, гаршкоў і глякоў. І паліваных — званчэйшых за царкоўны звон. І не паліваных — апляці дротам, і ён паслужыць табе больш за паліванага... А яшчэ збоку — ведама, бедната — ідзе гандаль лазовым і ліпавым лыкам на лапці... А то яшчэ стаіць маладзіца і — не з добрага, відно, раю — трымае на руцэ пасцілку-перабіранку. Паверыць нават цяжка, што гэта сама яна гэтымі сваімі цёмнымі агрубелымі рукамі падбірала гэтыя колеры і выткала ў сябе ў хаце гэтыя жывыя ружы, гэтых пеўняў і катоў!.. Слуцкая ткачыха.

...Крамы гарадскіх гандляроў адчыняюцца таксама са з'яўленнем першага воза... Газа, дзёгаць, селядцы, вёслы абаранкаў, вязкі тараноў, бочкі мелюсу, хусткі, мыла, соль, гузікі, цукар, запалкі... Усё гэта багацце раскладзена і расстаўлена на прылаўках — толькі выбірай-налятай!

І пакупнікі выбіраюць.

Гараджанкі прыдзірліва абмацваюць і ўзважваюць на руках курэй. Спрабуюць і таргуюць цяжкія, як пні, клінковыя сыры, спытаюць — ад воза да воза — масла... Гандляры скупляюць свіней. Нейкі небарака — прапала карова — тупае вакол цялушкі. Хаця ж бы пабегала, каб дзецям кроплю малака дачакацца... Натоўп цыганоў прадае каня, і хітры дзядзька (ён сам якога хочаш цыгана абдурыць) таргуецца з цыганамі, дзесяць разоў глядзіць каню ў зубы, дзесяць разоў ляпае цыганоў па руках, а потым адыходзіць, а потым вяртаецца зноў...

На захадзе сонца вазы пусцеюць, гамана сціхае, кірмаш раз'язджаецца.

...Назаўтра, у панядзелак, Слуцак пачынае сваё жыццё, як і кожны дзень: кавалі куюць восі і коней, ганчары варожаць з глінай, півавары вараць піва (у колішнім Слуцку было аж чатыры піваварні!).

...Такім уяўляецца, а, можа, яно было і зусім не такое жыццё старадаўняга-даўняга Слуцка. Апісваючы гераічныя старонкі жыцця случакоў, летапісец расказвае, што яшчэ ў XVI стагоддзі "хотяху татаре взяти Случеск и не могоше, биша бо из града их крепко..."

●

"Актыўнае мураванае будаўніцтва пераважна ў цэнтры і ўздоўж галоўных гарадскіх вуліц назіраецца з сярэдзіны XIX стагоддзя. Менавіта на характары мураваных будынкаў яскрава адчуваецца ўздзеянне агульнаеўрапейскіх архітэктурных накірункаў, у першую чаргу — класіцызму. Помнікаў мураванага дойлідства таксама засталося няшмат. Гістарычная забудова цэнтра не зберaглася. Адсутнічаюць архітэктурныя комплексы або ансамблі. Некаторыя будынкі зніклі з твару горада ўжо ў 70-80-ыя гады".

Так сцвярджаюць Уводзіны да "Помнікаў архітэктуры Слуцка".

Карціна татальна распаўсюджаная. Па ўсіх нашых гарадах (успомнім, як зацята руйнавалася ў 70-я гады — яна пры немцах, нават у апошнюю вайну захавалася! — наша менская Няміга), па весях, дзе-нідзе яшчэ заставаліся ацалелыя дваранскія маёнткі і сядзібы. Нічога не трэба было! Нішто нічога не каштавала. Па ўсёй Беларусі! Ды і ці толькі ў нас? А па ўсім нашым былым "непарушным"?..

●

Гартаю-перагортваю старонкі "Помнікаў"... Хто — нават случак — мае сёння рэальнае ўяўленне пра Саборную горку?.. Гэты помнік археалогіі меў яшчэ назвы: першапачаткова "Дзядзінец", затым "Верхні замак", потым "Вялікая горка"... У 30-я гады нашага стагоддзя яна атрымала назву "Бязбожная горка" — вядома, пасля таго, як быў узарваны на ёй ("Рэлігія — опіум народа...") Мікалаеўскі сабор.

(У нас дома яго звалі Зялёным саборам, бо купал быў зялёны).

...Да прычасця і на споведзь наша Даманшчына хадзіла — за 7 вёрст — на Урэчча. Бліжэй ад нашага засценка царквы не было. А ўжо на самыя вялікія святы ці пры нейкіх выключных трэбах — як гадавыя памінкі — ездзілі ў Слуцак, у Зялёны сабор. Адзін раз бралі туды і мяне, васьмігадовую. Калі блізкая наша радня памінала там маці маю ў год... Памятаю, як правіў службу архірэй — увесь у белых рызах. Як прыслужвалі яму — таксама ва ўсім белым, як анёлы, са свечкамі ў руках хлопчыкі, не большыя за мяне... А яшчэ, як на клірасе неабсяжнага сабора спявалі пеўчыя. І прасілі Бога за маю маму...

"Упокой, Господи, души усопших раб твоих!"

І як маліўся за яе архірэй у белых рызах...

"Господи помилуй! Господи помилуй! Господи помилуй!"

Было горна і жаласна. І хацелася плакаць. І па маме... І плакаць ад кранальнага, крыштальнага таго спеву.

...У 1934 годзе Зялёны сабор разбурылі. На яго месцы ў 1940 годзе пачалі будаваць РДК... У 85-87 гг. РДК дабудавалі новым корпусам (па праекце архітэктара І. Зорына).

"Уяўляючы ўзор сучаснага дойлідства, з дакладна выяўленымі прамавугольнымі формамі асноўных і дадатковых аб'ёмаў, гэты будынак стварае зараз адзін з самых значных архітэк-

турных акцэнтаў у цяперашняй забудове гарадскога цэнтра".

"Акцэнт" гэты ў сённяшнім Слуцку сапраўды заўважны і значны. Але хіба Мікалаеўскі (Зялёны) сабор, што некалі гэтак велічна і ўрачыста ўзвышаўся над сваёй гістарычнай Вялікай горкай, здаваўся меней велічным і прыцягальным?

У душах і помыслах людзей?..

●

Што ж там яшчэ было, што ацалела ў сённяшнім Слуцку?

...Быў фарны касцёл і касцёл аўгусцінаў, ансамблі езуіцкіх кляштараў у Старым і Новым горадзе. Былі сінагогі, мячэці... І, вядома ж, вялося свецкае будаўніцтва: Камедыхаўз, Будынак Дваранскага сходу. Будынак прысутных месцаў. Комплекс будынкаў паштовай станцыі і чыгуначны вакзал. Духоўнае вучылішча і Камерцыйнае ("Фасад яго багата апрацаваны лапаткамі, арнаментальнымі паяскамі і карнізамі, фігурнымі аконнымі ліштвамі і нішамі. У асіметрычным вырашэнні галоўнага фасаду прасочваюцца рысы стылю мадэрн. Помнік так званай цаглянай архітэктуры...").

Помнікам архітэктуры класіцызму захаваўся цяперашні будынак былой мужчынскай гімназіі. Як навучальная ўстанова першапачаткова яна была заснаваная яшчэ ў 1617-20 гг. (кальвінісцкая школа). У 1630 г. атрымала статус гімназіі. З 1868 — статус дзяржаўнай класічнай гімназіі... Яе канчаў вядомы беларускі пісьменнік Язэп Дыла. Вучыўся там наш выдатнейшы перакладчык-паэт Гаўрук. Паспеў яшчэ да рэвалюцыі скончыць яе і мой стрыечны брат Ждановіч Сцяпан Іванавіч. Да глыбокай старасці валодаў лацінай, грэцкай, нямецкай і французскай мовамі. І ганарыўся: "Класічная гімназія! Гэта вам не цяперашнія вашы дзесяцігодкі ды інстытуты"... І было чаго ганарыцца: з самім жэнэралем дэ Голем" вітаўся (вядома, пафранцузску) "от имени граждан героического Ленинграда", калі "жэнэраль" быў у Ленінградзе і сустракаўся з ленінградцамі, хто выжыў у блакаду і вайну...

...Ды і сама я павучылася ў Слуцкім "камерчаскім" (так у нас казалі) вучылішчы... Цяпер у яго ацалелых пасля вайны сценах марынуюць грыбы і агуркі, разліваюць па слоіках гарчыцу... А ў 20-40-я гады там каваліся педагагічныя кадры ("раённага маштабу!"). Педтэхнікум і педвучылішча.

...Манументальныя парадныя дзверы на цэнтральную — Пралетарскую — вуліцу адчыняў нам, студэнтам, велічны, як храстовы кароль, пры форме і галунах (не хапала толькі булавы ў руках!) швейцар. Пад сотнямі маладых ног грымелі металічныя ўсходы. Лётам узносілася на трэці паверх нястомная маладая сіла!

***"Мы все добудем, поймем и откроем — Холодный полюс и свод голубой!.."***

...Мела я "адносіны" і да Дваранскага сходу... У "маю эру" ён быў Слуцкім райкамам камсамола. (Цяпер там размяшчаецца краязнаўчы музей).

Час забудовы будынка Дваранскага сходу адносіцца — па адных крыніцах — да пачатку XIX стагоддзя, па іншых — да канца XVIII. Узводзіўся будынак за мяжой Старога горада, акрэсленай старажытным абарончым валам, спачатку як панскі асабняк. А потым ён быў выкуплены горадам і стаў належаць Дваранскаму сходу.

Там у 1938 годзе разам з усім маім 1-ым курсам "Г" прымалі мяне ў камсамол... Дзе там было звяртаць нам увагу (і хто меў пра іх уяўленне?) на нейкія там класічныя прапорцыі ці на парадны чатырохкалонны порцік, за якім адчыняліся нам дзверы ў нашу камсольскую будучыню? А за тымі дзвярыма чакаў нас найадказнейшы ідэйна-палітычны экзамен. З усіх пытанняў — мне асабіста — найцяжэй за ўсё чамусьці было запомніць усё Палітбюро — прозвішчы ўсіх яго членаў, ды яшчэ паймення і па бацьку...

Вядома ж, Іосіф Вісарыёнавіч Сталін быў першым. Другім ішоў ці не нарком Клім Варашылаў. Затым Будзённы. Лазар Маісеевіч Кагановіч. А яшчэ былі Касіёр, Постышаў... Не было канца! Ні пераліку іх іменаў, ні страху перад гэтым экзаменам... І ўсё ж, усе мы, усім нашым І-м "Г" курсам, здалі яго! Не здаў толькі адзін наш аднакурснік Ваня Дарашэвіч — у яго бацькі былі раскулачаныя і сасланыя на Салаўкі. І хоць жыў ён тады ў сваё цёткі — пра які камсамол магла ісці гаворка?

А мы ўсе астатнія, хоць і шкадуючы Івана, вярталіся позна ўжо вечарам у свой студэнцкі інтэрнат на "Калоніі" і, пабраўшыся за рукі, палохалі ўсіх, хто прыпазніўся дадому, сваім спевам на ўвесь горад:

***Мы покоряем пространство и время, Мы — молодые хозяева страны!..***

●

...А то ўспамінаецца яшчэ, як недзе ў 80-я гады, у час адной з літаратурных нашых паездак па Случчыне падахвоціў мяне нябожчык Янка Скрыган пахадзіць разам з ім па старых незабыўных мясцінах-вуліцах.

— Пахадзім, Аленачка, па Трайчанах. Там жа некалі, у 20-я гады, як я толькі прыехаў у Слуцак, Божачка, якое хараство было!

...Ансамбль св. Троіцкага (Трайчанскага) манастыра, дакладна невядома, калі ён быў заснаваны. Першы напамінак пра яго ў сучаснай гістарычнай літаратуры адносіцца да 1445 года. Ёсць звесткі, што ён неаднойчы гарэў, неаднойчы разбураўся. Што апекунамі яго да канца XVIII стагоддзя былі слуцкія князі.

(Ах, князі слуцкія сённяшнія, азірніцеся назад! Паганаруйцеся, дзе вы жывяце і валадарыце... Якая пачэсная Даўніна стаіць за вашымі часовымі спінамі! Пакіньце ж і вы ў нашчадкаў свой пачэсны след-успамін!..).

"Галоўнай святыняй і цэнтрам Ансамбля быў Троіцкі сабор. Мураваны храм на плошчы, абсаджаны векавымі ліпамі, замест старажытнага драўлянага быў пабудаваны ў 1505 годзе па фундацыі княгіні Настассі Амелькі... Узводзіўся ён у памяць аб удалай абароне горада і перамогі над перакопскімі татарамі..."

...Адкрыем том энцыклапедыі "Архітэктура Беларусі", падзівімся на яго малюнак. Напалеона Орды. (Так зараз Масква набожна дзівіцца на адбудаваны Храм Хрыста Спасіцеля). Божа, які ты быў прыгожы, Слуцак! Як светла і малітоўна ўзносіліся і гарэлі ў небе купалы храмаў... Як урачыста падавалі свой малінавы голас царкоўныя званы... На старой драўлянай двух'яруснай званніцы на пачатку XIX ст. вісела ўжо восем званоў! Большы з іх быў адліты мясцовымі майстрамі ў 1799 г. і меў 207 пудоў і 10 фунтаў вагі.

...У 30-я гады XX ст. Трайчанскі манастыр быў скасаваны. "Найбольш каштоўныя з яго рэчы забіраюцца ў музеі. Астатняе рабуецца. Канчатковае разбурэнне манастырскага комплексу завяршаецца ў 50-я гады".

Цяпер на яго тэрыторыі размяшчаецца ваенны гарадок. Салдацкія казармы. Вучэбны плац, дзе муштруюць салдат...

І доўга-доўга не было ні знаку, ні водгуку, што некалі тут луналі анёлы... Толькі ў 1994 годзе паломнікамі Менска і слуцкімі вернікамі ўстаноўлены памятны Крыж.

...Нядоўга хадзілі мы па тых Скрыганавых Трайчанах. Добра біты і трушчаны і вучаны "шчаслівым савецкім жыццём" (з турмамі і лесапаваламі), Іван Аляксеевіч не надта гаваркі быў пасля тае нашае экскурсіі, калі мы, мінаючы знакаміты Чортаў мосцік, вярталіся таксама па добра знаёмых нам вуліцах у гасцініцу.

— Дзякуй Богу, што адбудаваўся, што будуецца наш Слуцак... Але ж нейкі надта ён, Аленачка, увесь як пляскаты... Колішні Слуцак меў свой твар. А сённяшні... — шкадаваў Скрыган...

Ах, хіба пляскаты сёння адзін толькі Слуцак?

Як зайздросціла я ў Італіі, калі нас, турыстаў, прывозілі паказваць якую-небудзь базіліку яшчэ з 12 ці 13 стагоддзя! Захаваную з такім гонарам і любасцю! А мы, дзікуны, руйнавалі нават тое, што не адолела, не зачапіла, пакінула нават апошняя сусветная вайна...

Але ж Жыццё няспыннае. Як няспынны і сам Час... Як падуладнае ім вельмі і вельмі многае! Калі яно належыць разумным, адданым, заклапочаным пра будучыню Радзімы і яе Гісторыю Волі і Рукам.

... З павагаю загортваю кнігу Ігара Ціткоўскага. Старонкі яе ўдзячна вярнулі мяне ў мой Слуцак, у якім я ўжо даўнавата не была.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

**P. S.** Можа, з гэтага трэба было пачаць?.. Кніга "Помнікі архітэктуры Слуцка" выдадзена Слуцкай Асацыяцыяй "Вытокі" ў рамках праекта "Садзейнічанне захаванню нацыянальнай культурнай і гістарычнай спадчыны Случчыны" пры фінансавай падтрымцы Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (Варшава), прыватнай фірмы "Рамонт аўтамабіляў, аўтазапчасткі" (Бойка У. У., г. Слуцк).

Як бачым, жыве Беларусь!

**А. В.**

УГОДКІ

# З крылатай фантазіяй

## ДА 115-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ МАЎРА



Успамінаюцца першыя пасляваенныя школьныя гады. Замест партаў — самаробныя сталы і лаўкі, сабраныя ў хатах, замест сшыткаў — старыя канторскія кнігі, нейкія бланкі нямецкіх дакументаў і нават пажоўклыя ад часу газеты. А чытанка ўсяго адна на даволі вялікую вёску. Хадзіла яна з хаты ў хату па чарзе. Апошнім вучыць урок ужо не было калі: кніга да іх траплялa позна вечарам. Затое назаўтра чарга ішла ў іншым парадку: апошнія станавіліся першымі.

А як прайшлі чытанку, настаўніца пачала задаваць хатняе заданне па кнігах, якія ў каго былі. Найбольш цікавыя чыталі ў класе.

І вось аднойчы адзін з нашых вучняў прынёс у школу старую, без вокладак кнігу. Настаўніца пагартала яе і сказала, што называецца яна "Палескія рабінзоны" і што напісаў яе Янка Маўр. Ні назва кнігі, ні яе аўтар ні аб чым нам не гаварылі. Але ўжо з першых старонак калектыўнага чытання "Палескія рабінзоны" запаланілі нашы дзіцячыя сэрцы. Нібы зачараваныя, сачылі мы за прыгодамі сяброў Мірона і Віктара, якія выпадкова апынуліся на бязлюдным востраве. Чакаць наступных урокаў, каб даведацца, што было з хлопцамі далей, мы не маглі і таму заселі за кнігу дома. Чыталі да паўночы пры святле самаробнай газнічкі. Бацькі гналі спаць, а мы выкручваліся, як маглі, прасілі яшчэ некалькі хвілін, пакуль, нарэшце, не дайшлі да апошняй старонкі, якую, дарэчы, цяжка было разабраць.

Уся басаногая вёска жыла пад уражаннем прачытанай кнігі. А найбольш смелыя спрабавалі нават паўтарыць подзвіг Мірона і Віктара (інакш мы і не разумелі іх прыгоды), за што, вядома, ім дасталося на арэхі ад бацькоў. Праўда, у нас не Палессе і вельмі цяжка знайсці такія мясціны, дзе падарожнічалі смелыя хлопцы, але дзіцячая фантазія малявала і для нашых рабінзонаў не менш суровыя выпрабаванні. Што ж датычыць такога эпізоду, як арышт бандытаў, то ніхто ў класе не сумняваўся, што падобнае можа быць і ў нас. Зусім нядаўна адсюль прагналі гітлераўскіх акупантаў. А раптам, разважалі мы, самыя хітрыя з іх яшчэ і цяпер хаваюцца ў нашых лясах? І было б вельмі добра вылавіць іх і жывымі прывесці ў вёску.

Тады, вядома, мы не ведалі, што кніга напісана задоўга да вайны, што ёй захапляліся ўжо многія, такія ж, як і мы, падшыванцы. І ў кожнага "Палескія рабінзоны" абуджалі высакародныя парыванні да нязведаных і захапляючых падарожжаў, цікавых пошукаў і адкрыццяў. Ва ўмовах барацьбы з суровай прыродай, у складаных абставінах, у якія паставіў пісьменнік сваіх герояў, пасапраўднаму раскрываўся іх характар. Кожнаму хацелася быць падобным на смелых, няўрымслівых, кемлівых палескіх рабінзонаў, якія дзейнічаюць, здавалася б, у безвыходных сітуацыях рашуча і смела, не апускаюць рук перад цяжкасцямі.

Вялікая заслуга пісьменніка і ў тым, што ён ярка і выразна паказаў чароўнасць беларускай прыроды, што ў пошуках рамантыкі неабавязкова ехаць у далёкія краіны. І ў нас, на Беларусі, ёсць нямала куткоў і мясцін, непаўторных па сваёй прыгажосці. А сцвердзіць гэта мог толькі ўдумлівы мастак, гарачы патрыёт роднага краю.

За час сваёй літаратурнай дзейнасці Я. Маўр напісаў шмат твораў для юных чытачоў. Многія з іх ён прысвяціў жыццю далёкіх краін. Яго аповесці "У краіне райскай птушкі", "Сын вады", раман "Амок", многія апавяданні сведчаць аб тым, што пісьменнік добра ведаў гісторыю і геаграфію розных краін, іх эканоміку, быт, культуру многіх народаў. Усе яго творы прасякнуты ідэямі гуманізму, у іх пісьменнік выступае добрым знаўцам чалавечых характараў, тонкім псіхолагам.

Трэба было мець вялікае і чулае сэрца, каб так глыбока і праўдзіва паказаць трагічны лёс хлопчыка Тубі, які зарабляе на пражытак тым, што шукае на дне марскім жамчужныя чарапашкі. З дзіцячых гадоў, са школьных чытанак стаіць перад нашымі вачыма і вобраз маленькага італьянскага хлопчыка Джузепе, які не мае прытулку і, каб не памерці з голаду, рызыкуючы жыццём, вымушаны пацяшаць багатых турыстаў. Тут на адным полюсе мы бачым шыкоўнае жыццё ўкормленых і задаволеных усім таўстасумаў, на другім — страшэнную беднасць, якой чалавек не можа пазбавіцца ад нараджэння да самай смерці.

Я. Маўр стаяў ля вытокаў прыгодніцкага жанру ў беларускай літаратуры. Яго творам уласцівы пазнавальнасць, драматызм, займальнасць, глыбокі патрыятычны і рамантычны пафас. Аповесць Я. Маўра "ТВТ" на рэспубліканскім конкурсе ў 1934 годзе была прызнана лепшым творам для дзяцей. У ёй пісьменнік сцвярджаў, што дзецям змалку трэба прывіваць любоў да працы, развіваць у іх ініцыятыву, выхоўваць "прывычку да карысных дзеянняў". У "ТВТ" востра былі пастаўлены пытанні працоўнага і політэхнічнага выхавання дзяцей. Яны і сёння не страцілі сваёй актуальнасці.

У пасляваенныя гады, будучы ўжо цяжка хворым, Я. Маўр напісаў аўтабіяграфічную аповесць "Шлях з цемры", фантастычную аповесць "Фантамабіль прафесара Цылякоўскага", шмат апавяданняў. Яго творы праклалі сабе дарогу ў многія краіны, загучалі на розных мовах народаў свету. Яны паранейшаму хвалююць юных чытачоў сваёй дасціпнасцю, займальнасцю, глыбокай праўдзівасцю.

**Уладзімір СКАПА**

*г. Віцебск*

АНОНС

# Маладыя, абаяльныя, сцэнічныя...

31 мая ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі, дакладней, у яго харэаграфічнай трупе, якая мае афішыйную назву "Мінскбалет" і якой кіруе заслужаная артыстка Расіі Ніна Дзьячэнка, павінна адбыцца незвычайная харэаграфічная вечарына. Усе яе героі добра вядомыя ў тэатральных колах. Найперш гэта вядучы дуэт балетнай трупы музкамедыі — Юлія Дзятко і Канстанцін Кузняцоў. Яны — выхаванцы Беларускай харэаграфічнай вучэльні, лаўрэаты многіх міжнародных конкурсаў артыстаў балета. У тым ліку ў Пермі (конкурс "Арабеск-96"), у Кіеве (конкурс імя С. Ліфара), а таксама апошняга па часе, 1997 года, міжнароднага конкурсу артыстаў балета ў Маскве, дзе К. Кузняцоў зрабіўся лаўрэатам, Ю. Дзятко — дыпламантам, а абодва яны былі адзначаны як лепшы танцавальны дуэт.

У апошні майскі дзень тэатр музкамедыі ладзіць творчы вечар (ужо, дарэчы, не першы) згаданых артыстаў. Праграма яго таксама выклікае цікавасць. У першым аддзяленні будзе паказана першая дзея класічнага балета "Жызэль" у выкананні балетнай трупы музкамеды. У галоўных партыях выступяць Ю. Дзятко і К. Кузняцоў. (Між іншым, прэм'ера гэтага спектакля "Мінскбалета" адбылася падчас апошніх гастроляў калектыву ў Іспаніі). Другое аддзяленне ўяўляе сабой харэаграфічную кампазіцыю, пастаўленую спецыяльна для творчага вечара маладым балетмайстрам Раду Паклітару. Асобныя танцавальныя нумары вельмі натуральна пяэдналіся з вершамі К. Бальмонта, які і натхніў маладога пастаноўшчыка. У якасці музычнай асновы выкарыстаны творы М. Равеля, К. Сен-Санса, іспанскія народныя песні ў выкананні М. Кабалье.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

Аляксандр СТАНЮТА

# Адвольныя пераклады

## ЗАБОЙЦА З МІЧЫГАНА

**(Паводле Э. Хемінгуэя)**

Білі Андэрсан сядзеў за апошнім сталом ля акна і еў яечню з вяндлінаю, калі ўвайшлі тыя двое.

— І даўно ён у вас тут сядзіць? — спытаў адзін з іх у Джорджа, кухара.

— З учарашняга вечара, — адказаў Джордж.

— А што было ўчора, чарнамазы?

— Трыццаць першае снежня.

— Выходзіць, з мінулага года. Ён тут у іх сядзіць з мінулага года, — чуеш, Эд? Як табе гэта падабаецца?

— Не падабаецца мне гэта, — сказаў Эд, прысаджваючыся са сваім сябрам да стойкі. — Ён што, адно сядзіць, есць і нічога не п'е? Цікава. Джэк, што нам адкажуць тут на гэты раз.

— Ён гаворыць, што павінен не губляць формы, — сказаў Джордж. — Што яму трэба напісаць якое-небудзь апавяданне, каб пабіць старога Хэма. Ён жа паставіў дзесяць супраць чатырох, што зробіць гэта. І калі ён не здолее...

— Можаш нам не даводзіць, абразіна. Ён і не здолее — бачна па ім. Без цэнта застанецца.

— Праўда што, — сказаў Эд. — Таму так і шчыруе, каб наесціся, пакуль можна. Як паглядзіш, у іх тут, Джэк, адны разумнікі.

— А Хэм — хто ён такі? — спытаўся Джэк. — Першы раз чую пра гэтага хлопца.

— Ну, гэта ж Эрні, — сказаў Джордж, выціраючы рукі аб фартух. — Эрнэст, Стары і мора, паляўнічы і рыбак. Кіліманджара, матадоры і сафары... Яго ў нас усе ведаюць.

— Відаць па вас. Во месцейка, — ну што ты скажаш, Эд?

— Не падабаецца мне гэта, — сказаў Эд. — Не падабаецца і ўсё. Нічога не магу з сабой зрабіць.

Звонку пачуўся здушаны крык і грукат колаў. Прагучаў стрэл. Нехта вішчаў і енчыў. Зноў стрэлілі, і ўсё сціхла.

— А, успомніў, — сказаў Джэк, зрабіўшы добры глыток з куфля. — Гэты Хэм, ён жа любога пакладзе ў першым раўндзе. Так, Эд?

— Заб'е. Проста перарве напалам, — сказаў Эд.

— Я таксама гаварыў, — сказаў Джордж.

— Перарве напалам. Проста дух выпусціць.

— Можа, пайсці і сказаць яму гэта яшчэ раз? — спытаў Джордж.

— Ідзі і не спазніся, прыгажунчык, — сказаў Джэк.

— Мушу пайсці, бо Папа Хэм можа, не прысеўшы, зрабіць апавяданне, дзе нават словам не абмовіцца пра свята, якое заўсёды з ім, — наогул ні пра што ўцямна не скажа. Ён усё схавае ў падтэксце. У яго тэорыя такая — пра айсберг, якога толькі вяршынька бачна зверху.

— І правільна, — сказаў Джэк. — Канцы ў ваду і ўсё. Не, гэты Хэм, ён не дурны ў іх. Га, Эд?

— Так, ён не дурань, — сказаў Эд.

Кухар Джордж наблізіўся да стала Білі Андэрсана і нешта пашаптаў яму на вуха. Білі грукнуўся на падлогу ўсё роўна як з-пад яго выбілі крэсла. Ён ляжаў нерухома.

— Гэты хлопец гатовы, — сказаў Джордж, вяртаючыся да стойкі. Ён уздыхнуў і ўзяўся праціраць стаканы.

З таго месца, дзе ляжаў Андэрсан, данесліся стогны і мармытанне. Усе пачалі прыслухоўвацца.

— Ну добра... — стагнаў Білі, — цяпер я навучыўся пісаць свае апавяданні так, што іх ніхто не разумее. Добра... Але я яшчэ напішу пра паляванне на снежнага чалавека... Я яшчэ пакажу зімовы веладром у Парыжы, дзе сталы стаялі пад дрэвамі, а не так, як тут, і афіцыянтамі працавалі былыя баксёры... І той асаблівы свет шасцідзённых гонак, калі вялікі Джойс, гэты Уліс у чорных акулярах, ужо амаль сляпы, сагнуўшыся ў тры пагібелі над рулём і не збаўляючы хуткасці, смактаў каньяк з гумавай грэлкі за пазухай пад майкаю, пакуль не разбіўся ўшчэнт... І тое, як пачуўся гук яго трэснутага пад шлемам чэрапа — быццам цюкнулі аб камень крутое яйка падчас снедання ў Булонскім лесе...

— Не трэба, Білі, — сказаў Джордж. — Ты супакойся, Білі.

— Мне ўжо цяжка дыхаць, — мармытаў Андэрсан. — Але, здаецца, усё ў свеце можна ўціснуць у адзін абзац, толькі б здолець...

— У гэтым уся справа, — зноў уздыхнуў Джордж. — Толькі б уціснуць, Білі.

— Пойдзем адсюль, — падняўся Эд. — Пойдзем адсюль хутчэй.

— Страшна падумаць, — сказаў Джэк, таксама падымаючыся. — Страшна падумаць, як ён ляжыць там пад сталом і ні слова не можа накрэмзаць, каб пабіць Хэма.

— Не падабаецца мне гэта, — сказаў Эд. — Не падабаецца і ўсё. Нічога не магу з сабой зрабіць.

— А ты і не рабі. Здаецца, мы ўжо нарабілі, — сказаў Джэк. — У самы раз згадаць цяпер пра айсберг. Канцы ў ваду — і ўсё.

— У падтэкст. Не, гэты іхні Хэм — не дурань, — сказаў Эд.

## ІНШАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

**(Паводле Станіслава Лема)**

Лазерная касмічная станцыя мякка, неяк неўпрыкмет, пасадзіла карабель Бірулі на штучны спадарожнік планеты Салямус.

Біруля доўга, як у сне, ішоў пустымі калідорамі, пакуль адшукаў кабінет Доктара. Дзверы былі зачыненыя знутры.

Біруля пабег па лабірынту пераходаў, што вялі да лабараторыі Прафесара. Ля парога ён спыніўся і пазваніў. З лабараторыі пачуўся выбух нейкай вар'яцкай музыкі, звон разбітага шкла, жаночы смех і віск. Потым данеслася:

— Не ўваходзьце! Я прашу, я загадваю: не ўваходзьце!.. Я выйду сам.

Біруля адхіснуўся. Дзверы крыху прыадчыніліся, з іх вытыркнуўся Прафесар. З-пад яго расхрыстанага на грудзях халата звісаў амаль ужо адарваны каўнер кашулі. Сівая галава была ўскудлачаная, вочы глядзелі праз акуляры ўтрапёна, і на твары ляжалі падобныя на падвоеныя пялёсткі, нечым шчымліва знаёмыя чырвоныя плямкі.

— Што вам трэба, Біруля? Прабачце, я зараз не магу...

Тут Прафесара нешта тузанула і пацягнула назад, ён ірвануўся, учапіўся за вушак і, ледзь утрымліваючыся на парозе, пачырванеўшы ад напружання, закрычаў:

— Вяртайцеся да сябе! Я не магу быць з вамі ні хвіліны. Усё — па тэлесувязі!

— Дзверы за ім зачыніліся.

— Усё — па тэлесувязі! — данеслася да Бірулі ўжо з лабараторыі разам з радаснымі дзявочымі воклічамі.

Ён знайшоў нарэшце свой пакой і выклікаў Доктара. Экран асвяціўся. Доктар глядзеў на Бірулю, сумна ківаючы галавой:

— Я толькі што аслабаніўся, Біруля. Калі ты прыходзіў, у мяне таксама былі госці. Як і ў Прафесара. Так-так... Ты чуў старт ракеты? Гэта я адправіў іх. Але ўжо заўтра...

— Доктар, вы можаце нарэшце сказаць, што ў вас тут адбываецца?

— Ну што ж, — уздыхнуў Доктар, — гэтага трэба было чакаць. Мы прагнулі кантакту з незнаёмай цывілізацыяй. Мы атрымалі гэты кантакт... Іншая справа — ці патрэбны ён нам...

— Я слухаю ўважліва, Доктар.

— Дык вось, выявілася, што гэтую планету Салямус акаляе Разумны Акіян неспасціжнай пакуль для нас плазмы. І — ты можаш уявіць? — ён ідзе нам насустрач. Ён шукае мову, сродак сувязі з намі. Ты сочыш за маёй думкай, Біруля?

— Не тое слова...

— Здаўна гэты Разумны Акіян неяк увабраў у сябе, заглынуў нашыя жаданні, якія мы стрымлівалі ў сабе, якім мы не давалі выйсця і пра якія мы... саромеліся гаварыць уголас. Разумееш? У кожнага з нас ёсць такое... І вось цяпер ён, гэты Акіян, ён дасылае нам тыя прыгнечаныя — а мо ўжо і зняважаныя жаданні. Ён дасылае нам іх у вобразах, з якімі мы звыкліся на Зямлі. Ён хоча нам неяк дагадзіць і робіць так, каб здзейснілася тое, чаго мы некалі патаемна жадалі на сваёй планеце. І гэтыя вобразы ты не адрозніш ад усяго сапраўднага, чалавечага. Вось у чым справа. Ім немагчыма супрацьстаяць. Не стае сілы...

Біруля слухаў, стаіўшы дыханне. Потым адважыўся спытаць:

— І што ж гэта за жаданні?

Але ў гэты час на другім тэлеэкране ў пакоі Бірулі з'явіўся Прафесар:

— Калегі, увага! Ёсць магчымасць зняць непрадбачаныя перашкоды ў працэсе нашых даследаванняў на гэтай планеце. Не забывайцеся, што і мы, і нашыя жаданні — толькі мроі і трызненне пісьменніка Станіслава Лема. І калі мы паведамім Акіяну галоўнае жаданне самога Лема — а яно мацней за ўсе нашы разам узятыя, — дык можам спадзявацца, што Акіян цалкам пераключыцца на яго і пакіне нас у спакоі. Папярэднія разлікі першай групы маіх кампутараў паказваюць, што...

— Да д'ябла вашыя разлікі! — закрычаў Доктар. — Біруля, дзейнічайце, а не дык хутка да нас зноў з'явяцца гэтыя... нашы госці. Паведаміце Разумнаму Акіяну самае вялікае жаданне Лема, — вы ж павінны яго памятаць, гэта ваш любімы пісьменнік.

Біруля надзеў на галаву шлем прыстасавання-перадатчыка, засяродзіўся і пачаў сувязь з Акіянам. Кампутары, што запісваюць думкі, выводзілі: "Мне вельмі хацелася б зноў напісаць што-небудзь накшталт майго "Салярыса". Станіслаў Лем".

Адказ быў хуткім: "Так шанцуе толькі раз у жыцці".

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Колькі вакол нас ворагаў! Нядобразычліўцы, сябры нашых нядобразычліўцаў, нядобразычліўцы нашых сяброў. Непрыхільнікі, сябры нашых непрыхільнікаў, непрыхільнікі нашых сяброў. Зайздроснікі, сябры нашых зайздроснікаў, зайздроснікі нашых сяброў. Розныя там шкурнікі, зводнікі, шкоднікі... Трымай, дружа, а ці не ворагі мы ўжо самі сабе?

●

Пра што пішуць газеты? Чытач паведамляе, што знае, як грошы здабываюць. Купляеш цераз знаёмых у нацбанку долары, выкідваеш на рынак, і маеш намнога больш. Зноў купляеш і зноў кідаеш на рынак і так колькі хочаш разоў... Пра што пішуць газеты? Пра тое, што вярэдзіць душы чытачоў.

●

Якія фуражкі, матуля, колькі ў іх шарму! Вышэйшыя па тулы толькі ў румынскай арміі. Ідэйнае пераўзбраенне? Усё гранічна проста: прызначылі міністра ніжэйшага па росце.

●

Няўцямнасць — найвышэйшы шык, свядомасць — толькі цень несвядомасці. "Не зразумеў", — кажа мужык, і невядома, у каго ўсё дома.

●

Была вёсачка "неперспектыўная", адстаялі намаганнямі калектыўнымі. — І жыве вёсачка — дзіва дзіўнае! — Каб жа так, браце, а то пры сённяшняй бесперспектыўнасці...

●

"Зеленбуд" не садзіць, а нішчыць таполі... за выкарчоўку плацяць у два разы болей.

●

Носяць цагліны з падвала наверх. Адзін па адной, другі па тры. Хто з іх нядбалы? Смяюцца майстры, і так ясна, той, што пра тры, — чужаецца падвала.

●

— Няскора ўцякаюць толькі трусы, — з пагардай гаварылі зайцы.

●

Слухала славутага тэнара? Скарэй наадварот. Не слухала, а сачыла, як разяўляе рот. Яна, адзіная ў зале, вакал выкладала, і калі здабыванне гуку навука, дык чаго спрачацца, дзе пачынаецца навука і дзе заканчваецца мастацтва.

●

Коней у Фінляндыі разводзяць цыганы. Адмыслова адкормлены рысакі-скакуны. А ў Якуціі коні самі здабываюць сабе корм. Вось бы нам такіх, скажу без дакору. А што да скакуноў, дык, можа, запазычыць у фінаў цыганоў?

●

Ветэранскае. Абудзіць генерала мог толькі ад'ютант. "Таварыш камандуючы, гусі ляцяць", — гучна крычаў ён і біў сябе па ляжках. Апантаны паляўнічы, генерал падхопліваўся, ішоў карміць сабак, а тады ўжо да тэлефонаў. І ўсё ж ні адзін бой генерал не прайграў, быў нават адзначаны за вызваленне Беларусі. А вы кажаце "таварыш камандуючы", а вы кажаце "гусі", з самім маршалам паляваў генерал.

●

— Пра іншых трэба меркаваць, гледзячы на сябе, — казала пудзіла.

●

Загадка (з яўрэйскай). Што вышэйшае за дом і спрытнейшае за кошку? — Я вышэйшы за дом, — сказаў дым. — І я спрытнейшая за кошку, — сказала мышка.

●

Нашто муміфікавалі Леніна, хіба так ён будзе жыць? Толькі клопат будучым пакаленням, што з мерцвяком рабіць. А ўжо новая чарада карыфеяў спіць і бачыць сябе ў маўзалеях. Дык мо цяпер ад садружнасці нацый забараніць усялякую муміфікацыю? Мы толькі адным тады рызыкуем, што нехта цішком сябе забальзамуе.

●

"Не засмечваць рэкламай!" — надпіс жыльцоў на паштовай скрынцы. Вось бы такую — слова ў слова — на галоўным тэлевізійным будынку.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 21.5.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 3124/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12